ISSN 0234—1387

10

ЦЕНІ ЎЧАРАШНЯГА ДНЯ

АЛЯКСЕЙ ГЕРМАН: «ПРАВЕРКА ЖЫЦЦЁМ»

СЁННЯШНІ І ЎЧАРАШНІ ДЗЕНЬ КАМСАМОЛА

АНДРЭЙ ПОЛАЦКІ І ЯГО ЧАС

ШТО ЗА «ХІТ-ПАРАДАМ»?

# крыніца

# ЧАС! НАПЕРАД?

## ЛЕНІНСКАМУ КАМСАМОЛУ — 70 ГАДОЎ



Пагаворым пра камсамол. Пра яго сённяшні і ўчарашні дзень. Пагаворым без юбілейнай траскатні і непатрэбнага пафасу. Бо камсамол — гэта юнацтва, а юнацтву ні для чаго траскучыя словы. Яно цудоўнае само па сабе!

Агонь рэвалюцыі выклікаў у маладых надзвычайны патрыятызм. І рамантыка тых далёкіх дваццатых была не вымучаная, а сапраўдная і натуральная, як дыханне, як жыццё! І тое, што было зроблена тады, у дваццатыя і трыццатыя гады, зроблена было дыхтоўна, як след. Тут ужо любыя перагляды і рэвізіі няўладныя.

Але паглядзім праўдзе ў вочы — услаўляць камсамол Днепрагэсам і Магніткаю, Камсамольскам-на-Амуры і цаліною, бачачы ў гэтым нейкую самамэту, не варта. Можа, яшчэ і таму, што нельга ісці дарогаю, прытрымліваючыся адных і тых самых верставых слупоў. Дарога становіцца даўжэйшая, і патрэбны новыя арыенціры... Пракладваюцца і новыя дарогі. А калі быць больш дакладным, то ў кожнага чалавека павінна быць свая дарога жыцця. Як свой твар. Свой почырк і характар. Толькі вось многія гады ў нас, на жаль, прымервалася да моладзі уніформа адзінага ўзору. З першых дзён камсамольскага жыцця яна аблягчала працу душы і розуму, падносіла няпростыя ісціны ў зручнай абгортцы: разгарні паперку — і праглыні, як салодкую вітамінную таблетку... Не думай, не аналізуй, не задавай складаных пытанняў, а плаці своечасова ўзносы, не прапускай сходаў і... не высоўвайся — вось ты і выявіш сваю... актыўную жыццёвую пазіцыю. Парадокс: чым меней было ў маладым чалавеку гэтай актыўнасці, тым «больш актыўнай» лічылася яго жыццёвая пазіцыя. І вось ужо сфармавалася цэлае пакаленне добра ўладкаваных у жыцці маўчуноў. Зручных, пакорлівых, паслухмяных. Шчырасць падмянялася траскатнёю з паперкі, смеласць — крытыкаю пад распіску, грамадзянская пазіцыя — флюгерствам. А вакуум, што ўзнік паміж сапраўдным і жаданым, запаўняўся мільёнатонным папяровым валам.

Вядома, гэта датычылася не ўсіх — пацвярджэннем сказанага могуць быць не толькі БАМ і КамАЗ, але і будзённая, упартая праца маладых на палях і будоўлях, у цэхах і лабараторыях, служба нашых равеснікаў у шэрых шынялях, зусім маладых людзей, якія выконвалі свой інтэрнацыянальны абавязак.

Было цяжка. Задушлівая атмасфера застою рвала хісткія межы, што раздзялялі слова і справу, вучыла цынізму і хлусні. Але, нягледзячы на гэта, моладзь верыла ў вышэйшыя ідэалы, набліжаючы іх непрыкметнай сваёю працаю.

І ўсё-такі багата што было ўпушчана. А самае крыўднае, што замест няўрымслівых камісараў, сапраўдных застрэльшчыкаў і падзвіжнікаў, у нашых камсамольскіх радах з'явіўся асаблівы, народжаны і вышкалены часам тып, які — непаразуменне — называўся камсамольскім работнікам. Там, дзе быў патрэбны аўтарытэтны важак, карчагінец, з'явіўся юны чыноўнік-кар'ерыст.

І пра які ўжо тут лозунг «Дайсці да кожнага» магла быць гаворка! З вяршыні папяровае гары радавы камсамолец і відзён нат не быў — надта ўжо далёка было да яго. Горка ўсё гэта. Прыкра. Але яшчэ больш прыкра, калі час ад часу зноў спрабуюць адхрысціцца ад усяго гэтага. Маўляў, навошта варушыць тое, пра што ўжо не раз казалася! Навошта падрываць аўтарытэт Саюза моладзі!

Праўдаю аўтарытэт не падарвеш! Праўду нельга рэгуляваць, як кнот у ліхтары. А яе, на жаль, рэгулявалі дзесяткамі гадоў. Прыглушалі да такой ступені, што святло не праглядвалася, а то і згасала зусім. А раз няма праўды, дык яе месца зойме хлусня. Няма пазіцый — будуць эластычная гнуткасць і бесхрыбетнасць. Няма рамантыкі — будуць цынізм і абыякавасць.

І пра гэта трэба гаварыць на ўвесь голас, памятаючы словы правадыра аб тым, што лепшы спосаб адзначыць юбілей — засяродзіць увагу на яшчэ нявырашаных пытаннях. А іх у нас, таварышы, шмат! Старэюць нашы фермы — не хапае маладых даярак. У паляводчых брыгадах працуюць пераважна ветэраны калгаснай вытворчасці. Сёння яны здабываюць славу працоўнай Беларусі, але паглядзім у заўтрашні дзень — хто прыйдзе ім на змену? Хіба гэта не задача для камсамола? Падае прэстыж рабочых прафесій і адначасова растуць конкурсы на курсы барменаў. Хіба не варта камсамольскім камітэтам усур'ёз падумаць пра тое, як выправіць выкрыўленне грамадскіх і сацыяльных каштоўнасцей? Хіба не павінна турбаваць нас тая акалічнасць, што ў армію ідуць юнакі, фізічна не падрыхтаваныя выконваць задачы, пастаўленыя перад сучаснымі ўзброенымі сіламі?

Працы сапраўдным патрыётам Айчыны, маладой гвардыі — непачаты край. Толькі нельга нам зноў збівацца на кампаніі і пачыны, на папяровыя штормы і штылявыя справы.

XX з'езд камсамола расчыніў насцеж дзверы камітэцкіх кабінетаў, праняў крутым скразняком іх застойны дух. І забілі крыніцы ініцыятывы ў пярвічных камсамольскіх арганізацыях. Не спушчанай зверху, а народжанай шчырым парывам, імкненнем нешта змяніць у жыцці ў лепшы бок. Як, напрыклад, у саўгасе «Налібоцкі» Стаўбцоўскага раёна. Калі сакратаром камсамольскай арганізацыі саўгаса абралі Віктара Макася, першае, што ён зрабіў — прывёў сваіх камсамольцаў да помніка аднавяскоўцам, якія загінулі на вогненных палях вайны. І, можа, упершыню за многія гады занядбаласць вакол яго балюча ўдарыла па сумленні. Зрабілі агароджу, сцежкі, разбілі кветнікі, пасадзілі дрэвы. І ўсе гэта ўбачылі. І ацанілі. Зусім інакш прагучала ў вуснах людзей — камсамол...

Далей — болей. Там, дзе рэйсавы аўтобус абрываў свой маршрут з-за бездарожжа, зрабілі дарогу. І не раз ім было сказана ад душы: дзякуй!

Зноў «тэорыя малых спраў» — можа сказаць які-небудзь прыхільнік глабальнасці. Што на гэта адказаць? Толькі адно — канкрэтная, рэальная справа можа адначасова прынесці карысць многім і маральна ўзняць тых, хто не толькі душою ўспрыняў чыйсьці боль, але і па-сапраўднаму адгукнуўся.

Мы адзначаем 70-годдзе камсамола і пільна ўзіраемся ў ягоную гісторыю, а значыцца, і ў саміх сябе.


ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**крыніца**

№ 10
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

Рэдакцыйная калегія:

Генадзь БУРАЎКІН
Аляксей ДУДАРАЎ
Леанід ЕКЕЛЬ
(намеснік
галоўнага рэдактара)
Міхась КАЦЮШЭНКА
(першы намеснік
галоўнага рэдактара)
Уладзімір ЛАБУНОЎ
Міхась ПАДГАЙНЫ
Аляксей СКАКУН
Мікалай ЧАРГІНЕЦ
Павел ЯКУБОВІЧ

Мастацкі рэдактар
Сяргей ФІЛІПАЎ

Тэхнічны рэдактар
Марына МАЛЕЦ

Выдаецца на рускай
і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ:
220807
г. Мінск, ГСП,
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-61-42, 36-61-13, 36-60-71

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.08.88.
Падпісана да друку 21.09.88.
АТ 06400.
Фармат $60 \times 90^1/_8$.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,9.
Зак. 1144.
Тыраж 39 920 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79



© «Крыніца», 1988






## «НЕ БАЧЫМ ВА ЎПОР»

У сёлетнім чацвёртым нумары «Крыніцы» пад рубрыкаю «Люстраная зала» мы прачыталі ліст дзяўчынкі Анжэлы з г. Магілёва пад назваю «Ненавіджу» і не маглі застацца абыякавыя да тае пошласці, якая там напісана. Як магла гэтая Анжэла практычна адмовіцца ад сваёй маці дзеля ануч?! Яна папракае маці за ўбоства думак, хоць менавіта яна сама вельмі абмежаваны чалавек. Зрабіць культам анучы і «прыгожае» жыццё і лічыць сябе пасля гэтага шматбакова развітым сучасным чалавекам — прымітыўна да жудасці! Асабіста мы скончылі восем класаў і лічым сябе нармальнымі людзьмі, а калі гэта Анжэле і падобным да яе так важна, дык можам дадаць, што і апранаемся прыстойна. Сустракаемся з хлопцамі (дзеля гэтага зусім неабавязкова хадзіць па дыскатэках), аднак ідэал сучаснага чалавека ў нас зусім іншы. А такая фраза ліста, як «па-мойму, кожны хоча жыць прыгожа» і далейшыя разважанні наконт таго, што гонар цяперашнім дзяўчынкам непатрэбны, бо хлопцы ганарлівых «ва ўпор не бачаць», абурылі і абразілі нас да глыбіні душы, як незаслужаная аплявуха. Бо часопіс выпісваюць і чытаюць тысячы людзей. І закляйміць ярлыком пошласці ўсю моладзь — злачынства! Мэта нашага адказу на Анжэлін ліст не ў тым, каб прачытаць натацыю або пераканаць гэтую «сучасную дзяўчынку», а каб давесці такім вось анжэлам, што не ўсе імкнуцца да лёгкага жыцця. І сэнс жыцця бачаць у чымсьці большым, чым прыкрыванне цела звышмоднай вопраткай і прагулкі з «сімпотнымі» хлопцамі па рэстаранах і барах. Вядома, мы маглі б прывесці тысячы доказаў, каб пераканаць Анжэлу. Маглі б сказаць, што чалавека ад жывёлы адрознівае розум! Жывёліны таксама здабываюць сабе ежу, нават мяняюць афарбоўку апярэння і шкур, але ж галоўнае ў чалавеку — мозг. А ўсё астатняе — толькі дадатак. Мы маглі б пачаць размову пра высокія ідэалы, пра сапраўдных людзей з цудоўнай душою, але пра што можна гаварыць з чалавекам, які самастойна апускаецца да прымітыўнага амёбнага развіцця?! А жыццё ж такое разнастайнае і цікавае і ў той самы час такое малое! На свеце багата чаго нязведанага, неадкрытага, неасэнсаванага чалавекам. І марнаваць яго, ды яшчэ ў такой нізасці і брудзе,— злачынна! А такім вось анжэлам не месца ў нашым савецкім грамадстве! Такіх, калі не выправяцца,— пад расстрэл! Марыць выйсці замуж за іншаземца толькі з-за «прыгожага жыцця»? Лухта сабачая!!! Шкодная лухта. Яны не разумеюць, што жалю вартыя ў сваім імкненні быць «сапраўды сучаснымі». І яшчэ дужа крыўдна за нашых хлопцаў. Няўжо яны на самай справе ўсе такія дрэнныя, за вылікам нямногіх? Чаму пра іх склалася ў дзяўчынак такая думка, што дзеля таго, каб спадабацца нашым хлопцам, трэба абавязкова пакрываць твар маскамі, каб не было відаць нічога чалавечага — усе пад адзін стандарт, трэба паводзіць сябе проста вульгарна і страціць, нарэшце, ўсялякі гонар? Інакш не заўважаць, не ацэняць, не захочуць знацца? Чаму? Пасля такога ліста можна яшчэ доўга дыскутаваць, але на заканчэнне хочацца сказаць: «Анжэлы, не спяшайцеся з высновамі, не раўняйце ўсіх пад адзін свой брудны грабеньчык! Не маеце права думаць пра ўсіх так брыдка!»

**Святлана С. і Юля Р., камсамолкі**

г. Гродна

## КАМУ ПАТРЭБНЫ ГЭТЫ «КАМУФЛЯЖ»!

Ёсць у нашым жыцці з'явы, якія даводзіцца назіраць кожнага дня. Да некаторых мы прызвычаіліся і лічым, што так і павінна быць. А да некаторых, наадварот, адчуваем прыхаваную агіду. Але паколькі ўсе маўчаць, мы таксама робім выгляд, быццам нічога асаблівага не адбываецца.

Не, таварышы, адбываецца, ды яшчэ як! Давайце станем пасажырамі прыгараднага цягніка ці аўтобуса, лепш за ўсё ў выхадны дзень. Толькі не думайце, што я буду весці размову пра цеснату, вульгарныя паводзіны некаторых асоб. Усё гэта вельмі нядобра, але ў мяне іншая тэма для размовы... Вось і з'яўляюцца мае «гераіні». Хто яны? Яны выпускніцы сельскіх школ (менавіта пра іх і пойдзе гаворка). Уваходзяць страката апранутыя і своеасабліва расфарбаваныя гурты дзяўчынак, і едуць яны не на карнавал, а дадому, да бацькоўскай хаты, якую пакінулі калісьці, з'ехаўшы ў горад шукаць свой лёс.

Зразумела, што многія з тых, што трапляюць у бурлівы кругаварот гарадскога жыцця, страчваюць сваё аблічча, імкнуцца ва ўсім браць прыклад з «мясцовай інтэлігенцыі»: апрануцца як мага больш страката, расфарбавацца ва ўсе колеры вясёлкі, прыдбаць цыгарэты — і суцяшаць сябе думкаю, што ўжо «гарадскія». Я не закранаю ўнутраных якасцей маіх «гераінь». Не выключаю, што яны добрыя вучаніцы, прыстойныя і разумныя дзяўчыны. Але, як кажуць, «па вопратцы сустракаюць»... І калі такую сустрэнеш — што пра яе можна падумаць? Дзяўчынкі, зірніце на сябе з боку і, можа стацца, усё зразумееце. Хачу даць вам параду: не спяшайцеся зрабіцца такімі гараджанкамі! Паспрабуйце знайсці свой стыль, свае манеры, раскрыйце вочы!

Сыход моладзі з вёскі робіцца немалаважнай праблемай. Але, здаецца, яшчэ большай праблемай для вёскі будзе тое, як адмыць, ачысціць, надаць чалавечы выгляд сваім жыхаркам.

Гэты ліст не бязглуздзіца аднаго дня. Я займаюся спортам і ў сувязі з гэтым даводзіцца многа ездзіць. І нідзе, як у нас на Беларусі, не распаўсюджаны такога тыпу «маскіроўкі». Хочаце пераканацца — паездзіце тыдзень-другі ў прыгарадных цягніках.

**Інга ШЭЛЕПАВА**

г. Полацк



## ЗАКОН ЁСЦЬ ЗАКОН

Цяпер у друку падымаецца багата актуальных пытанняў, але адно з іх, як мне здаецца, асвятляецца недастаткова і нават замоўчваецца. Гэта ўзаемаадносіны савецкіх і замежных грамадзян, у прыватнасці студэнтаў, якія вучацца разам. І мы спадзяёмся, што часопіс дапаможа разабрацца ў справах, з якімі пакуль не можа і не хоча справіцца інстытут, міліцыя, пракуратура.

Спачатку хачу расказаць пра выпадак, які адбыўся са мной нядаўна. Выйшаўшы ў калідор на сваім паверсе, я ўбачыў, як два замежныя студэнты выносяць з агульнай кухні стол. Натуральна, у мяне ўзнікла зразумелая цікавасць да накірунку руху нашага грамадскага інвентару. На маё пытанне яны адказалі выразам з трох слоў, выявіўшы тым самым дасканалае веданне рускае мовы. Я пайшоў за імі і каля пакоя яшчэ раз спытаўся тое ж самае, але гэтым разам замест адказу мяне паблажліва паляпалі па фізіяноміі, зноў мацюкаючыся.

Вядома, можна падумаць, што гэта нацыянальная асаблівасць, выяўленне прыязнасці, але ў СССР гэта ўспрымаецца як абраза асобы, і ў досыць грубай форме. Завязалася бойка паміж мною, з аднаго боку, і трыма замежнымі студэнтамі — з другога. Тое, што рускі, як звычайна бывае, не пайшоў, праглынуўшы крыўду, а стаў бараніць сваю годнасць, выклікала ў іншаземцаў усё большае раздражненне, не пазбавіўшыся якога двое з іх дасталі нажы. Падрабязнасці бойкі я апісваць не буду, скажу толькі, што кульмінацыяй яе была нажавая рана, якую я атрымаў у плячо. А іншаземцы ўвечары гулялі на вяселлі ў рэстаране «Планета».

У вас, магчыма, узнікла пытанне, якое пакаранне панеслі потым іншаземцы, што рабілі замах на здароўе і жыццё грамадзяніна СССР? Можа, яны цяпер сунуцца па этапе ў напрамку Магадана ці, прынамсі, яшчэ знаходзяцца ў следчым ізалятары, ці хоць бы высланы на працягу сарака васьмі гадзін за межы СССР (бо ж закон у нас у краіне для ўсіх аднолькавы)? Памыляецеся: жывуцьпажываюць, бяды не ведаючы, праўда, адзін з іх атрымаў вымову за нястрыманасць, зрэшты, як і я, за «справакаваную бойку».

Следчы Савецкага РАУС Міхальцоў не захацеў ламаць звычны стэрэатып, які склаўся ў нашай краіне: «іншаземец заўсёды мае рацыю», і адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

Пра вынікі такога патурання няцяжка здагадацца, і доказы мы атрымалі вельмі хутка. Праз тыдзень сірыец на маім паверсе нанёс некалькі нажавых ран савецкаму студэнту, які цяпер знаходзіцца ў рэанімацыі, а іншаземец, як вы ўжо здагадаліся, ходзіць па інтэрнаце і адзінае, што можа пакрыўдзіць яго, дый то на вечар, гэта адсутнасць апетыту за вячэраю пры ўспаміне аб залітым крывёю пакоі.

Ну што ж, трэці інцыдэнт паводле законаў жанру павінен закончыцца забойствам.

Калі ж мы навучымся паважаць саміх сябе?! Калі дзяржава ўбачыць у нас сваіх грамадзян, калі ў нас знікне падманны інтэрнацыяналізм?! А таксама патуранне ў дачыненні да тых, хто не паважае нашых законаў? Да якога часу мы будзем дапускаць, каб асобы з замежным пашпартам не неслі ніякага пакарання за парушэнне савецкіх законаў? Я думаю, што савецкія людзі за мяжою так сябе не паводзяць.

**З павагаю**
**Я. ПАРАКЕВІЧ,**
**студэнт энергафака БПІ**
і яшчэ 34 студэнты, у тым ліку грамадзяне ВНР — навучэнцы БПІ.

## А КАЛІ ЁН ЎСЁ-ТАКІ ВЕРНЕЦЦА?

Прачытаў у шостым нумары часопіса ліст Барыса Стэпо «Калі вернецца стары час», і захацелася мне адказаць праз часопіс яму, дый не толькі яму.

Барыс Стэпо з юнацкім максімалізмам сцвярджае, што ён абураецца бессаромнасцю і цынізмам людзей старэйшага пакалення, якія выкрываюць той час, што цяпер называюць застойным перыядам, і пытаецца, чаму яны раней не выкрывалі недахопы і заганы.

Я належу да пакалення, чыё юнацтва прайшло ў часы таго самага «рулявога», пра якога адзін англійскі дыпламат сказаў, што самы «прамовісты» дзеяч нашае эпохі моўчкі сышоў са сцэны.

Ёсць такія людзі, якія, калі спатрэбіцца, дык і ленінскую цытату гэтак павернуць, што яна на іх іграць будзе. Гэтыя дэмагогі ад марксізму ўмеюць добра гаварыць, але, у адрозненне ад звычайных балбатуноў, якія пакутуюць на хранічны «славесны панос», яны яшчэ ўмеюць дзейнічаць і дамагацца свайго.

Упершыню з прадстаўніком гэтага жывучага племені я сутыкнуўся, калі мне было чатырнаццаць гадоў. У той час, абчытаўшыся прыгодніцкай літаратураю, я занудзіўся і ўцёк з дому ў пошуках прыгод.

Затрымалі мяне ў Растове-на-Доне і адразу ж даставілі з вакзала ў сумна вядомы дзетпрыёмнік. Там я акунуўся ў тую самую чорную Арагву, пра якую пісаў Мядынскі, і шмат з таго, чаго я саромеюся ў сабе, засталося з нядоўгага майго жыцця-быцця ў гэтай яме. Я чуў, што нават бывалыя крымінальнікі ўздрыгваюць пры згадцы аб месцах ізаляцыі непаўналетніх праваparушальнікаў. Дзіцячая жорсткасць увогуле нелагічная і бессэнсоўная, а тут, у свеце скажоных адносін, яна дасягае свайго апагею.

Пасля таго як я пабыў у гэтай «выхаваўчай» установе тры месяцы, мяне і яшчэ трох хлопцаў адправілі дадому ў суправаджэнні супрацоўніка дзетпрыёмніка Салаўёва. Мне яшчэ тады здалася дзіўнаю тая акалічнасць, што Салаўёў, які атрымаў на нас праязныя грошы, вёз нас як прыйдзецца — у тамбуры, у купэ праваднікоў, а іншы раз і на даху вагона. І ўсё гэта дзеля таго, каб зэканоміць гэтаму педагогу некалькі лішніх чырвонцаў. Затое як ён заліваўся за багата серціраваным сталом у кампаніі бацькоў аблудных сыноў, як роспачна наракаў на свой цяжкі крыж, які ён вымушаны несці дзеля бяспекі грамадства.

І мы, маладыя людзі з яшчэ досыць кволай самасвядомасцю, верылі ім. Верылі ў іх прыгожыя словы, якімі яны абдумана жангліравалі. Верылі ў тое, што калі і здарыцца несправядлівасць, то абавязкова з'явіцца добры дзядзечка з райкома, гаркома ці ЦК, і справядлівасць возьме сваё. А як жа інакш, нам жа гаварылі і гаварылі, не шкадуючы фарбаў, што ў нас самы ідэальны грамадскі лад, у партыі толькі годныя, крыштальна чыстыя людзі, а народ наш жыве заможна, ударна працуе і натхнёна ўхваляе мудрыя рашэнні партыі і ўрада. Мы жывём у еднасці, любім адно аднаго. І ідзём наперад, да светлае будучыні, якая не за гарамі. Плячо ў плячо, у нагу левай, левай.

Штосьці ва ўсім гэтым было знаёмае, статкавае, нагадвала масавы псіхоз і ўсеагульную замілаванасць на крывавай каранацыі «імператара ўсея Русі».

Многія з майго падманутага пакалення так і не змаглі выціснуць з сябе раба і ўстаць на ногі.

Хочацца, вельмі хочацца верыць, што цяпер, пасля XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС, многае зменіцца. І нам усім, і прадстаўнікам старэйшага пакалення, і моладзі трэба не дэклараваць, а змагацца за тое, каб усё гэта ажыццявілася.

Выбачайце за такі бязладны ліст. Багата чаго назбіралася ў душы, вось і захацелася выказацца.

Са шчырай павагаю

**Уладзіслаў ВОЛКАЎ**

## Казімір СВАЯК

## СПАДЧЫНА

### СВАРОГА СЛУГІ...

**Пасьвячаю Янку Купалу ў 25-летнія ўгодкі яго літаратурнай дзяяльнасьці**

Няма ўжо князёў і —
дзякаваць Дажбогу —
паноў гібее валадарства.
А Крывічоў абраду сьветары
агонь Зьніча параскладалі
йзноў.
І між тых сьветароў
Купала сам дарогу
к сьвятыні паказаў:
явіўся Ён на радасьць
Беларусі,
каб словам Перуна
збудзіць душу сяляна,
заспаную з трудоў.
Збудзілася яна —
і дух Народу
распрамянеў магутнай сілай.
І воляю багоў
наноў
ідзець сьвятое Адраджэньне.

Але і цемрыня —
і зводны дух суседа —
і ўладны эгаізм
пярэчаць нам дарогу:
агідствам і нудой
і пекла грамадой.
А мы, Сварога слугі,
чакаем Перуна:
мо Духа Сын Ён будзе,—
тагды Сын грому
агонь распаліць з неба...
А божы электрон
дасьць усясьветны гром
пад нашаю Айчынай:
каб зьнікла злыбяда:
нягодных грамада,—
да нас каб мог
вярнуцца Бог.

Купалу я вітаю.
З Заходу на Усход
руку даю:
сярмяжную правіцу брата,
вёскі сына,
надзейнага ў трудзе
і жудаснага ў песьні.
Вітаю і малю,
каб геній Твой
сьвяціў-бы найдаўжэй
ажыўленай душы
Народу.

### МНЕ СУМНА...

Мне сумна, што на сьвеце
дарма
Льецца кроў,
Мне сумна, што ідзець
на-марна
Спагад, любоў.
І сумна, калі хто сьмяецца,
Здаецца мне:
Дзе сьмех: там крыўда
задаецца,
Там сум на дне.
Як пуста маладосьць гуляе,
То-ж плачу я:
Затым, што сіла маладая
Ідзець на-зра.
Як бачу хараство харомаў,
Жудосна мне,
Бо з іх тэй штукі, тых заломаў
Крывёй патхне.
Адну пацеху ў сьвеце маю,
Адкуль буду,
Калі зямельку ўрабляю,
З плугом іду.
І хоць мне цяжка і гаротна,
Спакою нет,
Але ў душы ўжо
не маркотна:
Я кармлю сьвет.

### БРАТУ НАСТАЎНІКУ

Ці ў долі, ці ў нядолі,
Не гаруй, брат, аніколі:
Даў Бог хлеба, дасьць і неба,
Дасьць усенька, чаго трэба.

Не сумуй, хоць льюцца
сьлёзы,
Будзь і сьмелы і цьвярозы;
Вер, што Беларус устане,
Згіне хітрых панаваньне.

Духам глянь кругом-наўкола:
Закрасуе наша школа;
Роднай мовай, родным
чынам
Аджывець наш бедачына.

**Паэт Казімір Сваяк і ксёндз Кастусь Стэповіч — гэта адна і тая ж асоба. Вось чаму мы так доўга нічога не чулі пра яго. Баяліся, адмаўлялі, забаранялі. Гэткім страшным, непрымальным, выпадкам уяўлялі любога святара, не зважаючы ані на гістарычную сітуацыю, у якой ён жыў, ані на ўчынкі ягоныя, ані на ягоны лёс.**

**К. Сваяк (1890—1926) быў звычайным заходнебеларускім хлопцам з Ашмяншчыны, які падаўся ў каталіцкую навуку, каб потым процістаяць павальнаму апалячванню нашага народа праз дзяржаўны ў міжваеннай Польшчы каталіцызм. Можна, вядома, з вышыні часу нечым папікаць тагачасных беларускіх хадэкаў (хрысціянскіх дэмакратаў), але нельга забывацца, што яны былі абаронцамі беларушчыны на «крэсах всходніх», трывалым супраціўам нацыянальнаму прыгнёту пілсудчыкаў. Польскія шавіністы маглі і знішчалі беларускія школы і ўстановы, аб'яўлялі «нон грата» любы беларускі рух, судзілі і раскідалі па турмах любых нацыянальных дзеячаў. А вось хадэкаў — не маглі, не смелі падняць руку на ўлюбёны, хоць і не польскі, каталіцызм. Нездарма ж гэты беларускі каталіцызм самі пілсудчыкі называлі нажом у сэрца паланізацыі, а віленскі арцыбіскуп — агентурай камунізму.**

**Беларускія святары правілі службу па-беларуску, перакладалі на родную мову рэлігійныя пісьмёны, шырылі ў народзе беларускае слова, культуру, самі пісалі вершы, публіцыстычныя артыкулы. І, бадай, найбольш прыкметным творцам сярод іх быў Казімір Сваяк. Не страшны, зразумелы, не выпадак. Бо за сваю прыхільнасць да роднага не раз цярпеў ад польскіх уладаў. А ўрэшце і памёр дачасна на 37-м годзе жыцця.**

**Рэлігійнасць ягоная і шэсць кніжак ягоных твораў — з'явы надзвычай складаныя. Светапогляд і творчасць Казіміра Сваяка супярэчлівыя. Пры канцы жыцця задумваўся над сінтэзам вераў на грунце спрадвечнага сялянскага культу. Звяртаўся да славянскага паганскага пантэону: Сварога, Дажбога, Стрыбога. Апяваў паганскія святы: Купалле, Каляды, Дзяды... Вы спытаецеся: а як жа Хрыстос? Так, верыў паэт і ў Хрыста, але...**

**Але... няма Яго ў зямліцы,
Дзе Перуна чакае ўсё народ.**

**Шмат у К. Сваяка сацыяльных матываў («Бярыся ты да працы шчыра і помні, што табе твой пан палеткі, пэўна, не пашыра, каб ты і здох...») і матываў палітычных:**

**Народзе мой! Бярыся за работу,
Загон свой запусьцелы заары.
Працуй-гаруй! Ня бойся сьлёз і поту:
Убачыш сам, як рухне сьвет стары.**

**Шмат (і часам вельмі хваравіта) пісаў К. Сваяк пра каханне, стварыў (зноў жа — паганскі) вобраз распуснай русалкі:**

**Друкаваўся пераважна ў віленскай газеце беларускіх хадэкаў «Крыніца», быў папулярны ў Заходняй Беларусі. У аснове паэзіі К. Сваяка, паводле ацэнкі Ігната Дварчаніна, «ляжыць характэрны для беларускай адроджанай інтэлігенцыі патрыятызм, любоў да абстрактнай гістарычнай бацькаўшчыны, як роўна ж і любоў да народу».**

**У сённяшняй публікацыі вершаў К. Сваяка пакідаем тагачаснае беларускае напісанне.**

**Сяргей ДУБАВЕЦ**



Павел ЯКУБОВІЧ

# На пяцьдзесят восьмым...

## НЕВЯСЁЛЫ РОЗДУМ НА ПАЛЯХ СТАРОГА ПРЫСУДУ

Той чэрвеньскі дзень для Серафіма Іванавіча быў самы што ні ёсць звычайны. Усё як заўжды. Прыйшоўшы ўранку ў арцель «Чырвоны гарбар», дзе вось ужо дзесяць гадоў працаваў закройшчыкам, у перапынку зайшоў у чырвоны куток, пагартаў газеты, паслухаў радыё. Чорны папяровы конус прахрыпеў навіны: нешта пра герояў Арктыкі, пасля пра выбары ў Вярхоўны Савет — па Беларусі балаціраваўся сам жалезны нарком, Генеральны камісар Дзяржбяспекі Мікалай Іванавіч Яжоў, і дыктар нават панізіў голас у знак павагі. Пра Яжова тым летам усе гаварылі з нейкім прыдыханнем у голасе. Потым дыктар расказаў пра неабходнасць яшчэ большай пільнасці і заклікаў слухачоў шукаць і нястомна выкрываць ворагаў народа. Шавец Лукін працаваў яшчэ паўдня, падпісаўся на пазыку, а потым пайшоў дахаты.

Увечары Лукіна чакала побытавая непрыемнасць.

З-за драбніцы ўсё пачалося. Другі месяц, як яго сусед Верамейчык прыходзіў з прэтэнзіяй. Прэтэнзія, уласна, была не да Лукіна, а да старога стогадовага вяза, які рос у Лукіна на двары.

— Спілі, сусед, вяз,— настойваў Верамейчык,— бачыш, які цень кідае. У маім двары, як у студні.

Лукін прызнаваў, што сусед у чымсьці мае рацыю, хаця быў той занадта капрызлівы, напэўна, таму, што любіў пасядзець у нядзелю ў цяньку за чым-небудзь мацнейшым, чым гарбата. Але такі ўжо быў Верамейчык сварлівы — няхай самому будзе горш, затое іншым нервы ой як выкруціць!

Вось і ў гэты вечар Верамейчык перагнуўся цераз плот і зацягнуў сваю звычайную песню:

— Не хочаш, Іванавіч, суседа паслухаць, прыйдзецца вышэй звярнуцца. Ты не думай, што раз ты пралетарый, дык табе ўсё можна.

— Ды адстань ты, сусед,— зморшчыўся Лукін,— пасаромся, вунь дзеці чуюць, што ты вярзеш. Давай лепш абмазгуем, як мы вяз спілім. Гэта ж такая махіна вымахала...

Лукін узняў галаву — над зялёным вязам плыло бялявае воблака...

Быў вечар 12 чэрвеня 1937 года.

А на золку, рыпнуўшы шынамі аб ўзбочыну, каля дома Лукіна спынілася чорная «эмка», з яе выйшлі трое ў аднолькава насунутых на лоб фуражках. Двое сталі пад вокнамі, а трэці забарабаніў у дзверы.

— Адчыніце! Тэлеграма.

Праз гадзіну машына пакаціла ў цэнтр, да аднаго з нямногіх шматпавярховых бабруйскіх дамоў, дзе месціўся аддзел НКУС з ягоным таямнічым і грозным, як паганскі бог, «аператыўным ўпаўнаважаным па Бабруйскім раёне». Яго прозвішча ніхто не называў. Гэта выклікала яшчэ большую пачцівасць і страх.

Праз месяц жонка шаўца Лукіна, якая была ў чарзе спачатку «тры тысячы сто пяцьдзесят трэцяя», змагла трапіць нарэшце да акенца турмы, дзе нехта ў гімнасцёрцы з двума трохкутнікамі на васільковых пятліцах кінуў на спіс кароткі позірк і сказаў:

— Ваш муж, грамадзянін Лукін С. І., асуджаны Асобым пасяджэннем НКУС на дзесяць гадоў далёкіх лагераў. Без права перапіскі.

— За што? — збянтэжылася яна.— Ён не вінаваты.

— У нас ні за што не саджаюць,— скоса зірнуў на яе чалавек у гімнасцёрцы.— Наступны!

Тады жонка Лукіна, канечне, не ведала, ні што такое «Асобае пасяджэнне», ні што такое «без права перапіскі»,— потым, ужо ў пяцідзесятыя гады, хтосьці дасведчаны растлумачыў ёй, што гэта азначае — расстрэл. Даведалася яна і пра тое, што бывалі выпадкі, калі саджалі ні за што... Прычым вельмі шмат выпадкаў.

Сын Лукіна напісаў ліст у рэдакцыю, ён трапіў да мяне, мы сустракаліся. Віктару Серафімавічу даўно ўжо за пяцьдзесят, ён працуе на вялікім заводзе, у свой час закончыў ФЗВ, як сыну ворага народа прыйшлося пайсці з сёмага класа. Віктар Серафімавіч Лукін курыць адну за адной цыгарэты, і ў нас ідзе цяжкая для абодвух размова.

— Я дзесьці ў шэсцьдзесят трэцім годзе прыехаў з цаліны, маці яшчэ жывая была. І неяк кліча мяне да сябе суседка. Плача, кажа, што сёння прыйшла ад дактароў, прызналі рак. Дый па ўсім было відаць, што не жыліца яна: худая, жоўтая. Вось і кажа мне суседка: «Пакаюся перад табою, сынок. Грэх у мяне на сэрцы. З-за майго мужа твой бацька прапаў. Гэта ж мой, пракляты, напісаў тады, быццам твой бацька трацкіст і яшчэ там нешта. Ты не памятаеш, а ён жа, Верамейчык, актывіст быў, першы на сходах выступаў. А калі немцы прыйшлі, дык і тады не разгубіўся, працаваў у бургамістра... Раней у органы пісаў, а потым у гестапа. А бацьку твайго мне дужа шкада, мы ж з ім раслі разам». Як жа так выходзіць? Свой свайго забіў. А задно і мяне, і маці маю. Мы ж так намыкаліся з кляймом «ЧСВН» — член сям'і ворага народа...

Праз нейкі час мне ўдалося знайсці некаторыя архіўныя матэрыялы, якія пралівалі святло на лёс шаўца Лукіна. Уражанне яны пакідаюць фантасмагарычнае.

Ліст суседа, які паведамляў «любімым органам», што Лукін — зацяты вораг народа, затым «пастанова» нейкага сяржанта Дзяржбяспекі Пятрэнкі, напісаная на шматку з вучнёўскага сшытка, у якім гаварылася пра тое, што «ўстаноўлена: трацкіст Лукін задумваў тэрарыстычны акт супраць наркома К. Я. Варашылава, калі той прыбудзе ў горад Бабруйск», і выпіска з прысуду Асобага пасяджэння: «10 гадоў...» І ўсё. Лёс чалавека ўмясціўся ў тры недарэчныя, часам проста паўпісьменныя паперкі з фантастычным тэкстам. Вось якая была цана суседскае крыўды за дужа густы цень, які адкідаў стогадовы вяз...

Але ў гэтай трагічнай гісторыі мяне ўразіў не толькі яе фінал. Мне раптам здалося, што сёння, калі ўжо цяжка здзівіць чытача жорсткасцямі часоў «культу асобы», мы неяк звужаем праблему асэнсавання механізму рэпрэсіўных сіл. Памятаю, як у пачатку шасцідзесятых разрадам маланкі для ўсіх нас стаў салжаніцынскі «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Лагеры, зэкі, бязлітасныя канвоі, рабацягі і злодзеі ў законе — усё гэта тады шакіравала маладых чытачоў, выхаваных на этыцы Паўліка Марозава і эстэтыцы «Кубанскіх казакоў». Але тады пагаварылі, пагарачыліся... і забыліся. Дзесяцігоддзі ідэалагічнай дзейнасці Суслава сталі цеснай павязкаю на ранах народнае памяці. Новыя пакаленні за апошнія два гады даведаліся болей, чым іх бацькі за трыццаць гадоў. Прарывам сталі «Дзеці Арбата». Кніга хоць і «выкрыта» мінскім філосафам Боўшам на адным прадстаўнічым мерапрыемстве, але ўсё-такі была сапраўдным прарывам. Незалежна ад таго, што думаюць некаторыя філосафы і тыя, хто разам з сумна вядомай Нінай Андрэевай «не могуць адступіцца ад прынцыпаў», кніга стала вельмі важнай грамадскай падзеяй. Потым былі «Рэквіем» Г. Ахматавай, «Па праву памяці» А. Твардоўскага, «Знікненне» Ю. Трыфанава, «Белае адзенне» У. Ду-

дзінцава, «Жыццё і лёс» В. Гросмана... Аповесці і раманы В. Ажаева, А. Бека, І. Герасімава, А. Прыстаўкіна, Л. Чукоўскай, В. Шаламава, Б. Ямпольскага, Б. Мікуліча. Выдатна, што спіс гэты поўніцца, выдатна, што некаторыя з аўтараў яшчэ жывыя і, як Леў Разгон, могуць быць сведкамі супраць катаў незлічоных Курапатаў — мардоўскіх і пячорскіх, калымскіх і карагандзінскіх лагераў, здзекліва названых Сталіным — вялікім тэарэтыкам і практыкам усесаюзнага Гулага — «папраўча-працоўнымі». Лагеры нікога не выпраўлялі, яны былі вялікай брацкай магілаю тым, хто штурмаваў Зімні і імчаўся ў коннай лаве па гарачых стэпах...

Мы багата пра што даведаліся і паразумнелі.

Сёння нават той, хто яшчэ тры гады назад клеіў на ветравое шкло машыны партрэт генералісімуса, саромеецца ранейшай фронды.

Але вось адно не дае спакою.

Так, мы ведаем пра Ягоду, Яжова, Берыю, Цанаву. Але ж ці ў іх справа? Дакладней, ці ж толькі ў іх? Як зразумець д'яблаву карусель, якая перамяшала ў жудасным бязладдзі ахвяр і катаў? Катаў і ахвяр... Хто быў хто?

Хіба пракурор Крыленка, які заклікаў да «рэвалюцыйнай цвёрдасці», не быў сабе далакопам? Хіба тыя, хто пісаў у 1938 годзе ў «Советскую Белоруссию» лісты з патрабаваннем «дать по рукам зарвавшимся перерожденцам из ЦК комсомола», не ладзілі сабе эшафот? Хіба не жудасным было тое, што адначасна з Асобымі пасяджэннямі НКУС, «тройкамі» і «прысуцтвіямі» энергічна «ўключаліся ў агульнанародную барацьбу» добраахвотнікі з ліку «народных следчых і грамадскіх пракурораў»? Яны былі вельмі старанныя... Але колькі іх засталося ў Курапатах, побач з тымі, каго яны яшчэ ўчора выкрывалі як злосных і шкодных ворагаў народа? Хіба не страшна, што таямнічае слоўца «трацкіст», кінутае на хаду, а яшчэ лепш, напісанае на шматку паперы, рабілася прысудам? Як лёгка множыліся ярлыкі-прысуды! З якой стараннасцю прамаўляліся... І ці ж не адтуль, не з тых душных казематаў НКУС і сёння цягнецца да нас нядобрая традыцыя ў любым нязвычным чоху бачыць падкопы імперыялістычных агентаў і смела ўзнагароджваць адзін аднаго пачварнымі эпітэтамі накшталт «агента ЦРУ»? А нясцерпны сверб у пошуках «масонаў»? Аматары вострых адчуванняў зусім не задумваюцца пра вынікі...

Ні для сябе, ні для іншых.

На жаль, мы не любім вучыцца на чужых памылках, мы з неверагоднаю ўпартасцю іх паўтараем, мы трацім велізарную колькасць энергіі не на барацьбу з рабствам у сабе, а на пошукі недахопаў і заган у іншых, часта народжаных нашым жа ўяўленнем. Мы апошнімі словамі выкрываем аматараў року і брэйка, узвышаем да нізкапробнай патэтыкі голас супраць нязгодных і пяшчотна песцім слоўцы накшталт «ачарненне», «крытыканства», «пільнасць», такія любыя мастацтвазнаўцам жданаўскай школы... У нас кароткая памяць. Мы забываемся, што, лёгка прамоўленыя, словы гэтыя аддаюць лязгам колаў турэмных вагонаў і смяротнай роспаччу шурфаў, прабітых у вечнай мерзлаце магаданскіх плато...

Мы не задумваемся часам, што творым.

Таму што не задумваліся тыя, хто пісаў даносы на суседзяў і саслужыўцаў, хто з выглядам Жанны Д'Арк імчаўся да трыбуны і ўсюды вышукваў шкоднікаў. Няўжо мы так нічому і не навучыліся, няўжо так і будзем песціць вобраз «ворага»? А хтосьці, сусед, скажам, будзе пільна сачыць за намі. Мы за ім. А ён — за намі. Вось у чым пытанне.

Яшчэ раз чытаю прысуд Лукіну...

Не, не дае спакою праблема, што дасталася нам ад трыццатых гадоў. Праблема стукачоў — хай даруецца жаргоннае слоўца, якое не патрабуе расшыфроўкі ні для акадэмікаў, ні для цесляроў. Хоць наўрад ці гэтае слова ведалі Даль і Ожагаў. У вялікай рускай мове XIX стагоддзя гэтага слова не было. Яно нарадзілася, як гэта ні кашчунна, адначасна з песняю «...Где так вольно дышит человек». Тыя гады былі і часам росквіту «стукачаства» ва ўсіх праявах. Тайнага і яўнага. Ад ліста дворніка «ўстаноўшчыку» з бліжэйшага райаддзела НКУС да грандыёзных кампаній у друку, калі нават «тытаны літаратуры», жывыя класікі, паведамлялі масам пра сваю палітычную чысціню і «вонзали разоблачительный перст» у іншых.

Менш «спрытных», больш сумленных. Пра што яны думалі?

Пра тое, што, паведамляючы «любімым органам» пра «злачынства» суседа па лецішчы, яны купляюць сабе індульгенцыю і права на жыццё? Што ў браніраваных сейфах яжоўскага ведамства іх «патрыятычныя» сігналы знікнуць назаўсёды? Хто адкажа на гэтае пытанне, хто возьме на сябе ролю суддзі людзей, пастаўленых у такія ўмовы (і тых, што самі сябе ў іх паставілі), калі ідэалам лаяльнасці з'яўляецца непрымірымасць нават да ўласнага бацькі, а мераю палітычнай годнасці — колькасць даносаў. Сёння лёгка асудзіць гэтых людзей. Але больш неабходна — зразумець.

З нашага дэмакратычнага сённяшняга дня, калі многае тайнае стала яўным, лёгка кідаць папрокі туды, у 30-я і 40-я гады. Але не трэба спяшаць. Бо чаго вартыя сённяшнія дужа экзальтаваныя заклінанні пра «страту гістарычнай памяці», калі мы сумуем толькі аб тым, што школьнікі слаба ўяўляюць сабе эпоху Васіля Цёмнага ці князя Вячкі? Гісторыю трэба ведаць, але нашмат больш важна ведаць, чаму менавіта так, а не інакш, жылі і паводзілі сябе нашы бацькі. Мы ніколі не зразумеем вытокаў трагедый і неадменна сутыкнёмся з іх паўтарэннем, калі будзем глядзець на нядаўнюю гісторыю з правізарскіх пазіцый: «з аднаго боку і з другога боку». З аднаго боку — Днепрагэс, а з другога — Салаўкі. З аднаго боку — арктычны пералёт, з другога — этапы, па якіх гналі нявінных. Але, выяўляецца, разам, у суме, усё гэта можа выглядаць нават нядрэнна. Выстаялі, перамаглі, разграмілі фашызм. Так, выстаялі, так, разграмілі. Гэта ведае кожны школьнік. Але кожны з нас павінен ведаць, што сацыялізм ствараўся не дзеля таго, каб абагнаць ЗША па колькасці чыгуну. Сацыялізм будаваўся дзеля шчасця кожнага і ўсіх! У спешцы «барацьбы» мы неяк забыліся, што самае каштоўнае на гэтым свеце — каштоўнасць асобы, «простага чалавека», чый свет і лёс унікальныя. Кожны з нас павінен разумець, што без яго чалавецтва няпоўнае. Вось тады кожны школьнік, адчуваючы гонар за гісторыю сваёй краіны, па-сапраўднаму будзе не толькі ганарыцца, але і разважаць! І прыйдзе праз гэтае разважанне да спасціжэння думкі Дастаеўскага пра тое, што ўвесь свет нявартыя слязінкі дзіцяці. Вось тады абавязкова прыйдзе разуменне таго, што палітычны данос, нават афарбаваны прывабным флёрам «патрыятызму»,— гэта амаральна, што перамога, здабытая вялікай крывёю, не заўсёды павінна называцца такім прыгожым словам, што перш чым «аднадушна адобрыць» нешта ці ўзвысіць голас у знак пратэсту, трэба падумаць і зверыцца з адзіна дакладным барометрам — сумленнем.

Дарэмна нехта будзе шукаць у гэтых маіх словах адсутнасць або размытасць класавых пазіцый. Несумленным не павінна быць нішто — і ў першую чаргу класавае!

Цяпер многія хочуць зразумець час! Але, дакранаючыся да трагедыі Курапатаў, нашых і іншых, паводзяць сябе празмерна мітусліва. На адным з мітынгаў, арганізаваных «Талакою», нехта з прамоўцаў заявіў аб «генацыдзе». Прагучала гэта эфектна, але ці ёсць у гэтым праўда? Па-мойму, тут парадаксальная падмена — тая ж жданаўская істэрыя, гатовая ў любым выпадку клеіць страшныя ярлыкі, што паралізуюць розум.

Каго знішчалі ў 37-м годзе? Беларусаў? Але ж галоўную «тройку» рэспублікі ўзначаліў Шаранговіч. Яўрэяў? Але наркомам унутраных спраў быў Берман. Палякаў? Але галоўны абвінаваўца быў Вышынскі. Латышоў? Старшынёю Вярхоўнага суда быў Ульрых. Нехта шукае ў рэпрэсіях, якія абваліліся на нацыянальную інтэлігенцыю, руку Масквы. Але ў Маскве загінулі дзесяткі тысяч... Можа, у генацыдзе вінаватая партыя? Яна панесла катастрафічныя страты. Тэрор развязалі чэкісты? Яны самі сталі ахвярамі «гільяціны». Можа, армія? Былі расстраляны маль усе маршалы і генералы. Можа, Молатаў і Кагановіч? Не будзем спяшацца і тут, падумаем. У Молатава жонка была ў лагерах, у Кагановіча расстраляны два браты.

Тыя, хто выходзяць сёння на авансцэну публіцыстыкі ў спробах паразважаць пра генэзіс «культу асобы», часта або слізгаюць па паверхні, як гэта здарылася з аўтарам нарыса пра Цанаву, Берыю, Ягоду, або ўпадаюць у другую крайнасць: патрабуюць пакаяння ад усіх. Маўляў, усе былі вінаватыя тады, значыцца, сёння павінны каяцца таксама ўсе. Спыніцеся, падумайце! Тыя, хто з тэмпераментам вопытных кан'юнктуршчыкаў, выкарыстоўваючы факты нядаўняга мінулага, што і сёння яшчэ крываточыць, спрабуюць нагарадзіць анекдотаў і ўвайсці ў гісторыю, паводзяць сябе, мякка кажучы, не дужа маральна. Бо жывыя ж яшчэ дзейныя асобы і выканаўцы ўсенароднай драмы. Як ім чытаць некаторыя ліха зляпленыя опусы? Зрэшты, адкуль было набрацца сумленнасці нашаму брату журналісту? Асабліва тым, хто спяшаецца «не адстаць»? Столькі гадоў спаборнічалі адно з адным хіба што ва ўменні «флюгераваць» ды яшчэ высмактаць «патрэбную» тэму з «указующего начальственного перста»... Пра генацыд можна гаварыць толькі ў адной плоскасці, як пра генацыд думкі, гуманнасці, сумлення.

У Барыса Ямпольскага ў аповесці «Маскоўская вуліца» ёсць вельмі глыбокая думка пра ненатольнае ахвярапрынашэнне сталінскай сістэмы ўлады. Не сацыялізму, падкрэсліваю, а сталінскай сістэмы. Дакладней, сацыялізму без чалавечага твару. Дык вось, пісьменнік гаворыць пра псіхозы падазронасці, якія нарастаюць з перыядычнасцю прыродных з'яў. Раз за разам ідэалагічным апаратам (пад пільным куратарствам берыяўскага ведамства) запускаецца новая кампанія. То гэта барацьба супраць нізкапаклонства перад Захадам (гора таму, хто засумняваецца ў прыярытэце дзеячаў Расійскай імперыі хоць у чымсьці — турма і ссылка!), затым супраць «касмапалітаў», вейсманістаў-марганістаў, мовазнаўцаў-мараўцаў, дактароў-шкоднікаў. І так бясконца. Усё гэта суправаджаецца не толькі прамовамі, але і судамі. І кожны — у тым ліку селянін з вёскі, куды не даносіцца паравозны гудок,— не можа адчуваць сябе ў бяспецы ці ў баку ад гэтых кампаній, у параўнанні з якімі нават метады інквізіцыі не здаюцца такімі бесчалавечнымі.

Вось у чым унутраная заканамернасць рэжыму: ніхто не адчувае сябе ў бяспецы. Зусім нядаўна ўсемагутны Абакумаў заходзіў у кабінет да самога Сталіна, а вось ужо яго расстрэльваюць за здраду. Што ўжо казаць пра якога-небудзь дворніка, які спачатку пісаў даносы, а пасля прыхапілі і яго самога.

Дык што, вінаватыя ўсе? Не! Калі мы будзем зараз настойваць на гэтым пункце гледжання, дык прыйдзем да таго, ад чаго хочам пазбавіцца. Нельга рабіць вінаватым народ, супраць якога вялася неаб'яўленая вайна. Інакш мы трапім у новую пастку, якую самі ж сабе паставім,— дамо нават повад для новага глабальнага страху, пры якім ніхто ў грамадстве не можа быць вольны. А скарыстаць гэты страх гатовыя многія з тых «алхімікаў», якія паспяшалі аб'явіць выкладчыцу хіміі Андрэеву прарочыцай, што, ані кроплі не сумняваючыся, указвае: наша будучыня — у мінулым. На жаль, у грамадстве, якое мае вострую патрэбу ў клапатлівых садоўніках, задужа шмат лесарубаў.

Вялікія трагедыі не церпяць марнай гаварыльні і неадкладных адказаў на ўсе пытанні. Інакш яны рызыкуюць ператварыцца ў фарс.

Сёння мы разумеем толькі адно: вялікая гуманістычная ідэя Леніна і яго акружэння трапіла ў рукі нягоднага чалавека, і ён афарбаваў яе крывёю. Давайце думаць пра тэрор і ўсеўладдзе лозунга, пра страх і ператварэнні людзей у вінцікі машыны.

Адно відавочна: тыя, хто лічыў даносы годнасцю, а «стукачаства» — дэманстрацыяй адданасці вялікаму стырнавому, не думалі пра сваіх дзяцей.

Некалі ў 1919 годзе да старога ўжо і хворага караля рускіх фельетаністаў Уласа Дарашэвіча, які знаходзіўся ў Ялце, прыбыў галоўнакамандуючы Крымфронтам генерал Май-Маеўскі і прапанаваў яму рэдагаваць белагвардзейскую газету.

— Не, Ваша правасхадзіцельства, я адмаўляюся.

— Чаму? — здзівіўся генерал.— Хіба вы бальшавік?

— Проста я не хачу псаваць свой некралог,— адказаў Улас Міхайлавіч, і генерал паехаў ні з чым.

Хіба думалі пра свой некралог, пра сваё сумленнае імя тыя, хто цкаваў Вавілава ў трыццатыя гады, хто пісаў «закрытыя рэцэнзіі» на кнігі Караткевіча, хто даваў загад забіць Міхоэлса і выклікаў на спаборніцтва калег з суседняга аддзела па ўдарніцтве ў пытанні выкрыцця ворагаў народа?

Усё тайнае робіцца яўным... Залатыя словы. Яны з Пісання, ды ж хіба атэістам незразумела, што мелі на ўвазе старажытныя мудрацы?

Хоць ці заўсёды людзі, якія жывуць момантам, слухаюць мудрацоў?

У «Огоньке» дзеці і ўнукі былых функцыянераў «спецустаноў» гнеўна пратэставалі супраць згадвання іх бацькоў-нябожчыкаў як катаў. Наўрад ці яны меркавалі, што акрамя безыменных магіл знойдуцца іншыя сведкі, якія змогуць стаць абвінаваўчай альтэрнатываю граматам і ордэнам іх бацькоў. Знайшліся. Пажаўцелыя паперы з грыфам «захоўваць вечна». Вось яны і сталі сведкамі даўніх злачынстваў. І нават літаратар Барыс Дзякаў, які зусім ужо забыўся пра свае лісты Абакумаву, у якіх паведамлялася пра бездакорную працу «сексота органаў», з жахам даведаўся на сконе дзён, што старыя даносы могуць ажыць і схапіць адтуль, з-за вышак Возерлага сваёй кашчавай рукою за сэрца.

Не, не ўсё сцерпіць папера!

Васіль Быкаў, сумленнейшы чалавек нашага часу, які недарэмна так шмат часу аддае гэтаму праклятаму пытанню, патрабуючы рассакрэціць архівы і ўголас сказаць, хто пісаў даносы на Гарэцкага і Галадзеда, Ізі Харыка і ўсімі забытага цяпер калгасніка з Асіповіцкага раёна...

Вядома, сёння перспектыва выкрыцця страшыць многіх. Жывуць тыя, хто пісаў і падпісваў, не ведаюць ні ў чым недахопу іх дзеці і ўнукі, і яны пастараюцца зрабіць усё, каб палатняныя мяшкі, запячатаныя сургучом, ніколі не ўбачылі свету.

Але сёння мы чытаем Варлама Шаламава, Віктара Някрасава і акадэміка Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава, сёння мы ведаем праўду пра Шчолакава і Чурбанава. Значыцца, заўтра мы будзем ведаць імёны даносчыкаў і стукачоў, курапатаўскіх катаў і тых, хто прымусіў пакінуць Радзіму Таркоўскага і Галіча. Бо тайнае заўсёды стане яўным, а дзень прыходзіць на змену ночы.

Вось пра што я падумаў, чытаючы стары прысуд невядомаму мне чалавеку, асуджанаму на смерць паводле даўно адмененага артыкула даўно адмененага крымінальнага кодэкса.

58

На пяцьдзесят восьмым...

**Глэдзіс ЛАЙНЭ**

# ВЫПРАБАВАННЕ



Мак Магнус быў не проста таленавіты вучоны. У яго быў востры дапытлівы розум. Усё таямнічае і незвычайнае як магнітам цягнула яго да сябе, незалежна ад таго, што гэта было — загадка снежнага чалавека ці заблытаная крымінальная справа. І не кожны ведаў, што славуты пісьменнік Элер Стоўт — гэта той самы прафесар Мак Магнус. Да таго ж ён меў вялікія знаёмствы і моцныя сувязі ў высокіх сферах. Олаф звяртаўся да яго толькі тады, калі сам нічога не мог прыдумаць. Перавага Мак Магнуса не выклікала ў Олафа ні зайздрасці, ні прыніжэння, хоць ён і сам быў таленавіты дэтэктыў і нічога не меў супраць славы. Адносіны сваяны не надта рэкламавалі, і Олаф быў асабліва тым задаволены. Гэтым разам ён таксама спадзяваўся на дапамогу Мак Магнуса, а таму з нецярпеннем чакаў адказу.

— Ну, становішча не такое ўжо і страшнае,— адказаў Мак Магнус пасля працяглага роздуму.

— А мне яно здаецца...

— Баюся, што расказ О'Мура — чыстая праўда.

— Ты так думаеш?

— Я недарэмна спыніў цябе, калі ты загаварыў пра Санта-Ніньо. Я сёе-тое чуў пра гэта райскае месцейка і пра закрытую школу імя Флорэнс Найцінгел. Гэта было тры... не, чатыры гады таму назад. Ты памятаеш імёны Крынджэра і Хатчынса?

— Не, нічога не прыпамінаю.

— Іх называла газета «Інквайр» у артыкуле Элен Хілін. Вось гэта была сенсацыя! Але нехта паклапаціўся ўгамаваць страсці як мага хутчэй. Думаю, што ты ідзеш па свежых слядах. Эх, каб нам ды доказы О'Мура! Хоць я не зусім упэўнены...

— Дык, можа, паставіць крыж на ўсёй гэтай справе?

— Ні ў якім разе! О'Мур сцвярджаў, што Дорыс Піке не магла забіць чалавека. Я таксама лічу, што забойца нехта іншы. Твая задача — адшукаць забойцу і выратаваць Дорыс Піке.

— Думаю, што гэта немагчыма. Я даследаваў усё, што можна, але чалавека няма.

— Няма, няма,— працягнуў Магнус, нібыта прыслухоўваючыся да свайго голасу.— А яго магло і не быць,— дадаў ён, як бы прачнуўшыся.

— Як гэта?

— А ты паглядзі ўважлівей, і ўсё стане ясна.

— Ніяк не ўцямлю, пра што ты гаворыш.

— А я гавару пра тое, што калі чалавек А не забіваў чалавека В, а чалавек С не можа быць забойцам, дык што з таго вынікае?

— Ага, разумею,— пакруціў галавой Олаф.— А прычыны і матывы самагубства?

— А мне здаецца, усё проста. Прычыны ў псіхалогіі, у псіхалагічных дэталях. А нам трэба высветліць ісціну, так?

— Так. Але дзе ўзяць іх, тыя дэталі?

— Трэба падумаць. Не чапаючы самарыцян немагчыма даказаць, што Дорыс Піке — рэплікат. Аднак паспрабаваць трэба, таму што прычыны здарэння звязаны з двайніком, з ягоным імем. Тады можна будзе растлумачыць і выпадак з пажарам. Насуперак афіцыйнай версіі, я ўпэўнены, што тут не было намеру знішчыць сляды злачынства. Мне таксама прыходзіла ў галаву, што злачынца проста няўдала схаваў свае сляды, падпаліўшы кватэру. А на самай справе ўсё было зроблена паводле добра выверанага сцэнарыя: цела абгарэла так, што пазнаць яго было немагчыма, падабенства твараў Дорыс Піке і Фані Флакс ніхто не заўважыў, а параўнаць адбіткі пальцаў нікому і ў галаву не прыйшло. Таму і галасы сцёрлі ў памяці хатніх робатаў — яны ж аднолькавыя. Мне здаецца, што ўсё адбылося менавіта так, але як даказаць гэта — я не ведаю. Хіба што здарыцца нейкі цуд.

— У наш час цуды творыць толькі навука.

— Навука, навука...— Мак Магнус задумаўся. Потым вочы ягоныя заблішчэлі.— Слухай, што важней: справядлівасць ці спосаб, якім дасягнута гэта самая справядлівасць?

— Вядома, справядлівасць,— паціснуў плячыма Олаф.

— Ну тады... Пачакай хвілінку,— і Мак Магнус выйшаў з кабінета.

Ён вярнуўся хвілін праз дзесяць і задаволена папляскаў Олафа па плячы:

— Плаці за абед і пойдзем. Нас чакае цуд.

## 5

Лоўэркрыст уварваўся ў офіс як ураган.

— Містэр Уэстмэн, вы геній!

Олаф усміхнуўся.

— Губернатар зацвердзіў адтэрміноўку! — Лоўэркрыст аж захлынаўся ад радасці.

— Выдатная навіна.

— Адвакат Дабвайтэн сказала, што хутка адбудзецца паўторнае слуханне справы Дорыс. Яна лічыць, што Дорыс невінаватая.

— Я цалкам падзяляю думку адваката Дабвайтэн,— адказаў Олаф.

Паўгадзіны таму ён размаўляў з адвакаткай па тэлефоне і ведаў усе дэталі.

— Містэр Уэстмэн, вы казалі, што калі паліцыя адшукае дзённік Фані Флакс, то гэта будзе важкай падставай, каб падаваць хадайніцтва. Як вы ведаеце, паліцыя знайшла яго і зараз можна падаваць...— У голасе кліента гучала нейкае напружанне і ён запытальна глядзеў на дэтэктыва.

— Усё так. Што яшчэ вас непакоіць?

— Хацелася б ведаць, што там, у тым дзённіку? Старшы інспектар Дроўэрс сцвярджае, што яго ніхто не бачыў, нават адвакатка. Ці не можаце вы неяк дапамагчы мне? Вы ж, мусіць, бачылі той дзённік, інакш адкуль бы вы ведалі пра яго?

— Так. Я знайшоў дзённік раней, чым паліцыя. Ведаеце, містэр Лоўэркрыст, яшчэ не было такіх выпадкаў, каб злачынца не пакідаў абсалютна ніякіх слядоў. Так і ў выпадку з Фані Флакс. Злачынца сцёр усе галасы ў памяці хатніх робатаў, але сёе-тое ўсё ж забылася. Я маю на ўвазе аўтамабіль. Вы ж ведаеце гэтыя аўтамабілі, якія кіруюцца галасам. Дык вось там знайшлі на робаце запіс. Гэта і аказаўся дзённік Фані Флакс. Служанка адразу ж пазнала голас сваёй гаспадыні. Аўтэнтычнасць запісу не выклікае ніякіх сумненняў. Дні праз два ці тры адвакатка атрымае копію.

— Два ці тры дні...— працягнуў Лоўэркрыст.— А раней нельга?

— Не разумею, што вы яшчэ хочаце даведацца? Ці вам не ўсё адно, чаму пакончыла с сабой нікому не вядомая хворая жанчына?

— Але ж гэта тычыцца Дорыс! І, апрача таго, мне проста цікава як прафесіяналу.

— Ну, добра... Калі гэта і сапраўды так важна, то паспрабую дапамагчы вам,— сказаў Олаф, крыху падумаўшы.

«Няхай слухаюць усе, каму толькі цікава»,— падумаў Олаф. Ён адчыніў свой патаемны сейф. У выглядзе Олафа была нейкая прыхаваная пагроза, аднак рухі ягоныя зрабіліся крыху нязпэўныя. Ён асцярожна дастаў з сейфа скураны футарал, крыху затрымаў яго ў руцэ, а потым працягнуў Лоўэркрысту.

— На гэтых крышталях запісана апавяданне Фані Флакс. Я ўпотай зняў копію. Вы, спадзяюся, разумееце, што апавядаць пра гэта нікому не трэба.

— Ну вядома ж! — узбуджана сказаў Лоўэркрыст, і рукі ягоныя трэсліся ад хвалявання. Ён расшпіліў футарал, дзе асляпляльна блішчэлі зялёныя крышталі.— Можна, я пакарыстаюся вашым крышталафонам?

— Калі ласка. Я вас пакіну на хвілінку, так што можаце слухаць спакойна.

— Містэр Уэстмэн, вы ведаеце як я вам удзячны. Калі я прыйшоў да вас першы раз, дык не меў аніякай надзеі. Я проста хацеў пераканацца, што ўсе спосабы скарыстаны і больш нічога нельга зрабіць. Я не імкнуўся супакоіць сваё сумленне, ды гэта было і немагчыма. Цемра панавала вакол мяне, бо я страціў Дорыс, яе прыгажосць, яе талент! Вы нават уявіць сабе не можаце, якая гэта актрыса! Яе ўменне зжыцца з роляй, зліцца з ёю проста фантастычнае! Трынаццаць гадоў я пісаў сцэнарыі толькі для яе, і гэта лепшае, што я напісаў за ўсё сваё жыццё! Аднак без яе мае п'есы нічога не вартыя! Містэр Уэстмэн, вы — чарадзей! Вам удалося выратаваць жанчыну, якую я люблю больш за жыццё! Мне б хацелася выпіць за ваша здароўе,— сказаў ён, дастаючы з сумкі бутэльку.— Посуд са мной,— усміхнуўся ён.

— Можа, крыху пазней, містэр Лоўэркрыст? — збянтэжана ўсміхнуўся Олаф.

Аднак Лоўэркрыст настойваў, і Олаф здаўся.

— Ваша здароўе! — Олаф зрабіў глыток і паставіў шклянку на стол.— Прабачце, мне трэба адлучыцца па справах. Я хутка вярнуся.

Ужо ад дзвярэй Олаф бачыў, як Лоўэркрыст паспешліва ўстаўляе крышталі ў апарат.

Недзе праз паўгадзіны Олаф вярнуўся. Лоўэркрыст сядзеў нізка звесіўшы галаў. У руцэ ён трымаў пустую шклянку, бутэлька таксама была пустая. «Вось табе і супермен!» — падумаў Олаф.

— Містэр Уэстмэн, усё гэта праўда? — ледзь чутна спытаў Лоўэркрыст, упарта гледзячы долу.

— А што, уласна кажучы, вы маеце на ўвазе? — з прасцяцкім выглядам спытаўся Олаф.

— Усё! Што гэта за таямнічая лячэбніца! Што за двайнік? Выходзіць, Дорыс — проста алхімічная пачвара?

— Ну, не такая ўжо яна і пачвара. Кожны хацеў бы апынуцца на вашым месцы.

— Божа! Каб жа я ведаў раней!

— І што б тады? Вы б не ратавалі яе?

— Ратаваць яе?! Няма слоў! Хаця... Глузданецца можна!

Пэўны час Лоўэркрыст маўчаў. Затым ён пакорпаўся ў кішэні і дастаў партманет.

— Містэр Уэстмэн, вось чэк. 25 тысяч, як і дамаўляліся. Вы зрабілі сваю справу бездакорна. Выдаткі — асобна.

Лоўэркрыст махнуў рукою і цяжкою хадою рушыў да дзвярэй. Олаф глядзеў яму ўслед. Хто б мог падумаць, што гэтыя маленькія крышталі акажуцца тым асялком, які дакладна вызначыць хто ёсць хто. Чаго варта шматгадовае незямное каханне Лоўэркрыста, калі ён адразу забыўся на яго, як толькі даведаўся, што Дорыс Піке з'явілася на свет не так, як усе? Ён тут жа назваў яе алхімічнай пачварай! А калі ўся гэта гісторыя — проста гульня хворай фантазіі Фані Флакс?

А можа, гэтыя крышталі сталі выпрабаваннем таксама для Магнуса і для яго? Вядома, яму тут было лягчэй, бо прыватныя дэтэктывы далёка не заўсёды прытрымліваюцца літары закону. Колькі разоў ён пранікаў у чужыя кватэры без дазволу гарадскіх уладаў ці, насуперак пятаму артыкулу канстытуцыі, суну́ў нос у інтымныя справы чужых людзей? Іншая справа — Магнус, хаця менавіта ён і прыдумаў увесь гэты фокус, спасылаючыся на тое, што калі Фані Флакс скарыстала сваю смерць як зброю нападу, дык чаму б ім не скарыстаць яе для абароны?

Халодныя дрыжыкі праціналі Олафа кожны раз, калі ён думаў пра Фані Флакс. Колькі нянавісці і гаркоты

Заканчэнне. Пачатак у № 9.

хавала яна ў душы! І гэта не дзіўна, калі чалавек дзесяць гадоў пражыў у інваліднай калясцы. Але ж яна сама выбрала свой лёс, калі згадзілася на тое, што ёй прапанавалі ў Санта-Ніньі. Тады яна думала, што будзе заўжды валадарыць сваім двайніком. Яна выпесціла ў душы сваю версію Пігмаліёна. Аднак выйшла зусім не так. Новая Дорыс Піке не стала проста заменай. Яна валодала ўсім тым, што і ранейшая Дорыс Піке: знешнасцю, душой, талентам, вопытам, ведамі. І Фані Флакс давялося застацца ўбаку. Ёй толькі і заставалася, што назіраць за рэплікатам збоку і зайздросціць, успамінаючы мінулае. Колькі разоў яна казала сабе: «Чаму яна, а не я? Усё гэта належыць мне!» Халодная бязлітасная лютасць і прага помсты пакрысе напоўнілі яе душу. І яна адпомсціла, бо прадуманае да дробязяў самагубства вяло да смерці другога чалавека. Так, да смерці, таму што зомбінг — гэта тая ж смерць! Дарэмна газеты сцвярджаюць, што псіхатэхнічны спосаб забойства болей гуманны, чым звычайны стрэл з пісталета. Хоць Фані Флакс інсцэніравала свае забойства з найвялікшым рэжысёрскім майстэрствам, яна не разлічыла, што на сцэне з'явяцца новыя дзейныя асобы, якія змогуць уратаваць яе ахвяру.

Олаф, Мак Магнус і іхні сябра, «лепшы ў свеце» імітатар галасоў і парадыст Джэры Новак правялі два дні за тоўстымі сценамі наглуха ізаляванага пакоя, дзе яны праглядалі фільмы Дорыс Піке і састаўлялі дзённік-споведзь Фані Флакс.

А які ўдар па міласэрных самарыцянах! Паказанні нябожчыцы ўжо не абвергнеш! А ў Дорыс Піке ад таго толькі прыбавіцца славы. Ёй нават не давядзецца мяняць знаёмствы праз тое, што ёй увесь час будуць нагадваць пра яе незвычайнае паходжанне. Лоўэркрыст на такое не здольны. Хаця хто яго ведае, час пакажа. Самарыцяне не цікавілі Олафа. А вось Мак Магнуса яны, бадай, зацікавяць.

Урэшце прагрэс нясе з сабою і дары данайцаў: то нейтронную бомбу, то зомбінг, то рэплікацыю чалавека. Свет робіцца ўсё больш складаны і спыніць ягонае развіццё немагчыма. Адзіны спосаб вырашыць праблему — гэта застацца чалавекам і жыць паводле законаў сумлення. Калі, да прыкладу, Мак Магнус пачне барацьбу з самарыцянамі, дык для яго, Олафа, будзе справай гонару і сумлення падтрымаць сябра ў гэтай барацьбе.

Ён сумленна выканаў свой абавязак. Ён здабыў бясспрэчныя доказы невінаватасці Дорыс Піке. І сумленне зусім не мучыла яго з-за таго, што тыя доказы былі сфабрыкаваныя. Такім чынам ён дабіўся справядлівасці. Адзінае, з-за чаго прыйшлося пахваляваца, гэта каб яны своечасова трапілі ў рукі паліцыі.

### 6

Дорыс сядзела на ложку і спрабавала неяк разабрацца ў сваіх думках. У камеры не было люстэрка, каб вязень, крый божа, не разбіў яго і не змог так лёгка паконцыць з сабой. Дорыс паглядзела на свае рукі, потым на ногі, нібыта бачыла іх упершыню. Не месцілася ў галаве, што старажытная вера афрыканскіх плямёнаў у цудадзейнае ўваскрашэнне нябожчыкаў — зомбі — ажыццявіцца такім пачварным чынам. Ад чалавека заставалася толькі цела, а душу, памяць — карацей, усё тое, што робіць чалавека чалавекам, ён губляў назаўсёды. Кажуць, што зомбінг — гэта зусім не балюча, але хто яго ведае: усе адчуванні і пачуцці знікаюць. А ўсе тыя гаўсы і градыенты для яе — цёмны лес. Дорыс не цікавіла, як гэта адбудзецца. Яна баялася, што яе прыгажосць, яе стройнае цела атрымае ў спадчыну якая-небудзь ідыётка. Што можа быць страшнейшае, чым ператварыцца ў бездапаможную саракагадовую істоту! Вядома, яе навучаць выконваць якуюнебудзь простую работу, навучаць слепа выконваць чужыя загады, дык хіба ж гэта жыццё! Якая гнюсная хлусня, што зомбіраванне — гэта ўзнікненне Фенікса з попелу! Не, лепей сапраўдная смерць, чым гэтакі здзек! Дорыс безуважна варушыла пальцамі. Яна глядзела прама перад сабой, але нічога не бачыла і нічога не чула. Яна не пачула, як ззаду адчыніліся дзверы і на парозе ўзнікла яе адвакатка Ірэна Дабвайтэн. Дорыс нават не адразу зразумела, што яна кажа. Словы «адтэрміноўка», «працяг следства», «новае слуханне справы» не даходзілі да яе. Яна канчаткова знясілела. Яна не магла ні радавацца, ні засмучацца, душа яе ператварылася ў мёртвае, спустошанае поле.

Але паводле законаў жыцця з прыходам вясны на кожным полі пачынаюць з'яўляцца новыя парасткі.

**Пераклаў з фінскай Якуб ЛАПАТКА**

## КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

**— Мне 17 гадоў, люблю сучасную музыку, захапляюся спортам. Хачу перапісвацца з равеснікамі.**
213850, Магілёўская вобл., Бабруйскі р-н, п/а Цялуша, ст. Савічы. Галіна АРЛОВА.

**— Мне 23 гады, я работнік сельскай гаспадаркі. Захапляюся спортам, асабліва хакеем і цяжкай атлетыкай, люблю чытаць. Абяцаю адказаць кожнаму, хто напіша мне.**
231326, Гродзенская вобл., Лідскі р-н, п/а Радонішкі, в. Бабры. Вячаслаў КАРАБАЧ.

**— Мне 19 гадоў, працую на фабрыцы, жыву ў інтэрнаце. Адчуваю сябе адзінокай, бо знаходжуся далёка ад дома. Люблю эстрадную музыку і кнігі. Вельмі хачу мець сапраўдных сяброў.**
247760, г. Мазыр, вул. Крупскай, д. 14-а, к. 39/2. Алена АСІПЕНКА.

**— Мне 17 гадоў, я вельмі люблю чытаць, слухаць добрую музыку. Запрашаю да перапіскі ўсіх, хто ведае і захапляецца электроннай музыкай.**
220002, г. Мінск, вул. В. Харужай, д. 33, кв. 59. Андрэй БЯЛОЎСКІ.

**— Мне 24 гады, працую мастаком. Хацелася б наладзіць кантакты і перапіску з прафесійнымі і самадзейнымі мастакамі, беларусамі па нацыянальнасці, якія працуюць у рэалістычнай ці сюррэалістычнай манеры. Мы маглі б аб'яднацца ў творчую групу, дзякуючы чаму было б лягчэй арганізоўваць выставы ў розных гарадах.**
222310, Мінская вобл., г. Маладзечна, вул. Галіцкага, д. 16, кв. 16. Валянціна БУЦЬКО.

### ЧАКАЮ ЛІСТОЎ

**— Можа, хто-небудзь прачытае мой ліст, адгукнецца на яго і дапаможа. Справа ў тым, што я вельмі адзінокая, а хацелася б мець блізкага сябра, які падтрымае ў цяжкую хвіліну. Мне 23 гады, люблю вязаць, кулінарыць. ЛЮДМІЛА М.**

**— Мне 22 гады, адслужыў армію, цяпер працую на заводзе ў г. Барысаве. Захапляюся футболам, боксам, атлетычнай гімнастыкай. У вольны час люблю чытаць і слухаць музыку. Мару стаць трэнерам па футболе і боксе. Хацелася б пазнаёміцца з добрай дзяўчынаю, якая стала б блізкім чалавекам. Не люблю дзяўчат, якія кураць, сам курыў толькі да арміі. АНАТОЛЬ І.**

**— Мне 19 гадоў. Я жыву ў гарадскім пасёлку, хлопцаў у нас вельмі мала. Калі б знайшоўся хлопец, які пажадаў бы звязаць са мною лёс, я была б вельмі ўдзячная вам. ВАЛЯНЦІНА М.**

**— Я просты рабочы чалавек, нядаўна споўнілася 23 гады. Захапляюся футболам, чытаннем. Хацеў бы пазнаёміцца з маладой сціплай жанчынаю. ЮРЫЙ Б.**

**— Жыву ў вёсцы, адчуваю сябе адзінокаю, вось і вырашыла звярнуцца да вас: можа, ваша рубрыка дапаможа знайсці сяброў. Мне 26 гадоў, маю вышэйшую адукацыю. ВОЛЬГА Ж.**

**— Мне 27 гадоў. Знаходжуся «ў мясцінах не гэтак далёкіх», сяджу за бойку. Крыўдна, што ў жыцці нічога не атрымаў, хаця была магчымасць. Вельмі прашу вас, дапамажыце адшукаць сяброўку, якая падтрымала б мяне ў імкненні вырвацца з гэтай багны, знайсці сябе. Я халасты, характар вясёлы, захапляюся музыкаю, люблю чытаць, па спецыяльнасці электрык. СЯРГЕЙ Я.**

**— Мне 18 гадоў. Хацелася б мець добрых суразмоўцаў, неабыякавых да песень У. Высоцкага і ўвогуле да яго як да чалавека. ТАМАРА Л.**

**— Мне 19 гадоў, жыву ў г. Салігорску. Працую. Трохі малюю, цікаўлюся жыццём моладзі за мяжою і ў нашай краіне, дамасед. З задавальненнем пазнаёмлюся з дзяўчынаю 18—19 гадоў з іншага горада. МІХАІЛ П.**

**УВАГА! Адрасы рэдакцыя не высылае. Калі з'явіцца жаданне пазнаёміцца з аўтарам аб'явы, напішыце яму (ёй) ліст і адпраўце ў «Крыніцу», назваўшы імя, а таксама нумар часопіса,— ліст будзе накіраваны па адрасе.**



Тамара УЛАДЗІМІРАВА

# ВЯРТАННЕ ДА ХРАМА

**УСЕ ПАЧЫНАЛАСЯ З ДЗЯЦІНСТВА. Старэнькае фартэпіяна ў кутку аднапакаёвай кватэры было цярплівым сведкам гераічных намаганняў спасціжэння цудоўнага, вечнага, велізарнага свету музыкі. «Гэты малы ўпарты, але не бездапаможны,— думала старое мудрае «фано».— Я адчуваю іскру. Яна праскаквае паміж мной і карапузам, і я маладзею».**

**Потым праз доўгія гады паявіўся антыкварны рэпетыцыйны раяль. Сябар і памочнік, разумнік і працаўнік, ён стаў незаменны яшчэ і таму, што ў рэспубліцы такіх, як ён,— адзінкі. Добры хатні раяль — вялікая рэдкасць. І ўсё ж піяністка часта ўспамінае свой першы старэнькі інструмент — стомлены, падагрычна рыпучы — у кутку маленькага пакоя.**

## 1. МЫ ВЫБІРАЕМ...

V Рэспубліканскі конкурс музыкантаў-выканаўцаў. Для першакурсніцы Белдзяржкансерваторыі — пункт адліку, пуцёўка ў жыццё, час надзей і здзяйсненняў, прызавых месцаў і захоўчальных рэцэнзій. «Калі слухаеш Пяты канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Л. Бетховена ў трактоўцы І. Шумілінай, здзіўляе не толькі натхнёнасць выканаўцы, пераконвае і хвалюе смеласць думкі, «строгасць» яе»,— напісала кандыдат мастацтвазнаўства Т. А. Шчарбакова. А старшыня журы, прафесар Маскоўскай кансерваторыі Леў Мікалаевіч Уласенка, які праз некалькі гадоў стане настаўнікам Шумілінай, рэцэнзаваў: «Дзяўчына заявіла аб сабе як яркая творчая індывідуальнасць. Яе вызначаюць глыбіня пранікнення ў музычны вобраз, багатая піяністычная аснашчанасць, воля і сканцэнтраванасць».

Менавіта тады пачалося напружанае жыццё, уціснутае ў рамкі рэпетыцыйна-канцэртнай праграмы. Узнагарода, атрыманая на «Алімпе», аказалася бестэрміновай гастрольнай пуцёўкай па Савецкім Саюзе, прызавое месца і рэцэнзіі асуджалі на цяжкую, адшэльніцкую адпрацоўку. Выбар быў зроблены. Потым ужо, калі былі атрыманы дыпломы і медалі шматлікіх фестываляў і конкурсаў, дзяржаўныя ўзнагароды — медаль «За працоўную доблесць» і прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, прыйшло спакойнае цвёрдае перакананне ў адзіна правільна абраным жыццёвым шляху. А тады, тады ўсё яшчэ толькі пачыналася...

## 2. КОЛЬКІ КАШТУЕ МУЗЫКА?

А праўда, колькі яна каштуе? Напэўна, ніхто з вас, чытачы, не спрабаваў такое падлічыць. Але ёсць людзі, якія займаюцца гэтым па абавязку службы. Прафесія іх — канцэртны адміністратар філармоніі. Сутнасць занятку — спроба высветліць, як трэба аплачваць музыканту работу, калі ён выконвае канцэрт для левай рукі Равэля. А стаўка ў Дзяржканцэрце даецца для дзвюх рук... Куды пасляць музыканта ў камандзіроўку — на мясакамбінат ці ў дзіцячую музычную школу. На камбінаце, праўда, авацый меней, затое білеты даражэйшыя. А гэты фактар ёсць найгалоўнейшы для нашага абазнанага ў фінансава-бюракратычных бітвах адміністратара.

Памятаеце, у Пушкіна ў «Маленькіх трагедыях» — «з высот паэзіі зваліцца пад лаўку канторшчыка». Прыкладна тое ж адчула юная піяністка Ірына Шуміліна, калі, бліскуча скончыўшы 11 класаў спецшколы пры кансерваторыі і паступіўшы на яе 1-ы курс, упершыню сутыкнулася з інтэнсіўнай канцэртнай дзейнасцю.

У школе ўсё было працей. Музыка — гэта бог і вечнасць. Гэта тваё жыццё і жыцці многіх іншых — Моцарта, Бетховена, Мусаргскага. Вядома, на пытанне «Як ты тады жыла?» адкажаш: «Цудоўна і цяжка». Але чарвяк сумнення спытае: «Цяжка таму, што не было сну і балелі кісці рук, ці таму, што вымушана была «падлічваць» і па патрабаванні публікі граць на павятовых хрыпатых раялях «Цыганачку»? Мабыць, калі Моцарт даставаў лічыльнікі, Сальеры мог спакойна заняцца сваёй «алгебрай».

Каб артысты не падлічвалі як бухгалтары, не шукалі ліхаманкава «месца пад сонцам», бо ў гасцініцы адмоўлена, не вазілі за сабой награвальнікі і каструлькі, а таксама ўласныя ключы для настройкі ўшчэнт разбітага інструменту, былі калісьці прыдуманы мудрым чалавецтвам імпрэсарыо, менеджэры, мецэнаты.

На ўсіх мовах ва ўсім свеце гучаць гэтыя словы. І толькі мы да гэтага часу сарамліва бяром іх у двукоссе, упарта сароміемся надаць гэтай цяжкай і высакароднай справе прафесійны статус. Дарэчы, называйце як хочаце, ідзя ў тым, што побач з творчай (чытай — вельмі ранімай і неўладкаванай) асобай павінен быць энергічны, вынослівы, аптымістычна настроены чалавек з талентам арганізатара. Рэклама творчай асобы выканаўцы, умелае распаўсюджанне білетаў, падбор адпаведнай праграме канцэртнай пляцоўкі, бытавая ўладкаванасць артыста, яго сустрэча і праводзіны — усё на ім.

Аднак як жа далёка не ўсё ад яго залежыць. Колькі рагатак і перашкод на шляху маладога таленавітага музыканта-выканаўцы... Можа, напрыклад, па чыёйсьці злоснай волі «раптам» не быць білетаў на канцэрт піяністкі амаль ва ўсіх гарадскіх тэатральных касах, у той час як месцы ў зале свабодныя ёсць.

Але пакінем асабістыя рахункі гісторыі. Пагаворым лепш аб злосным ворагу кожнага артыста філармоніі — аб часам некампетэнтнай арганізацыі канцэртаў на месцах.

## 3. НАС ВЫБІРАЮЦЬ...

У чым камічнасць сітуацыі? Ды ў тым (і гэта неверагодна, але факт), што адміністратар, які не можа часам адрозніць раяль ад піяніна, бярэцца меркаваць аб гастрольнай праграме музыканта. Ніколі не прысутнічаючы на канцэртах і не разбіраючыся ў класнасці таго або іншага выканаўцы, ён тым не менш малюе карту гастроляў. І талент, неаднаразова пацверджаны лаўрэацтвам, вымушаны матацца па «мядзведжых» кутах, разбіваць рукі на вясковых лядачых інструментах, страчваць кваліфікацыю, выконваючы па просьбе непатрабавальнай сельскай публікі ў лепшым разе вальс «Амурскія хвалі». І гэта са складанай, якая патрабуе падрыхтаванай аўдыторыі, праграмай — Скрабін, Ліст, Стравінскі, Дэбюсі,— калі патрэбны добрая канцэртная зала і інструмент, дзе не начуюць мышы.

А з другога боку — дзе іх узяць, залы?.. Паводле статыстыкі, ніводны абласны горад рэспублікі не мае сёння свайго філарманічнага памяшкання; выкарыстоўваюцца зазвычай ведамасныя Дамы культуры. Аб раённых гарадах і гаварыць не варта. Аднойчы, калі Шуміліна давала канцэрт у ДК г. Ельска Гомельскай вобласці, на яе ўпаў раяль, які трымаўся практычна на дзвюх ножках. А ў вёсцы Гальшаны Гродзенскай вобласці яна ледзь не абмерла, падняўшы крышку фартэпіяна і крануўшы клавішы,— палова з іх маўчалі як рыбы. «Ляжаць гэтыя рыбкі ў радок, а я не ведаю, што рабіць: можа, праспяваць, можа, станцаваць? Але неяк трэба апраўдаць белыя хусцінкі ўрачыстых бабуль у першым радзе, банты і кветкі вясковых дзяцей з круглымі ад важнасці моманту вачыма. Як тады адыграла — успамінаць не хочацца. Ды не аб сабе размова. Як да дзіцячых душ на гэткай «балалайцы» данесці ўсю прыгажосць класічнай музыкі?»

## 4. «ДАЙЦЕ МНЕ ПУНКТ АПОРЫ»

У чым трагічнасць сітуацыі? Тыя ж адміністратары, якія не адрозніваюць піяніна ад раяля, стараюцца чым даражэй «прадаць» выканаўцу. Гэтая фінансавая пухліна мастацтва паграбае выпусташыць сам яго дух, яго, па сутнасці, альтруістычную аснову. «Бярыце, людзі, дыхайце, слухайце, рыдайце. Толькі не маўчыце і не падлічвайце!»

«Дайце мне пляцоўку, дайце інструмент, і я буду працаваць кожны дзень!» — сказала Ірына. Вось такі крык душы. Мы гаворым аб шчодрасці, безагляднасці мастацтва, аб яго людзях, што, як да вёслаў на галерах, прыкаваны да заганнай сістэмы «выціскання плана». А ім патрэбна дапамога. Разнявольце музыканта, дайце яму магчымасць займацца толькі музыкай, і аддача не прымусіць сябе доўга чакаць. Зразумела, і рэклама неабходная, і добрая канцэртная зала патрэбная з паўнацэнным інструментам, але яшчэ больш патрэбная творчаму чалавеку свабода. Свабода ад дробных арганізацыйных звадак, ад недарэчнай перадгастрольнай мітусні, ад тысяч бытавых патрэб, за якімі ён вымушан абіваць парогі і кланяцца адміністрацыі багам.

Трэба пабудаваць новыя канцэртныя залы, дзе б абстаноўка, інтэр'ер — усё дапамагала гучанню класічнай музыкі. У добрай утульнай зале і працуецца па-іншаму. Гэта павінен быць храм музыкі, у які заходзіш бы ў свяцілішча, дзе душа любога чалавека, самага неспакушанага ў складанасцях класікі, спасцігне таямнічасць, пранікне ў самыя глыбіні чалавечай думкі. Гэтыя залы павінны быць у кожным раённым, абласным цэнтры. Філармоніям патрэбна добрая матэрыяльная база, дасканалыя паслухмяныя інструменты, іх гарантаваная захаванасць. Ды ці мала чаго патрэбна для адраджэння,— а менавіта так ставіцца цяпер пытанне ў нас у краіне,— для аднаўлення «статуса-кво» класічнага рэпертуару філармоній, для таго, каб вярнуць забытыя слёзы шчасця людзям, якія, слухаючы музыку, іх ніколі не праліваді!

## 5. «Я ТАК ВАМ УДЗЯЧНА!»

Так, самае галоўнае, што так неабходна нашаму пакутнаму айчыннаму выканаўцу,— гэта слухач. Мы самі не заўважылі, як гэта стала праблемай, як перасталі слухаць «сур'ёзную», а захапіліся «для ног», як паціху-памалу драбнелі, а друзлае сэрца крычала «каравул!» пры самым малым стрэсе. Мы не прывыклі моцна і доўга адчуваць, мы не прывучаем сябе да элементарнай псіхалагічнай гігіены, не кажучы ўжо аб вяршынях і святах душы сваёй. А ёй ленавацца нельга, недазволена. Яе гнаць наперад і «трымаць у чорным целе трэба». Дык што ж нам перашкаджае ўзяць білет на канцэрт (не Дэбюсі, спачатку — Чайкоўскага) і прымусіць сябе адчуваць?!

«Аднойчы на канцэрце ў доме адпачынку да мяне падышла пажылая салідная жанчына і раптам са слязамі пачала дзякаваць: «Гэта ж тая самая музыка, якая мне патрэбная. Я яе заўсёды баялася, а яна мне патрэбная. Я шчаслівая. Я знайшла тое, чаго мне ўсё жыццё не хапала». І колькі такіх ці прыкладна такіх шчырых выказванняў прыйшлося выслухаць піяністцы за немалую канцэртную бытнасць.

Хто ведае, можа, гэта і ёсць ісціна. Але як яе спалучыць з разлахмачанымі галовамі і чорнымі шыпоўкамі, якія хістаюцца ў рытме вельмі цяжкага року? У «іх» свая музыка, свая ісціна, сваё жыццё. Але ж гэта мы, мы ўкралі ў іх Шапэна, Брамса, Баха. З дзяцінства ўбогія школьныя «ўрокі му» прывучалі да думкі, што больш пастылай, чым класічная літаратура, можа быць толькі класічная музыка. Вось і калышуцца. Быццам прабачэння выпрошваюць. Ці за свае, ці за чужыя грахі? Як вярнуць іх у храм? Як растлумачыць, што сапраўды цудоўна? Пытанні, пытанні...

Кожны дзень задае іх сабе піяністка Ірына Шуміліна. Кожны дзень шукае адказы ў рабоце. Што такое штодзённыя рэпетыцыі артыста? Гэта калі ўсё адточана, выверана, рукі лятаюць як крылы, і ўсё роўна сумняваешся, ці паверыць, ці ўсё зрабіў, каб паверылі і — закрылі вочы, закінуўшы галаву, і — пайшлі за табой...



# Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК





Леанід Дранько-Майсюк — адзін з нешматлікіх сучасных беларускіх паэтаў, якому ўдалося выпусціць дзве свае кніжкі да трыццацігоддзя: «Вандроўнік» (1983) і «Над пляцам» (1986). Той, хто знаёмы з творчасцю паэта, заўважыць у гэтай падборцы нешта новае. Найперш кінуцца ў вочы свабодныя вершы, новыя тэмы, матывы. Зрэшты, усё гэта было падрыхтавана ў папярэдніх творах, бо там была Гарынь, быў родны Давыд-Гарадок, былі Васіль і Люба — бацькі Леаніда...

* * *

Ці гэта памяць узвышае нас!
Ці водгулле, што вечнасцю здаецца!
«Над хвалямі...» — прамоўлю і ў адказ:
«...сінеючага Ніла...» — адгукнецца.

Ды не заўсёды... І знікае сон.
Радзіма — жвір, і гэты жвір сплывае.
«Ад прадзедаў спакон...» А што спакон!
Я — ведаю, а мой сусед не знае.

* * *

На небе — богу, бацьку — на зямлі
Паклон, паклон і вечная пакора.
Жыць так патрэбна, як раней жылі,
Шануючы і хорам свой, і сорам.

Пакуль руіны хорама стаяць,
І рэшткі сораму ў душы трапечуць —
Мінулае нас можа ўратаваць,
Спадзеючыся з намі на сустрэчу.

Пакуль вятры адкрыццяў не змялі
Жывога харацтва жывыя душы,
«На небе — богу, бацьку — на зямлі»,—
Прамовім разам і да продкаў рушым.

* * *

Там — хлопчык Біблію гартае,
І голас Ірадаў дрыжыць,
Стаяць з засмяглымі іртамі
Ерусалімскія крыжы.

І там — як кацяня, рахмана,
З гарынскіх выбраўшыся крыніц,
Вада святая Іярдана
Да ног дзіцячых кладзецца ніц.

* * *

Адзін пяе, другі сапе —
Працуюць творчыя натуры
Не для культуры, для сябе,
Але ж выходзіць для культуры,—

Бо ж ёсць нядрэнныя тамы,
Карціны, фільмы і брашуры...
Няўжо й Купала, як і мы,
Таксама не дзеля культуры!..

* * *

Смутак па зялёным колеры,
Па загадцы вітражоў,
І анёл у храме колішнім
З ценем крылаў-спарышоў —

Як глыбокае-глыбокае,
Не пазбытае дасюль.
Як высокае-высокае
І адзінае пакуль.

* * *

Ты зразумей мяне — пасля карай,
Але пакуль што ў гэтае імгненне
Нічым, нічым, прашу, не дакарай,
Знайдзі супакаенне у цярпенні.

У гэтае імгненне прыгажосць
Пакінула мяне і азарэнне,
І толькі злосць, адна пустая злосць
Аблытала цяжкім сваім карэннем.

Я вінаваты, нават цераз край...
Прыму пасля любое пакаранне,
Але пакуль, прашу, не дакарай,
Дай супакоіцца — на вуліцы змярканне.

### 1830

У гэтым годзе Пушкін, як пра добра вядомае, але зусім звыклае, мімаходзь заўважыў: «Любоў да бацькаўшчыны ў душы паляка заўсёды была пачуццём безнадзейна-змрочным. Згадаем іхняга паэта Міцкевіча...»
У гэтым годзе часта згадвалі Міцкевіча-паэта і не радзей згадвалі Міцкевіча-палітыка.
Эстэты дарэмна хваляваліся, што вялікі Міцкевіч забудзецца на чыстую паперу
І вершы пачне, ды і то толькі зрэдку, запісваць на скамечаных краях карты былой Рэчы Паспалітай.
Але таго, вядома, не магло стацца, бо і палітыка ў разуменні паэта засноўвалася на думцы аб радзіме, а гэта значыць — на паэзіі.

### ЯК ПАКАХАЦЬ РУЖУ

О, гэта няпростая навука — пакахаць Ружу.
Перш за ўсё Вы павінны любіць паэзію, гэта значыць — верыць, што жыццё сапраўды вечнае.
Вы павінны па кропельцы сабраць некалі згубленую наіўнасць, дзякуючы якой шчымліва нерухомелі губы пасля першага пацалунка.
Але галоўнае — Вы павінны пераканацца, што ўсе клопаты —
драбяза ў параўнанні з марай — пакахаць Ружу.
У той мары ісціна, роўная мудрасці, якую выпадкова пачулі Вы на Камароўскім рынку ад старога калгасніка,— што ні робіцца, а на сцябліне вырастае толькі адзін колас.

* * *

Я ўбачыў натоўп юнакоў у магнітафонных навушніках.
Цалкам занятыя кішэннай музыкай, юнакі не чулі ні пошуму дрэў, ні трамвайных званкоў, ніякага іншага вулічнага гоману.
Але ўсё ж — яны бачылі вуліцу і, пэўна, своечасова заўважылі б на ёй усё для сябе небяспечнае.
Я ведаю, што хутка з'явяцца тэлевізары ў выглядзе масак.
Юнакі надзенуць гэтыя маскі і, магчыма, на першым часе не будуць бачыць
ні дрэў, ні трамваяў, ні самой вуліцы.
Грамадству трэба паклапаціцца, каб яны, захопленыя тэлевідовішчам, не трапілі пад колы транспарту ці ў каналізацыйныя люкі.
Для бяспекі неабходна зрабіць спецыяльныя тратуары, па якіх можна было б ісці, не скідаючы тэлемасак.

Віктар СЛАЎКІН

# ДЗІЎНЫЯ ЛЮДЗІ ЗАПОЎНІЛІ ГОРАД

## ПРАДМОВА АД АЎТАРА

**У сакавіку 1968 года ў Акадэмгарадку пад Новасібірскам адбыўся першы фестываль бардаў. Сярод удзельнікаў Юрый Кукін, Аляксандр Дольскі... Зоркаю ж першай велічыні з поўным правам быў Аляксандр Аркадзьевіч Галіч. Канцэрты, дыскусіі, прэс-канферэнцыі... Акадэмгарадок вірам віраваў. Але ўжо пад другую палавіну фестывалю над ім пачалі збірацца хмары. З Новасібірска на чорных «Волгах» пачало падрульваць начальства, панура пра нешта раіцца за зачыненымі дзвярамі. Фестываль тым не менш удалося давесці да канца. На банкеце з нагоды яго заканчэння Аляксандр Аркадзьевіч Галіч пакінуў аўтограф на маёй ганаровай стужцы члена прэс-групы: «А ўсё-такі, нават калі будзе кепска — пакуль добра. Галіч». Як у ваду глядзеў. У друку — спярша ў новасібірскім, а потым і ў цэнтральным — пачалі паяўляцца артыкулы, у якіх за што толькі не клялі бардаў, фестываль быў аб'яўлены ідэалагічнай памылкай, клуб маладых вучоных «Пад інтэгралам» быў разагнаны, у хлопцаў паляцелі кандыдацкія, доктарскія, у Маскве пачаліся непрыемнасці ў Галіча... Адным словам, тыповая гісторыя тых гадоў.**

**Мой артыкул пра фестываль, які я, прыехаўшы, здаў у адзін маскоўскі часопіс, не пайшоў. Тады гэта быў рэпартажны артыкул, журналісцкая справаздача пра актуальную падзею, сёння, праз дваццаць гадоў, ён ператварыўся ў «рэтра», у мемуары.**

Фестываль як фестываль. Нічым не горшы за любы маскоўскі. Або, скажам, венецыянскі.

Два-тры канцэрты ў дзень, начныя дыскусіі ў тытунёвым дыме, ранішнія прэс-канферэнцыі, прыёмы ў членаў урада клуба «Пад інтэгралам». Я не абмовіўся — не праўленне, а ўрада, бо на чале клуба маладых вучоных стаяць Прэзідэнт і Прэм'ер-міністр, а міністры сацыялогіі, культуры, інфармацыі, нават міністр пяшчотных пачуццяў і засмешных спраў— складаюць кабінет. Міністры давалі прыёмы гасцям фестывалю ў сваіх аднапакаёвых кватэрах, а Прэзідэнт, адпаведна, у сваёй двухпакаёўцы.

На сцэне, дзе спявалі барды, заўсёды сядзеў народ і, паспрабаваўшы скласці навуковыя ступені абапал рампы, мы маглі атрымаць абсалютна роўныя велічыні. Ці не таму на канцэртах знікалі тыя паўтара метра, якія звычайна ўзвышаюць сцэну над залай. Каб узнавіць дэмакратычную атмасферу фестывалю, я буду бардаў (акрамя аднаго) называць няпоўнымі імёнамі. Гэта, праўда, зусім не даводзіць, што з усімі я піў на брудэршафт. Проста, мне здаецца, што і на афішах (калі яны абклеяць платы вялікіх гарадоў) трэба пісаць, напрыклад, так: «ЮРА КУКІН. ПЕСНІ З ПРЫГОДАМІ».

Юра так і кажа:

— У мяне кожная песня з прыгодай.

Вось што ён расказвае зале, перш чым паспяваць «Міражы».

— Аднойчы круцілі ў хлопцаў запіс французскага джазіста, ён цыган па нацыянальнасці, Джанго Рэйнхард, па-мойму, так яго звалі. Дужа мяне ўзяла адна мелодыя. Закарцела напісаць словы, я і напісаў. Але спяваць не змог — музычна складана, а ў гармоніі прымітыў. Тады я напісаў на гэтыя словы сваю музыку. Ну і выйшла:

**Я заснувший пассажир,**
**Поезд — жизнь.**
**Выплывают миражи**
**Сна, лжи.**

Кукіну 35 гадоў. Жыве ў Ленінградзе. Трэнер па фігурным катанні. А летам, калі разам з лёдам растае і яго праца, ходзіць у геалагічныя партыі.

Міністр сацыялогіі клуба «Пад інтэгралам» Юра Карпаў сказаў неяк: «Недаробленасць песень бардаў адпавядае недаробленасці нашай будзённай імгненнай свядомасці».

Пэўна ж так... Гэта як імгненны фотаздымак — і рот разяўлены, і вочы вырачаны, і рука ўзмахнула, змазалася і тырчыць, бы кукса. І не тое каб прыгожа, але раптам у гэтай бязглуздзіцы праскоквае нешта такое, што аб'ект схавае глыбока-глыбока, пазіруючы вялікаму майстру. Зусім не тое сам майстар, калі ён вялікі, ён вылавіць гэта нешта, як вішню з кактэйлю: у яго свой метад, свой талент, а ў маменталіста — свае. Майстар выдае адзінку прадукцыі і гарантуе якасць, маменталіст жаываліць перад вамі гару сваіх работ і просіць выбраць каму што спадабаецца. Лаўлю сябе на думцы, што другое мне цікавей. Складваецца ілюзія, быццам ты сам удзельнічаеш у працэсе творчасці. Бо ацэньваем жа мы (вяртаючыся да бардаў) — гэты бард мой, той не мой, гэтая песня мая, тая мне чужая. І, магчыма, сакрэт прывабнасці і папулярнасці «гітарных» спевакоў якраз у тым, што пры ацэнцы творчасці на нас не ціснe аўтарытэт. Барды — нашыя божышчы і героі якраз таму, што яны ніякія не божышчы і не героі, а, як усе мы, звычайныя сучаснікі адзін аднаго. Мазгі бардаў — нашыя мазгі, а іх магчымасці — нашыя магчымасці. У кожным разе нам так здаецца.

На фестывалях дарога да славы кароткая, як стометроўка для бегуна.

Усяго пятнаццаць мінут спатрэбілася Сашу Дольскаму, каб зрабіцца «зоркай першай велічыні». Паспяваў ён «Развясёлую песеньку пра манекен», «Як намаляваць птушку» (на словы Жака Прэвэра) ды «Канатаходца», ды «Фантамаса» і — Дольскі, Дольскі, Дольскі! — панеслася па Акадэмгарадку.

Не раўнуючы з многімі бардамі, Саша выдатна валодае гітарай, і музычныя акцэнты ў яго песнях такія ж важныя, як і сэнсавыя. Саша абаяльны аж да таго, што на дыскусіі яго папікнулі, што занадта падабаецца зале. І праўда, у анкеце на пытанне «прафесія» Саша можа смела пісаць: «Любімец публікі». А так ён проста аспірант кафедры эканомікі будаўніцтва ў адным свярдлоўскім інстытуце, і кожны раз пры сустрэчы прафесар кажа яму: «Доктар Дольскі, калі ўжо вы кінеце вашыя танцы-шманцы?»

А зала тупоча нагамі: «Яшчэ, Саша, яшчэ!..» Што ёй, зале, да таго, што Сашу праз дзве гадзіны ляцець у Свярдлоўск на пасяджэнне кафедры, якой таксама ані не абыходзіць ягонае захапленне «танцамі-шманцамі». А пакуль яму ёсць калі, бард каторы раз спявае:

**Полусолнце, полудождь,**
**Зонтик полукрасный.**
**Ты ко мне полуидешь**
**Сверхполунапрасно.**

І яшчэ:

**Я по свету хожу,**
**Я прохожих прошу —**
**Поселитесь, пожалуйста, в доме.**
**Проведу я вам газ,**
**Я же строил для вас,**
**Возьмите, вот ключ на ладони.**

Але ніхто не хоча засяляць дом. І гэта калі нам так трэба жыллё?!. Што, чаму? А вось чаму: дом той, выяўляецца, намаляваны. Хто ж такі будзе прымаць сур'ёзна?.. А бард усё просіць і просіць... Калі б яму даверыліся, дом адразу стаў бы сапраўдным, цагляным — ён абяцае.

Паверыць яму — вось усё, што ад нас трэба барду. Нават менш — выслухаць. У яго песня — адзіная магчымасць выявіць сябе. А ў наш час аднаму чалавеку амаль немагчыма зрабіцца аўтарам канцавога прадукту. Адзін робіць болт, другі — гайкі, трэці — колы, чацвёрты — яшчэ штонебудзь... Дзесяты... Дваццаты... Соты... А сто першы ездзіць у аўтамабілі, які з гэтых балтоў і гаек звінчаны.

...Вышэй я пісаў, што вонкава барды нічым не вылучаюцца з абарыгенаў Акадэмгарадка. Але быў сярод удзельнікаў фестывалю адзін, вызначыць прыналежнасць якога да мастацтва было лёгка, як раз-два-тры. Высокі, статны, у абы-як падпаясаным шэрым кашлатым паліто, з невялікімі вусікамі над яркімі вуснамі гурмана — здавалася, сваёй арыстакратычнасцю ён павінен быў шакіраваць плябейскае брацтва бардаў... Аж не! Ён якраз і быў бард № 1.

Аляксандр Аркадзьевіч Галіч, 48 год, вядомы драматург і кінасцэнарыст. За некалькі апошніх гадоў напісаў больш як семдзесят песень і так хутка здабыў папулярнасць у новай якасці, што ў многіх Галіч-драматург асацыіруецца дагэтуль з Галічам-паэтам.

А якраз самыя цікавыя песні ў Аляксандра Аркадзьевіча тыя, у якіх яго паэтычны талент праецыруецца на талент драматурга. Тады выходзяць песні-п'есы. Вострыя, дасціпныя, сацыяльныя... Нездарма адзін маскоўскі тэатр папрасіў Галіча напісаць сатырычную камедыю паводле яго песні «Балада пра прыбавачную вартасць». А яно і праўда, чым не сюжэт?

Мешчанін, непрыкметная асоба, раптам даведваецца, што яго цётка Калерыя, якая сканала ў далёкай капіталістычнай Фенгаліі, пакінула яму багатую спадчыну. І вось з непрыкметнай асобы вылушчваецца заводчык, працмыга, купец. Чакаючы мяхоў з банкаўскім кляймом, прамантачвае купец усе свае кроўныя, цяпер бо яны яму, не раўнуючы, як нябожчыку ядуха. Оргія, кульмінацыя. Канец першага акта. А далей што? А вось што. Глядзіць наш герой тэлевізар і бачыць, што ў Фенгаліі рэвалюцыя, нацыяналізуецца прамысловасць і робяцца народнымі ўсе банкі, фабрыкі, заводы... Уяўляеце, што тут дзеецца ў непрыкметнай асобе? Ён спявае:

**Я смотрю на экран, как на рвотное.**
**То есть как это так — все народное!!**
**Это ж наше, кричу, с тетей Калею,**
**Я ж за этим собрался в Фенгалию.**

Непрыкметны звярэе. У свае асабістыя ворагі ён перш-наперш запісвае... Маркса. Бо не хто-які, а менавіта ж Маркс у свой час прадказаў крах усіх непрыкметных асоб з прыкметнымі капіталамі. Вось так, з марозам па скуры, канчаецца прыгода «мешчаніна ў багацці».

У Акадэмгарадку зала клалася з рогату, а сацыёлагі спешна перапісвалі словы, каб потым выкарыстаць песню як вучэбны дапаможнік.

— Баржом... Калі б можна было дастаць баржому,— выбягае Аляксандр Аркадзьевіч за кулісы, пакуль там тыя авацыі.

Дастаюць баржом, і Галіч спявае яшчэ. Цэлае аддзяленне. Галіч лічыць, што бардава спяванне — не музыцыраванне, не нагаворванне вершаў, а тэатр. У гэтым тэатры толькі адзін актор, а раз яно так, трэба ўмець быць на сцэне доўга. Вядома, калі ёсць баржом.

Актор Галіч выдатны. Шмат хто спявае яго песні, але каб так, як ён, дык ніхто. У яго спяванні вылучаецца не толькі кожнае слова, а кожны гук.

**...А мы баллагурим, а мы**
**курррролессим,**
**Нам недррругов ллесть —**
**Как во-да из ко-ло-дца.**
**Но помни — по ррельсам,**
**по ррредьсам, по рррреельсам**
**Колессса, колессса, колесс, колес...**

Не, не тое. Нават калі запісаць словы так, як іх пррррамаўляе Галіч (а я і не перакладаю гэтыя тэксты, іх водар у рускім гучанні.— *Заўв. В. С.*), усё адно эфекту вашай прысутнасці на яго канцэрце не будзе.

Галіч — сатырык. І як вакол творчасці любога сатырыка, на дыскусіях закіпалі спрэчкі: а ці не лепей будзе пра нашыя недахопы гаварыць не так часта і не так рэзка, і не так адкрыта, і наогул каб, можа, хай бы ўжо якнебудзь і не гаварыць. Здавалася, каб даў бог такім апанентам таленту, узялі б яны гітару самі і паспявалі б міленькі «Старацельскі вальчык», словы якога прыдумаў за іх Галіч:

**Мы давно называемся взрослыми**
**И не платим мальчишеству дань,**
**И за кладом на сказочном острове**
**Не стремимся мы в дальнюю даль.**
**Не в пустыни, не к полюсу холода,**
**Не на катере к чертовой матери...**
**Но поскольку молчание — золото,**
**То и мы, безусловно, старатели.**
**Промолчи — попадешь в первачи.**
**Промолчи, промолчи, промолчи.**

Ужо ў Маскве я пазваніў дырыжору Кірылу Пятровічу Кандрашыну:

— Скажыце, калі ласка, вас, як прафесійнага музыканта, не абразіць, калі барды і менестрэлі, якія слаба валодаюць правіламі кампазіцыі, будуць шырока выступаць у канцэртных залах? Ці не асыплецца фарба з партрэтаў вялікіх кампазітараў, калі бард паспявае сваю песеньку з кансерваторскай сцэны?

— Не буду гаварыць за вялікіх,— адказаў Кірыл Пятровіч,— што ж да мяне, дык я, калі слухаю песні, пра якія вы гаворыце, ухіляюся ад музычных ацэнак гэтаксама, як не спрабую ацаніць асобна словы. Я слухаю ўсё разам, і ўсё разам мне падабаецца. Пакуль што барды больш бяруць у фальклорнай меладыстыкі, чым даюць ёй, але я веру, што яны не запазычацца. Іх мелодыі стануць сапраўд-

нымі народнымі безыменнымі мелодыямі. Праўду кажучы, гэты працэс ужо ідзе.

Аднойчы на канцэрце Галіч сказаў:

— Як песня добрая, яе спяваюць усе, і аўтар спакваля робіцца вядомы. А вось калі благая, поруць пальцам у кампазітара і паэта і кажуць: «Вось ён, ён гэта напісаў».

Для нас, хто жыве ў канцы шасцідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя, фальклор — гэта нешта былінна-казачна-прыпевачнае. Гэта нейкія пахучыя словы, выцінанкі з бярозы, сплеценыя з зёлак, перавітыя кудзелькай... Сучасныя барды выпілоўваюць свае словы з пластмасы, металу і змацоўваюць іх дротам. Часам калючым.

На нашых вачах нараджаецца народная творчасць гарадской інтэлігенцыі. Нават сама гэта формула гучыць парадаксальна. Аднак калі інтэлігенцыя — частка народа, чаму ж яе самадзейная творчасць не фальклор? Гарадскі гітарыст і вясковы гарманіст — калегі, кажучы мовай першага, альбо братаны, сказаўшы мовай другога.

На закрыцці фестывалю «наш сучасны Піт Сігер» Сярожа Часнакоў, хударлявы, далікатны фізік, злавесна паблісквaючы акулярамі, спяваў з залай піpацкую песню Юлія Кіма:

**По бушующим волнам**
**Мы гуляем тут и там**
**И никто нас не зовет**
**в гости,**
**А на мачте черный флаг,**
**А на флаге белый знак,**
**Человеческий скелет —**
**кости!**

**А-ха-ха-ха!**

— У гэтым месцы трэба свістаць! — крычыць Сярожа ў залу.— Мы ж такі піраты!

І зала свішча, вухае, тупоча нагамі і робіць усё, што ёй кажа востранькі Саша Часнакоў, і, у сваю чаргу, прымушае яго спяваць песню за песняй.

Вось і канец свята. Раздача сімвалічных прызоў. Юра Кукін мае спецыяльны прыз за найлепшую песню пра Акадэмгарадок. Песню ён напісаў не пра яго, але каму гэта заважае — словы ж правільныя, слушныя. Песня старая і напісана пра нейкі фантастычны горад, але Юра лічыць, што, нарэшце, ён паявіўся ў Сібіры. Дзіўныя людзі запоўнілі ўвесь гэты горад.

**Мысли у них поперек и слова поперек,**
**И в разговорах они признают только**
**споры.**
**И никуда не выходит оттуда дорог...**

Вучоныя дораць Кукіну колбу з нечым празрыста-белым усярэдзіне. На колбе напісана: «Туман Акадэмгарадка». Уручае прыз Анатоль Бурштэйн — Прэзідэнт клуба «Пад інтэгралам».

Уручыў і тут жа зацерабіў правай рукой левую палавіну сваёй кандыдацкай бародкі, як церабіў яе ўсе шэсць фестывальных дзён. Зрэшты, хто ведае Бурштэйна даўно, кажуць, што ён толькі тады і не хапаўся за сваю бараду, калі яе ў яго не было. Але гэты перыяд прыдворныя біёграфы прапускаюць, бо тады Толя жыў у Адэсе і нават не падазраваў, што ў далёкай Сібіры яго чакае прэзідэнцкі тытул.

— Я з натуры чалавек імпэтны,— кажа Прэзідэнт.— Жыві я ў Маскве, я б спатольваў свой тэмперамент у вэрхале сталічнага жыцця, а тут, у Акадэмгарадку, калі ён толькі пачынаўся, трэба было гэты вэрхал арганізоўваць самому. І вось мы з хлопцамі скідалі клуб маладых вучоных, каб замільгалі вакол нас твары, каб потым з гэтай кумільготы выхопліваць сабе аднадумцаў.

Сёння, калі Бурштэйн кажа: «Першы фестываль бардаў і менестрэляў абвяшчаю закрытым» — яго вочы поўныя тугі.

Лацная была кумільгота!..
1968 год.

## ЗМУШАНАЕ ПАСЛЯСЛОЎЕ

Ну але ж, і просты рэпартаж таксама можа стаць мемуарамі... Пра тых, хто ўзяў у рукі гітару. Іх, вялікіх бардаў, людзей, па сутнасці, легендарных, было ўсё-такі траіх, і гэта яны пачыналі Песню... Булат Акуджава, Аляксандр Галіч, Уладзімір Высоцкі. Два з гэтай вялікай тройкі так і засталіся ў гудзе гітарных струн.

Іх песня пачалася пасля XX партз'езда, які стаў сапраўдным шквалам новага ў грамадскім і культурным жыцці краіны, што адчула, як цесныя ёй форменны кіцель і цяжкія боты правадыра. З авансцэны інтэлектуальнага жыцця знехаця, але ўсё-такі сышлі абагрэтыя манаршай ласкаю вялікага мудраца, правадыра і настаўніка, патэнтаваныя лаўрэаты Сталінскіх прэмій, жывыя класікі, первенцавы і ярмілавы, незастрашальныя, з правам забіваць, джэймсы бонды ад літаратуры, уплішчаныя ўва ўсе энцыклапедыі і школьныя хрэстаматыі.

Настаў час маладых, таленавітых і сумленных!

Але калі ў Акуджавы і Высоцкага XX з'езд стаў запальнікам дынаміту душы, дык часінай хваравітага натхнення Галічу сталі гады, што прыйшлі неўзабаве — гады брэжнеўскай «стабілізацыі», калі ў юбілейных праўдзінскіх артыкулах пра Тухачэўскага і Якіра гаварылася таямніча-элегічна: «Памёр у 1937 годзе»; калі пільныя мастацтвазнаўцы, абараніўшы кандыдацкія дысертацыі па «эстэтычных поглядах А. А. Жданава», глуміліся з акопнай праўды Васіля Быкава, а лёгкія на пад'ём манументалісты накшталт Стаднюка ў літаратуры і Озерава ў кіно пад бадзёрлівыя позіркі начальства рэанімавалі вобраз вялікага палкаводца-генералісімуса, і некаторыя гледачы прымалі яго з'яўленне на экране воплескамі. І ўсё неяк змазалася, расшалопай такое, асабліва калі ты малады. І наогул, ці быў той 37-ы год, можа, адразу настаў 38-ы? Загадка: ікс, ігрэк, зэк...

Якраз у гэтыя дні і прагучалі песні Аляксандра Галіча пра тое, як невымоўна журботна «облака плывут в Абакан», пра тое, як оперработнік, а па-мясцоваму — «лагерны кум», расказвае зэкам, што «великий Отец» аскандаліўся і ім трэба ноччу без лішняга гвалту збіць кіркамі грозны манумент, што ўпрыгожвае лагерны пляц. І спявае Галіч, і зжахаецца, і слухачы зжахаюцца ад гэтага расказу, як у нязносную палярную ноч б'е кайлом па бронзавых ботах Настаўніка без дай прычыны сасланы пажыццёва ў тундру «лагерны нумар». Б'е, плача, і слёзы замярзаюць на тоненькай целагрэйцы. А поруч плача ягоны ахоўнік з заінелым аўтаматам, у белым кажушку і валёнках. Вось яна, найвялікшая трагедыя стагоддзя, калі людзі, якія здзейснілі рэвалюцыю і перамаглі фашызм, так і не здолелі вызваліцца ад абагаўлення нязноснага чалавека ў мяккіх ботах. І страху перад ім.

Кім тады, у другой палове шасцідзесятых, калі задушлівая навалач брэжнеўскай «усеагульнай аднадушнасці» накрыла духоўнае жыццё краіны, быў Галіч?

Гэта пытанне неадназначнае.

Мне ягоная гітарная муза здаецца сваячкай някрасаўскай, якая жахаецца і пратэстуе, калі бачыць сялянку, якую сякуць.

Гэта быў цяжкі выбар — ужо перапырхвала з вуснаў на вусны слоўца-прысуд «дысідэнт».

Акуждава пайшоў у свет вобразнай філасофіі, у песні пра вінаградную костачку...

Высоцкі пачаў дзёрзка шаржыраваць свой час.

Галіч апусціўся з паднябёсных мансардаў Саваофа ў баракі і камуналкі пяціпавярховага мікрараёна, дзе жылі яго сучаснікі, слухачы яго песень.

Шмат каму здалося гэта тады занадта экстравагантным. Пястун Музы і жанчын, аблашчаны поспехам драматург, стаў стваральнікам песеннага пратэсту і выкрывальнікам істэблішмента. Яму казалі: «Здымай кіно — гэта ж такія грашыскі», а ён едзе ў Новасібірск на фестываль бардаў, раілі ўгаманіцца, а яму ўгамону не было, ён спяваў. Пра абстракцыяніста, якога дбальнікі «рэалізму» з галёканнем турылі адусюль, і адна толькі цешча ўпусціла ў заканурак, дзе грукае ў акно замерзлае сподняе. Ён спяваў пра «брыгаду камуністычнай працы», а чым займалася гэта брыгада? Э-э, і гаварыць няма пра што... Толькі блюзнерчае было гэта «камуністычнай працы». Зрэшты, ці мала было таго блюзнерства... Ён спяваў пра былую ленінградачку, што прыбілася ў Карагандзе да кемкага шафёра — у яе, ссыльніцы, усё ўжо ззаду... А былі ж калісьці ў яе жыцці бацька і маці, якія працавалі ў Смольным... Ён спяваў пра боль людскі тых, што вярнуліся з лагернай нівечы, дзе «всех, кого предал, как проклятых трижды, свои же солдаты вели на расстрел», і цяпер не ведалі, куды схавацца ад пласцінкі з вясёленькім фоксам пра Марусю, якая «как березонька стройна», якая «хлопочет и замуж хочет»... Ён спяваў пра няўдальца-цыркача і пра фізікаў, што «ихним физикам проспорили пари...». Гэта ўжо былі не хаханькі. Яго няхітрая песенька «Она вещи собрала, сказала тоненько...» стала першай, яшчэ да Трыфанава, драмай усяленскага абмену, такога ўжо звычайнага ў сямідзесятыя гады. Мянялася ўсё: не толькі кватэры, але і перакананні, сябры. І як трагічна-прароча прадказваў усё гэта Галіч у самую-самусенькую пару наступлення брэжнеўскага дзесяцігоддзя «пераемнасці кіраўніцтва».



Галіч спяваў пра тых, з кім жыў побач. Але каму былі патрэбны ягоныя песні? Тады ўсюды звінелі бадзёра-казённыя варыяцыі пра раку Бірусу і зялёнае мора тайгі, а ў моду пачалі ўдзірацца каралі пінг-понга і супермены з юрзачкамі і гітаркамі цераз плячо. Новыя часіны — старыя песні. Млявым будням патрэбен быў рамантызм хлеўнай гадоўлі. На эстрадзе царавала Веліканава, у скульптуры — Вучэціч, у літаратуры — Кочатаў. Настала эпоха «вялікага перакуру»... А Галіч не быў рамантык, ён быў чалавек, які хварэў часам і лепш за іншых разумеў цану марнаслоўю, рыфмам і лозунгам.

А што ж маладыя рамантыкі-супермены?

У лепшым разе, у знак пратэсту, яны ішлі грузіць малочныя бутэлькі ў гастраном або збіраліся на чытанне «Ведаў» ці выдадзеных у Санкт-Пецярбурзе фаліянтаў Бярдзяева. З большага ж рамантыкі ўдала пераджаніліся з дочкамі генералаў і дактароў навук і ўпэўнена крочылі па сцежцы, пратаптанай умудронымі жыццём у сталінскую эпоху бацькамі. У зацішку казённых дач яны слухалі бабіны з запісамі Галіча. І выскаляліся вальяжна і паблажліва:

— А ці варта гэтак, Саша? У жыцці і без таго такая пропадзь супярэчнасцей...

Яны лічылі сябе першымі ў той спрэчцы, дзе «не меў рацыі» акадэмік А. Сахараў, затое Ленінскую прэмію па літаратуры і ўсеагульнае захапленне крытыкаў атрымаў Л. Брэжнеў.

Рамантыкі шасцідзесятых, што сталі прагматыкамі сямідзесятых! Што вы зрабілі? З кім і ў чым не згадзіліся? Калі не змаўчалі? А Галіч не маўчаў, і яго выставілі (слава ліберальным часінам!) з краіны, з Радзімы.

Калі сёння слухаеш адну баладу Галіча, напісаную на смерць Барыса Пастарнака, яшчэ і яшчэ раз спыняеш стужку на гэтых радках: «Как гордимся мы, современники, что он умер в своей постели». Сапраўды, ні Галіч, ні Пастарнак «не сходили с ума в Сучане и не мылили петлю в Елабуге». Наша сумленне можа быць спакойнае.

Галіч памёр у Парыжы пры даволі, зрэшты, нявысветленых акалічнасцях. У тузе па Айчыне і ў марах, што, як бы ні супраціўляліся «прававерныя» ахоўцы чысціні радоў, ён усё роўна вернецца...

Сёння ён вярнуўся. Вершамі, надрукаванымі сёлета ў нашых самых лепшых часопісах, песнямі, якія жывуць у памяці яго сучаснікаў. Яго аднавілі ў Саюзе кінематаграфістаў і ў Саюзе пісьменнікаў.

Так што, усё добра? Такі няблага, бывала і горш... Адно куды падзець сорам успамінаў? Бо калі Галіч сіліўся да нас дакрычацца сарванымі струнамі душы, мы толькі выскаляліся, гледзячы на экраны тэлевізараў, дзе ўпіваліся ўладаю старцы, мы хвалілі «эканоміку, якая павінна быць эканомнай» і трацілі грамадзянскі пал на ўхваленне чарговага пачыну.

А Галіч Спяваў.

У яго ёсць душавярэдная балада, як сцюдзёнай ноччу па ўсёй краіне збіраюцца абломкі збітых манументаў генералісімуса і, ператварыўшыся ў маналіт, цяжка крочаць ступой Камандора. Вядома, усё гэта мроіва злое начы, але Галіч папярэджвае — злавеснаму мёртваму каменню патрэбна чалавечына, тады яно ажыве і зноў апляце сэрца і розум лагерным калючым дротам.

Мы слухалі і спаняверана ўсміхаліся. Мы не верылі яму. Мы думалі, што ў грамадстве ёсць толькі адна магістральная дарога — наперад! Сёння мы, здаецца, пралупілі вочы? Дзякуй і тым старым магнітным стужкам...

На невялікіх кладах пад Парыжам, у галаве паэта стаіць помнік з выбітымі з Пісання словамі: «Шчаслівыя выгнаныя за праўду».

**Пётр РОГАЎ**

«ДЭПЭШЭ МОД»

Аляксандр НАВІЦКІ

# БЕСКАМПРАМІСНАСЦЬ «ДЭПЭШЭ МОД»

1976 год надоўга запомніцца аматарам рок-музыкі. Менавіта ў тым годзе рок, які стаміўся ад дыска-мішуры, набыў другое дыханне. Наўрад ці хто мог меркаваць, што кампазіцыя «Анархія ў Злучаным Каралеўстве», запісаная групаю «Сэкс Пісталз», якая не мела асаблівых музычных вартасцей, стане пачаткам новае эры на рок-сцэне, аднак так яно і здарылася. На старонках музычнай (дый не толькі музычнай) прэсы ўсё часцей стала мільгаць кароткае, шорсткае слова «панк». Уладальнікі магазінаў грампласцінак тэрмінова здымалі з вітрын канверты альбомаў з усмешкамі дыска-прыгажунь і замянялі іх фатаграфіямі новых куміраў, зусім не падобных на старых,— злых, іранічных, з прычоскамі, расфарбаванымі ў самыя неверагодныя колеры ці зусім без іх. Куміраў, якія нічым не адрозніваліся ад «хлопцаў з твайго двара», ад тваіх аднакласнікаў. І «панк-рэвалюцыя» дала жыццё не толькі панк-року, але і нарадзіла мноства іншых накірункаў, якія неўзабаве музычная крытыка назвала «брытанскай новай хваляй». Адзін з такіх накірункаў характарызаваўся выкарыстаннем пераважна электронных музычных інструментаў: разнастайных сінтэзатараў, секвенцэраў... Плынь гэтая («электра»- ці «тэхнапап») сфармавалася ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў і вельмі хутка стала папулярная, галоўным чынам дзякуючы творчасці такіх груп, як «Алтравокс», «Спэндэў Бэлэй», «Дзюран, Дзюран», «Візаж», «Дэпэшэ Мод». Па-рознаму склаўся лёс гэтых груп, усе яны спазналі і ўзлёты і падзенні, але можна з ўпэўненасцю сказаць, што толькі апошняя па-ранейшаму знаходзіцца на вяршыні поспеху і карыстаецца прызнаннем. Пра яе наш аповяд.

Дык вось... Жылі-былі ў горадзе Бэзілдоне, што ў англійскім графстве Эсэкс, Вінс Кларк, Марцін Гор і Эндзі Флэтчэр. Аднаго разу хлопцы, якія тады яшчэ вучыліся ў розных школах, вырашылі, што час ужо «знайсці сябе», а паколькі ўсе яны любілі рок-музыку і лічылі, што могуць сказаць у ёй новае слова, без асаблівых ваганняў было прынята рашэнне стварыць рок-гурт.

Сказана — зроблена. Спачатку ў арсенале групы былі дзве гітары і сінтэзатар, але калі да хлопцаў далучыўся вакаліст Дэвід Гэн, было вырашана развітацца з гітарамі і поўнасцю пераключыцца на сінтэзатары. У гэты ж час музыканты знайшлі назву для сваёй групы. Гартаючы французскі часопіс мод, яны натрапілі на словы «мод дэпэшэ» («хуткая мода» — толькі ў англійскім напісанні парадак слоў стаў іншы). Гучанне фразы ім спадабалася, здалося незвычайным. Не вагаючыся доўга, група назвала сябе «Дэпэшэ Мод» і кінулася на пакарэнне музычных вышынь.

Першыя «дэманстрацыйныя» запісы, зробленыя ансаблем, асаблівага ажыўлення ў музычных сферах не выклікалі. Аднак шэраг выступленняў у папулярным лонданскім клубе «Брыдж Хаўс» прыцягнуў да групы ўвагу вядомага менеджэра Стыво, які ўключыў у выпушчаную ім зборку кампазіцый маладых англійскіх музыкантаў песню «Дэпэшэ Мод» — «Фотагрэфік». Неўзабаве пасля гэтага на ансамбль звярнуў увагу заснавальнік фірмы грамзапісу «М'ют» Дэніэл Мілер, адразу ж падпісаў з ім кантракт. Першы сінгл групы — кампазіцыя «Мроячы пра мяне» — з'явіўся ў 1981 годзе і быў адразу адзначаны крытыкай. Другі — «Новае жыццё» — ўзняўся да адзінаццатага месца ў спісе найбольш папулярных песень Велікабрытаніі, а трэці — «Мне ўсё мала» — увайшоў у «гарачую» дзесятку. Першы альбом «Дэпэшэ Мод», які выйшаў у тым самым годзе,— «Спік энд спэл» — імгненна трапіў у хіт-парады багата якіх еўрапейскіх краін, і, здавалася б, нішто не магло спыніць маладых музыкантаў на іх дарозе да музычнага Алімпа. Аднак здарылася нечаканае: групу пакінуў Вінс Кларк — асноўны кампазітар квартэта. Шмат хто паспяшаўся аб'явіць пра канец «Дэпэшэ Мод», але прагнозы песімістаў былі абвергнутыя: за пяро ўзяўся Марцін Гор, і з-пад гэтага пяра сталі выходзіць песні, якія без асаблівае цяжкасці ўзбіраліся на самыя верхнія прыступкі хіт-парадаў па абодва бакі Атлантычнага акіяна. Альбом «Зламаная шыба», які выйшаў у 1982 годзе, пацвердзіў, што група прыйшла на рок-сцэну Велікабрытаніі з самымі сур'ёзнымі намерамі і не збіраецца сыходзіць з гэтае сцэны, не сказаўшы свайго слова.

Са з'яўленнем у «Дэпэшэ Мод» Алана Уайлдэра, які граў раней у ансамблі «Хітмэн», творчае аблічча групы стала мяняцца. Паступова стаў знікаць рамантычны імідж, на змену бойкім і бяскрыўдным танцавальным песенькам прыйшлі кампазіцыі-роздумы пра сэнс чалавечага існавання, пра ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Гучанне стала больш «індустрыяльнае», аскетычнае. Дзіўна, што, нягледзячы на пераход да «некамерцыйнай» музыкі, «Дэпэшэ Мод», якія атрымалі за яго аднадушнае адабрэнне брытанскай музычнай крытыкі, працягвалі і працягваюць карыстацца камерцыйным поспехам: білеты на іх канцэрты раскупляюцца ўмомант, практычна ўсе сінглы і альбомы групы («Зноў час будаваць» — 1983, «Нейкая вялікая ўзнагарода» — 1984, «Чорнае святкаванне» — 1986, «Музыка для мас» — 1987) разыходзяцца стотысячнымі, а нярэдка і мільённымі тыражамі. Але пры гэтым удзельнікі ансамбля застаюцца сціплымі людзьмі. Рэдка можна сустрэць у прэсе сенсацыйныя паведамленні пра іх асабістае жыццё: музыканты ахвотна даюць інтэрв'ю, але любяць пераважна гаварыць пра музыку і свае адносіны да розных падзей палітычнага жыцця.

Вось ужо восем гадоў «Дэпэшэ Мод» радуюць аматараў року сваёй вынаходлівай, пазбаўленай дэкаратыўнасці, музыкай. За гэты час яны па праву сталі лідэрамі брытанскай «электроннай новай хвалі», а дакладней, засталіся аднымі з яе нешматлікіх адданых прыхільнікаў, якія не паддаліся спакусе хуткага «дыскатэчнага» поспеху (як гэта здарылася, скажам, са «Спэндэў Бэлэй», «Дзюран, Дзюран» і багата якімі іншымі групамі, што з'явіліся на пачатку 80-х). Сёння гучанне «Дэпэшэ Мод» зноў мяняецца: пры запісе апошняга альбома зноў выкарыстоўваліся гітары і іншыя «класічныя» інструменты. Але можна быць упэўненым у тым, што творчыя прынцыпы ансамбля застаюцца ранейшыя: поўная бескампраміснасць, адсутнасць якойсьці залежнасці ад кан'юнктуры на музычным рынку, вера ў правільнасць выбранага шляху, жаданне ствараць не «музыку для мас», а музыку для Чалавека.

★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★



«7 ГЕРЦ»

«АЛІСА»

КІНЧАЎ

«АДЛЮСТРАВАННЕ»

# «ХІТ-ПАРАД» «КРЫНІЦЫ»

Мы атрымалі ад вас, дарагія чытачы, з 15.06.88 па 15.07.88 года 1085 лістоў і паштовак. Дзякуй вам усім.

Пасля падлікаў, доўгіх і марудных, мы маем наступную табліцу папулярнасці:

а. САВЕЦКІ ВЫКАНАЎЦА:

1. Рок-гурт «Кіно» і Віктар Цой — 84
2. Уладзімір Праснякоў — 79
3. Рок-гурт «Чорная кава» — 75
4. Рок-гурт «Круіз» — 72
5. Рок-гурт «Арыя» — 70
6. Ігар Нікалаеў — 66
7. Уладзімір Кузьмін — 61
8. Група «Электраклуб» — 47
9. Ала Пугачова — 38
10. Рок-гурт «Акварыум» і Барыс Грабеншчыкоў — 34

б. БЕЛАРУСКІ ВЫКАНАЎЦА:

1. Рок-гурт «Мроя» — 167
2. Рок-гурт «Адлюстраванне» — 141
3. Рок-гурт «Сузор'е» разам з Нэлі Дзянісавай — 94
4. Рок-гурт «Бонда» — 77
5. Ансамбль «Верасы» — 72
6. Яраслаў Еўдакімаў — 64
7. Рок-гурт «Залатая сярэдзіна» — 28
8. Рок-гурт «7 герц» — 21
9. Ансамбль «Сябры» — 15
10. Ансамбль «Песняры» — 11

в. ЗАМЕЖНЫ ВЫКАНАЎЦА:

1. Майкл Джэксан — 61
2. Рок-гурт «Акцэпт» — 56
3. Сандра — 48
4. Рок-гурт «Металіка» — 35
5. Рок-гурт «Скарпіёнз» — 31
6. Ансамбль «Бітлз» — 24
7. Дуэт «Модэрн Токінг» — 23
8. Ансамбль «Статус Кво» — 15
9. Сі Сі Кэйч — 11
10. Мадона — 10

г. ЛЕПШАЯ ПЕСНЯ (кампазіцыя):

1. «Ён яшчэ вернецца» ў выкананні рок-гурта «Мроя» — 80
2. «Я хачу быць з табою» ў выкананні рок-гурта «Навуцілус-Пампілівус» — 57
3. «Тата, ты сам быў такі» ў выкананні Уладзіміра Праснякова — 40
4. «Маё каханне» ў выкананні Уладзіміра Кузьміна — 32
5. «Казанова» ў выкананні рок-гурта «Навуцілус-Пампілівус» — 21
6. «Рок назаўсёды» ў выкананні рок-гурта «Круіз» — 18
7. «Букет» у выкананні Аляксандра Барыкіна — 14
8. «Ура!» у выкананні рок-гурта «Бонда» — 11
9. Песні Уладзіміра Высоцкага — 9
10. «Маё пакаленне» ў выкананні рок-гурта «Аліса» — 7

д. ЛЕПШАЯ ПЛАСЦІНКА:

1. «Пераступі парог» — рок-гурт «Чорная кава» — 39
2. «Энергія» — рок-гурт «Аліса» — 31
3. «Асса» — песні з кінафільма «Асса» — 23
4. «Маё каханне» — Уладзімір Кузьмін — 21
5. «Рэактыўны самалёт» — дуэт «Модэрн Токінг» — 19
6. «Круіз-1» — рок-гурт «Круіз» — 17
7. «Радыё Афрыка» — рок-гурт «Акварыум» — 16
8. Пласцінкі Уладзіміра Высоцкага — 11
9. «Рок-архіў № 1» — ансамбль «Дып Пёрпл» — 9
10. «Смак мёду» — ансамбль «Бітлз» — 8

## МІНІ ХІТ-ПАРАД

У ліпені нашы карэспандэнты наведалі рэспубліканскі піянерскі лагер «Зубраня», дзе адбылося абмеркаванне «Крыніцы». Падчас гутаркі школьнікам, якія сабраліся на беразе Нарачы з усіх куткоў краіны, было прапанавана назваць сваіх любімых спевакоў і рок-гурты, якія маглі б быць надрукаваны на каляровых плакатах. Атрымаўся наступны спіс:

1. «Бітлз» і «Акцэпт»
2. «Металіка»
3. «Еўропа», «Чорная кава» і «Арыя»
4. «AC-DC», Сандра і «Машына часу»
5. «Электраклуб» і «Бэд Бойз Блю»
6. «Аліса», «Кіно» і «Мроя»
7. «Навуцілус-Пампілівус»
8. «Адлюстраванне» і «Акцэпт»
9. «Модэрн Токінг»
10. «Скарпіёнз»

★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★

ВЕРНІСАЖ

Накіды да партрэта Валерыя МАРТЫНЧЫКА

Адам ГЛОБУС

# АБСТРАКЦЫЯНІЗМ, РОК І ХАЛТУРА

Валерый Мартынчык пятнаццаць гадоў паслядоўна займаецца абстрактным жывапісам. На ягоных рупліва апрацаваных палотнах вырашаюцца складаныя каларыстычныя задачы. Валерый распрацоўвае матывы, якія ў свой час акрэслілі такія «акадэмікі» абстракцыянізму, як Васіль Кандзінскі і Джэксан Полак.

«У адрозненне ад Кандзінскага і Полака мае каляровыя плямы імкнуцца набыць больш геаметрычныя формы,— тлумачыць Валерый.— А з Філонавым мяне заўсёды лучыў модуль апрацоўкі палатна. Ён складаў свае выявы з «жывапісных атамаў», і мне вельмі імпануе такі падыход».



Калі сувязі з творчасцю Васіля Кандзінскага і Джэксана Полака адразу пазнаюцца ў творах Валерыя, дык філонаўскія матывы знайсці цяжка. Але адмаўляць іх прысутнасць у такіх палотнах, як «Правакацыя» і «Зона суцяшэння», не буду. Яшчэ ў спіс настаўнікаў Валерыя Мартынчыка дадам заснавальніка ап-арта — Віктора Вазарэлі. А палатно «Абед канібала» нясе адбітак экспрэсіянізму, але, канечне, не класічнага, які падаравала свету Германія на пачатку дваццатага стагоддзя, а экспрэсіянізму авангарднага, які панаваў на заходнееўрапейскіх выставах у канцы сямідзесятых гадоў.

Пасля стракатага калейдаскопа тэрмінаў распавяду і пра тое, як мастак, што скончыў інстытут у 1972 годзе, да 1987 года практычна нідзе не экспанаваў свае палотны.

«У інстытут я паступіў «на ўра», усе экзамены па спецыяльнасці здаў на «выдатна». А першы курс скончыў з двойкамі,— распавядае Валерый.— Іх мне паставілі за пошук і за парушэнні псеўдаакадэмічных канонаў, што пануюць у інстытуце. Пасля гэтага я падзяліў усе свае творы на дзве часткі: першая — сапраўдныя творы для сябе, і другая — вымушаная халтура. Мне стала вельмі лёгка вучыцца, бо я спакойна выконваў усе патрабаванні выкладчыкаў, нават самыя абсурдныя. А свой вольны час я аддаваў жывапісу такому, якім неабходна займацца нармальнаму мастаку. Спачатку мне было цяжка развесці ў розныя бакі мастака і халтуршчыка, а потым я звыкся».

Момант падзелу сваіх прац на мастацтва і афармілаўку быў для Валерыя Мартынчыка кульмінацыйны. Бо адзін чалавек зажыў двума жыццямі. Адзін Валерый Мартынчык паспяхова вучыўся ў інстытуце; другі пасля занняткаў пісаў авангардныя карціны. Адзін Валерый скончыў інстытут і ўладкаваўся ў мастацкі камбінат у манументальны цэх, каб рабіць мазаікі і роспісы; другі Валерый працягваў лабараторныя доследы ў галіне абстрактнага жывапісу. Адзін мастак бесканфліктна выконваў патрабаванні заказчыкаў і мастацкіх саветаў; другі мастак складаў на паліцы палотны, якім толькі ён сам быў за гледача і суддзю. У выніку ў майстэрні назбіралася цэлая выстава, а многія сцены Наваполацка, Мінска, Карэлічаў і іншых гарадоў называюцца роспісамі і мазаікамі.



На жаль, цікавасць да выяўленчага мастацтва апошнім часам значна меншая, чым да рок-музыкі. Таму я прывяду прыклад з жыцця музыканта, чые паводзіны нагадваюць паводзіны Валерыя.

Іван Маркаў, кіраўнік рок-гурта «Бонда», працуе на тым жа мастацкім камбінаце. Ён, як і Валерый, выконвае заказы, займаецца той жа халтур-творчасцю, з той толькі розні-





цай, што ён — разбяр. Таленавіты гітарыст з «Бонды», аднаго з самых папулярных і любімых рок-гуртаў на Беларусі, таксама вымушаны падзяляць свае працы на першасныя і другасныя. Першасным Іван Маркаў лічыць рок-музыку, другасным — працу ў камбінаце. Так і Валерый Мартынчык за сапраўднае прымае свой абстрактны жывапіс, а за несапраўднае — манументальныя заказы.

Пасля гэтых прыкладаў, думаю, вельмі лагічным будзе задаць пытанне. Чым займаюцца ў нашым мастацкім камбінаце? Халтурамі? І адказ вынікае з пытання. У нашым мастацкім камбінаце займаюцца і халтурай! А калі зірнуць на філармонію? Першыя месцы ў хіт-парадах займаюць не філарманічныя калектывы. Але гэта не з рубрыкі «Вернісаж»... І мы вернемся да сваіх палотнаў.

Дваццаць гадоў мастак займаўся «падпольным» мастацтвам, у той час як афіцыйнае мастацтвазнаўства апошнімі словамі ганіла абстракцыянізм, пап-арт, ап-арт, кубізм, сюррэалізм, дадаізм, маньерызм і шмат іншых стыляў сучаснага і несучаснага жывапісу. Дваццаць год Валерый Мартынчык штодня браў у рукі пэндзаль, каб давесці сабе і іншым, што мастацтвазнаўцы памыляюцца, што нам проста неабходна, як і кожнаму цывілізаванаму народу, прайсці школу сусветнай культуры, каб унесці ў яе свой здабытак.

Можа, каму з мастакоў яго паводзіны здаюцца дзівацтвам і глупствам. Напэўна, так. Асабліва тым, хто робіць толькі вярняк. А я перакананы ў тым, што хопіць гэтых падполляў, падпольнага року і падпольнага авангардызму, хопіць і афіцыёзнай эстрады, і афіцыйнай халтуры. Бо калі людзі здатныя ахвяраваць дзеля абстракцыянізму і року дваццаць год жыцця, значыць, і рок, і абстрактнае мастацтва маюць права не толькі на ляжанне на паліцах і праслухоўванне ў сутарэннях.

Пасля напісання гэтых накідаў я завітаў да Валерыя Мартынчыка, і мы разам адабралі яго творы на «выставу» ў «Крыніцы»:

1. «Гульні ў прасторы», 1986 год, палатно, алей, 60×70 (3) см
2. «Абед канібала», 1983 год, палатно, алей, 60×80 см
3. «Правакацыя», 1979 год, палатно, алей, 220×200 см
4. «Свята ў правінцыі», 1985 год, палатно, алей, 220×200 см
5. «Зона суцяшэння», 1986 год, палатно, алей, 220×200 см



# ДОЧКІ-МАТКІ

Пачатак на стар. 20.

медыцынскай камісіі. Яму служыць, і ў якіх войсках — не ўсё роўна.

— Апошнія гады ваенныя дактары занепакоены: у многіх падлеткаў захворванні, паталогія мочаполавай сістэмы,— пачуў я ў Міністэрстве аховы здароўя БССР.— Вядома, пра полавую сілу салдата ў арміі клапоцяцца зусім не ў першую чаргу. Але ж пасля службы, калі прыходзіць час стаць бацькам, ён ужо ім стаць не можа... Тысячы маладых людзей клянуць свае юнацкія сексуальныя радасці.

Хлопчыкамі як патэнцыяльнымі бацькамі пачынаюць «займацца» толькі перад прызывам у Савецкую Армію.

А дзяўчынкамі? Яны ўпершыню бачаць гінеколага на школьных медаглядах. Неабходна заўважыць, што такія агляды не паўсюдныя. Вядуцца яны па ініцыятыве асобных дактароў. Таму што, назавём рэчы сваімі імёнамі, дагэтуль з'яўляюцца процізаконнымі: нельга аглядаць падлетка без згоды бацькоў. А дамагацца згоды ў кожнай сям'і — нерэальна.

Заканчваючы гэтую кароткую размову пра «далікатныя праблемы» школьнікаў, нельга не згадаць: пятнаццацігадовыя нявесты былі і сто, і дзвесце гадоў таму. Нікога гэта не бянтэжыла. Наадварот, амаль нормаю лічылася. Сёння, як мы ведаем, фізіялагічна людзі сталеюць хутчэй, чым яшчэ на пачатку стагоддзя. Але ўся розніца паміж падлеткам-жонкаю мінулага і дзяўчынкай-жанчынаю сённяшняга вось у чым: прабабкі цяперашніх школьніц станавіліся законнымі жонкамі і маткамі. Бралі на сябе жаночую долю ва ўсёй яе паўнаце. Няхай і на золку сваёй маладосці. Гэтага сёння няма.

Паводле статыстычных дадзеных за апошні год, шлюбы ў рэспубліцы заключаюцца ва ўзросце 20—24 гадоў. Прычым на кожныя 27 шлюбаў — 8 разводаў. І сярэдняя працягласць сумеснага жыцця маладых да рашэння развітацца — 5—9 гадоў.

Звернем увагу на лічбы 20—24. Гэта ўзрост заканчэння вучобы ў тэхнікуме ці інстытуце, час пачатку працоўнае дзейнасці. Гадоў у дваццаць — трыццаць пяць чалавек ужо мае, вядома, пэўны жыццёвы вопыт. Хто — сумны, хто — выдатны, хто — проста добры.

## III. ШЧАСЛІВАЕ СТУДЭНЦТВА

- МАЛАДОСЦЬ І КАХАННЕ — СЁСТРЫ
- МЕСЦА СУСТРЭЧЫ — ІНТЭРНАТ
- ВЯСЕЛЛІ НА АПОШНІМ КУРСЕ

Неразумна думаць, што ўсе чатыры ці пяць гадоў вучобы ў ВНУ нават былыя школьніцы-нявінніцы і салдаты, якія не зведалі яшчэ «тайны полаў», цярпліва і ўпарта захоўваюць сваю цнатлівасць. Сцены любога студэнцкага інтэрната — пастаянныя і міжвольныя сведкі трагедый, падзенняў і непаўторнага шчасця маладых.

Любая бабуля-вахцёрка лічыць сваім абавязкам рэгуляваць працягласць сустрэч закаханых, інфармаваць па магчымасці іхніх бацькоў, дэканат, а то і з дапамогаю каменданта і аператрада ўмешвацца, «ачышчаць» адносіны Яго і Яе.

Бабулі-вахцёркі — гэта адзіныя службовыя асобы, якім ёсць справа (ад нуды) да праблем закаханых ці тых, хто проста «рве кветкі жыцця».

Багата маладога шчасця разбіта падазрэннямі ханжаскай старасці. Але некаторыя сем'і і абавязаны ёй сваім стварэннем.

Студэнты не любяць сваіх інтэрнатаў. З іх яны ахвотна ўцякаюць — хто на стадыён, хто ў піўбар ці кафэ. Такая рэальнасць.

Добрыя ці дрэнныя студгарадкі, інтэрнаты ў іхнім сённяшнім выглядзе? Напэўна, хутчэй усё ж такі дрэнныя, чым добрыя. Ва ўсіх адносінах.

Студэнты — людзі дарослыя. І ў іх сваё, дарослае жыццё. Калі вы чуеце, што студэнт і студэнтка «сябруюць», не падумайце, што яны дзеляць толькі канспекты. Часта па два- тры гады да прыходу ў загс яны ўжо лічаць сябе сям'ёю. Толькі без штампа ў пашпартах. Гэта адбываецца таму, што ў іх, калі яны знаходзяць адно аднаго, адразу ж з'яўляецца мора праблем. Ад жыллёвай да банальнай — грошай. Так што няма нічога дзіўнага ў каскадах вяселляў выпускнікоў.

Вяселлі апошняга курса — ужо даўняя студэнцкая традыцыя. І не сімпатычная, шчыра кажучы, традыцыя. Хаця б таму, што да гэтага часу перад дзяўчынаю-жонкаю зазвычай мінімум адзін раз узнікае цяжкае пытанне: «Раджаць ці чакаць дыплома?»

За год з кожнае тысячы беларускіх жанчын шэсцьдзесят чатыры перапыняюць цяжарнасць. Значная колькасць з іх — студэнткі. Будучыя спецыялісты і — можа быць — няшчасныя маці.

Іх (даўно ўжо не нявінніц) наіўнасць у полавых пытаннях шакіруе гінеколагаў. І ў гэтым таксама няма ніякае загадкі. Проста «навуку кахання» студэнты спасцігаюць нашмат больш павольна, чым іншыя навукі. Іх не вучаць нават таму, што ў развітых краінах тлумачаць школьнікам. Вось гэта ўжо не проста дрэнна — гэта злачынства.

Цяпер такое назіранне.

Студэнтка, у якой у сумачцы знойдзены вядомыя сродкі засцярогі, можа пачуць самыя грубыя насмешкі. А да яе аднакурсніцы, якая «легла ў бальніцу», ідуць, спачуваючы, дэлегацыяй і нясуць яблыкі.

Увогуле, цяжка здзіраецца з нашых твараў маска ханжаства. У Міністэрстве аховы здароўя БССР я пачуў цікаўную фразу:

— СНІД у рэспубліцы ёсць, а прэзерватываў няма. Вы можаце ўявіць сабе скаргу ў «Кнізе скаргаў» аптэкі на адсутнасць прэзерватываў? Ды пры самым гэтым слове ўсе чамусьці чырванеюць. А чаго чырванець? Па гарэлку стаім з гонарам, процізачаткавыя купляем — бы крадзём.

У Мінску і абласных цэнтрах сёння з кожных ста гараджан дваццаць пяць дзяўчат і дваццаць шэсць юнакоў. Дэфіцыт нявест! Увогуле па Беларусі юнакоў ад шаснаццаці да дваццаці дзевяці гадоў на шаснаццаць тысяч болей, чым іх равесніц — дзяўчат.

Не трэба думаць, што ўсе шаснаццаць тысяч непазбежных халасцякоў прымусяць сябе зусім абыякава ставіцца да прыгожага полу. І не захочуць стаць бацькамі. Не, усе юнакі мараць пра «чыстую дзяўчыну», дзяцей, моцны і верны саюз сэрцаў.

Мары — марамі. Рэальнасць не надта падбадзёрвае. Што ж рабіць? Не задача журналіста даваць такія адказы. Але вось пра што хочацца сказаць у канцы гэтых нататак.

Полавае выхаванне, якім цяпер ніхто не займаецца, неабходнае. Неабходнае з дзіцячага садочка, з першых класаў. Полавую асвету і ўсю санітарную работу нельга весці метадам запалохвання. «Страшныя» плакаты пра шкоду абортаў — гэта смешна. Таму што дастаткова перапыніць цяжарнасць адной дзяўчыне, а праз год-два радзіць, як дзесяць яе сяброўак перастаюць верыць разумным папярэджанням у неразумнай форме.

Нам патрэбныя добрыя, разумныя і папулярныя кнігі «пра гэта». Няхай не Фрэйд, няхай нашыя аўтары. Але масавымі тыражамі.

Гутаркі сексолагаў больш патрэбныя ў старшых класах і ў студэнцкіх аўдыторыях, чым у бальніцах, калі ўжо позна. Спецыяльныя медыцынскія агляды неабходныя і дзяўчынкам і хлопчыкам. І няхай у час сустрэчы з падлеткамі дактары тлумачаць дзяўчатам, што яны могуць звяртацца ў жаночыя кансультацыі, купляць (раз ужо факт ёсць факт) процізачаткавыя сродкі. І што пры гэтым не трэба баяцца званка ў школу, паведамленняў пра «падзенне» дачкі яе бацькам.

Нам патрэбнае здаровае грамадства. А не грамадства маралістаў ці разумнікаў, на якіх раптам найшло «прасвятленне» і якія пакутуюць на полавую немач.

Наталля ГРОМАВА,
спецыяльны
карэспандэнт

# «РАТУЙЦЕ НАШУ ШКОЛУ АД НАСТАЎНІКА...»




**«...Ён начаваў у сене, еў кансервы, а ў школе і ў вёсцы яго лічылі «прыпыленым». З ім толькі пагаворыш — і ўсё ясна. А ён амаль два гады дырэктарам нашай Ратміравіцкай школы быў... Потым прыслалі такую «кадру», што смяяліся нават куры: паспела ўжо пабіцца з вучаніцай 7-га класа. І яшчэ сталі прысылаць у школу працаваць настаўнікамі учорашніх дзесяцікласнікаў — вось і атрымліваецца цяпер, што вучні абдымаюцца на ўроках з настаўніцамі...»**

(З ліста жыхароў пас. Ратміравічы Акцябрскага раёна.)

**«У Цярухскай школе, дзе вучацца нашы дзеці, вядзе ўрокі А. А. Антоненка. Нам стала вядома, што гэты настаўнік разбэшчваў непаўналетніх вучняў. Займалася яго справай міліцыя, сабрала багаты фактычны матэрыял і перадала ў Гомельскае райана для разгляду. А там, на вялікае наша здзіўленне, паклалі гэтую справу пад сукно і вырашылі яе «замарозіць»...»**

(З ліста бацькоў вучняў сярэдняй школы в. Цяруха Гомельскага раёна.)

**«Да вас звяртаецца маці дваіх дзяцей. Мой старэйшы сын вучыцца ў пятым класе. Нядаўна ён назваў дырэктараву жонку зняважлівым словам. А выклікана гэта было тым, што яна, настаўніца пачатковых класаў, адхвастала яго па шчоках, а дырэктар школы пастаянна абражае яго такімі словамі, як «шчаня», «смаркач», «гадзёныш», «дыстрофік» і г. д. Без дай прычыны выклікае ў настаўніцкую і пачынае разбірацца: спачатку трасе за карак ці выкручвае вушы, а потым — дапытвае...»**

(З ліста Н. Тахтамышавай, жыхаркі пас. Хутар Светлагорскага раёна.)

«Настаўнік—выхавай вучня»,— першае, бадай, што згадваеш, калі пачынаецца размова пра гэтую паважаную прафесію. Хаця на фоне прыведзеных вышэй урыўкаў з усхваляваных бацькоўскіх лістоў фраза гэтая здаецца ледзь не здрадаю. Яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў назад паняцці «настаўнік», «выкладчык» змяшчалі ў сабе ўсё самае годнае, мудрае і чалавечнае. Сёння яны проста спалучаюцца з вызначэннямі «махляр», «распуснік», «грубіян». І гэта, як я заўважыла, не вельмі хвалюе тых, хто займае кіруючыя пасады ў нашай народнай асвеце.

«Мы доўга будзем расплачвацца за перарваную сувязь часоў паміж вытокамі савецкай педагогікі і сённяшняй школай з яе бедамі і пошукамі»,— разважаў у адной з педагагічных дыскусій доктар філасофскіх навук прафесар В. Разумны.

— А ў чым, уласна, справа? Пра якую расплату ідзе размова? — можа абурыцца, між тым, нейкая Мар'я Пятроўна, якая сумленна прарабіла ў школе трыццаць гадоў, не парушыўшы ў ёй атмасферы лагоднага спакою і «павагі» вучнямі настаўніка: толькі веды і дабрыню сеяла яна ў юнацкія душы...

А ці прарасло ў іх усё гэта? Пра гэта Мар'я Пятроўна ніколі ў сябе не пыталася. Гэта не ўваходзіла ў яе кампетэнцыю. Нашая справа маленькая: вучыць.

Уяўляецца мне, што менавіта з такою думкай і ўваходзіла большасць прафесароў ва аўдыторыі педагагічных ВНУ: і ў іхні час большасць прафесароў таксама ўваходзіла ў іх аўдыторыі з гэткай жа прыкладна думкай. І вось — мінае пяць гадоў, багаж з ведамі ўпакаваны ў заліковыя кніжкі. Колькі тых ведаў, і якой яны якасці — усё ў кніжках дакладна разлінавана і дыферэнцыравана... Толькі — веданне законаў прыроды і грамадства само па сабе яшчэ не робіць, на жаль, чалавека прыстойным, сумленным, спагадлівым. Гэтыя якасці здабываюцца працай душы. Сумеснымі намаганнямі інтэлекту і пачуццяў. Права вучыць, выхоўваць не набываецца чалавекам аўтаматычна, як дадатак да дыплома. Яго, гэтае права, трэба асэнсаваць.

— Вальдэмар Анатольевіч, а ці зазіралі вы калі-небудзь у сябе? — памятаю, спытала я неяк, амаль у роспачы, аднаго з прадстаўнікоў гэтай паважанай прафесіі, які меў да ўсіх мноства прэтэнзій.

Адказам было непаразуменне, якое адразу ж змянілася злосным раздражненнем. А потым— акуратнае, быццам між іншым, папярэджанне:

— Я ўвогуле, вядома, вас не палохаю, але майце на ўвазе: магу і ў «Праўду» напісаць...

«Не суйся»,— адразу прыгадалася платонаўскае.

Калі даводзіцца размаўляць са старшакласнікамі, міжволі ловіш сябе на думцы, што яны проста імкнуцца не ўспрымаць усур'ёз сваё школьнае жыццё. Я маю на ўвазе той яго «раздзел», які ўмоўна можна назваць «адносіны з настаўнікамі». Магчыма, таму, што гэтых самых адносін зазвычай і няма. А ёсць, часцей за ўсё, толькі настаўніцкая дыктатура, падмуркам якой у большасці выпадкаў з'яўляюцца аргументы тыпу: 1) «Я старэйшы, таму...»; 2) «Я вымушаны вас выхоўваць, так што...»

Памятаю, увайшла аднаго разу ў кабінет дзяўчына і ў роспачы працягнула рукапіс:

— Я дзесяцікласніца, Ганна Соусь, артыкул вам прынесла.

Чатыры старонкі былі густа запоўнены дробным друкаваным тэкстам пад загалоўкам «Што ж такое педагагічны садызм?».

Прызнацца, я не адразу і знайшлася, як адрэагаваць на такі артыкул. Так і да гэтага дня ляжаць у маім стале чатыры спісаныя старонкі:

«Калі твая палкая фантазія, паважаны чытач, малюе табе магутнага мужчыну з велізарнай дубінай, які замахваецца на няшчаснага спалоханага вучня,— не вер сваёй фантазіі. Гаворка ідзе не пра фізічнае (хаця сустракаецца іншы раз і такое), а маральнае ўздзеянне на вучняў, якое стала ў нашы дні амаль што прафесійнай рысаю многіх настаўнікаў. Можна сфармуляваць нават некаторыя прынцыпы, што сустракаюцца найбольш часта, якія дазваляюць настаўніку лішні раз прадэманстраваць сваю перавагу. Напрыклад, шырока распаўсюджаны спосаб выклікаць слабых вучняў адказваць на цяжкія пытанні, каб, ведаючы загадзя, што «ахвяра» не адкажа, мець магчымасць здзекліва прачытаць ёй доўгую мараль. Ці наадварот: «вылічыць», калі не гатовы да ўрока добры вучань (а па ім гэта заўсёды відаць), каб з радаснай палёгкаю — «нарэшце падлавіў!» — уляпіць яму двойку».

— Неяк на савеце прафілактыкі правапарушэнняў давялося чуць, як «прапрацоўваюць» вучняў і іх бацькоў,— расказвае Ганна.— Ніводная маці не выйшла з кабінета без слёз: такія доўгія і страшэнныя былі настаўніцкія павучанні.

«А вось класічны прыклад «абвінаваўчай прамовы» нашага часу»,— чытаю далей «сачыненне» дзесяцікласніцы.

— З кім ты сябруеш? — пытае настаўнік у шасцікласніка.

— З Васем Івановым,— нясмела адказвае той.

— А дзе ён вучыцца?

— У ПТВ.

— А ці ведаеш ты, што многія дарослыя хлопцы разбэшчваюць цяпер малодшых і ў маральных і ў полавых адносінах? Хутка адказвай: чым вы там з ім займаецеся?!

Памятаю, як настаўніца ў адказ на нязгоду з нечым вучня крычала ў класе так, што было чуваць на ўсю школу: «Ненармальны! Злосці на вас усіх не хапае!» Увогуле, мы даўно ўжо прывыклі да таго, што настаўнікі развучыліся размаўляць, не павышаючы голасу...»

Забыліся многія з тых, хто прызваны сёння вучыць, пра простую і мудрую чалавечую і педагагічную ісціну: вучыць чамусьці іншага можна толькі тады, калі вучышся гэтаму сам. Узаемаспасціжэнне, узаемаўзбагачэнне, сумесны шлях вучня і настаўніка, пры тым, што асобы — абое, з той толькі розніцай, што першы — больш вопытны, другі — менш — на гэтым прынцыпе заснавана педагогіка.

Выпадковы чалавек у педагогіцы... Чым павернецца сустрэча з ім для вучня? Звычайным расчараваннем? Першай у жыцці спробаю бачыць? Крушэннем юнацкіх ілюзій? У кожным канкрэтным выпадку адказ на гэтае пытанне будзе свой. Нехта, мабыць, схавае яго ў сабе. А нехта адкрыта ўзбунтуецца.

«Заява. Дырэктару школы № 17 г. Брэста І. М. Дрыгайлоўскаму. Калектыў 9 «Б» класа не згодны з тым, што ўрокі гісторыі ў нас будзе выкладаць Вальдэмар Анатольевіч Харкевіч». І такі дакумент сустрэўся мне аднойчы ў дырэктарскім дасье.

«Хаця хто ў вас, уласна, пытаецца, «калектыў 9 «Б» класа»? — можна запярэчыць і тут.— Сёння вам не падабаецца настаўнік, заўтра — дырэктар, а паслязаўтра вы і ўвогуле вырашыце, што ў школу хадзіць не трэба...»

А калі адмовіцца ад ментарскага тону і ўслухацца ў гэты калектыўны голас, углядзецца больш пільна ў сэнс каліграфічна-круглых літар? «Не месца такому чалавеку ў школе». І гэта кажа вучань. Пра настаўніка.

А настаўнік, які разбэшчвае — не пабаюся гэтага слова — школу, лічыць тым часам, што «мною задаволеная абсалютная большасць вучняў», чаго не скажаш пра калег, на якіх ён таксама скардзіўся ў рэдакцыю...

— Гаварыць пра такіх людзей няварта. Гэта ж анамалія. Выключэнне. У нас багата іншых праблем,— успамінаюцца зноў жа словы адной з адказных асоб. І міжволі пачынаеш думаць, што ўсе «іншыя праблемы» і пачынаюцца якраз менавіта з гэтай. З праблемы школы. Праблемы выхавання.

І калі б задумваліся пра гэта сур'ёзна тыя, каму давераны сёння лёс народнай асветы, змяніцца ўвогуле магло б многае. Мабыць, не давялося б працаваць майстрам вытворчага навучання Цярухскага ВВК пацыенту наркалагічнага дыспансера, шпіталізаванаму раней у 2-ім аддзяленні Гомельскай псіхіятрычнай бальніцы А. Ф. Ксяндзову. Не кралі б на працягу некалькіх гадоў школьную маёмасць былыя дырэктары Гомельскага раённага Дома піянераў Т. Г. Камрукова (якая, між іншым, працуе настаўніцай і дагэтуль), Раманавіцкай СШ Гомельскага раёна П. І. Сяркоў. І не давялося б, відаць, правяраючым прыводзіць у афіцыйнай справаздачы, як кажуць, «на поўным сур'ёзе» анекдатычную інфармацыю пра тое, што «ў адным пакоі прышкольнага інтэрната (Гомельскі раён), які лічыцца адначасова і спальняй і памяшканнем для заняткаў і адпачынку, спяць хлопчыкі, дзяўчынкі і начны вартаўнік школы, а для абслугоўвання чатырох вучняў інтэрната там знаходзіцца штат з пяці чалавечых адзінак з месячным фондам зарплаты 430 рублёў (1,5 выхавальніка, 2 няні, 1 кухар, які ніякай ежы для інтэрната не гатуе, і 0,5 прыбіральшчыцы, яна ж — машыніст па мыцці бялізны)».

Я далёкая, вядома, ад думкі, што гэтыя мае «ілюстраваныя разважанні з нагоды» могуць кардынальна змяніць змрочную антыпедагагічную сітуацыю, якая склалася ў багата якіх школах: гэта зрабіць не можа пакуль, як бачым, нават школьная рэформа. Але ўсё ж такі...

ШЧЫРА

# МОВА, ГІСТОРЫЯ, НАРОД

**«Очень не плохой журнал «Родник» — хороший и интересный, хороший материал, злободневен. Но вот на странице 5 см журнал № 3 — 1988, студентка Шепелевич очень ратует за наш родной язык.**

**То, что он самый паршивый, грубый, очень непонятный для белорусов, нужен переводчик. Вот Вам пример: в каком магазине Вас поймут если Вы спросите дайте — шкарпетки, панчохи, pатeлня, чапяла, анучи, а как по-белорусски смирно. Равняйсь — шнуруйся. Смирно — ..! напупырся.**

**Выпустите свой журнал на родном телячьем языке и он будет лежать, как и все книги на белорусском языке.**

**Простите, что плохо написано, пишу лежа! в больнице.**

**С уваж. С. Требенчук.**

P.S. **Он изживает себя как морально так и юридически. И пора прекратить препадовать его в школах, колечить наших детей. Чем плохой язык Пушкина, В. И. Ленина, М. Горького».**

Вось такі ліст атрымалі мы ў красавіку. Ліст ад чалавека, які ляжаў у бальніцы. Хвораму трэба спагадаць, і мы шчыра спадзяемся, што наш карэспандэнт ачуняў, што ў яго ўсё добра. Няхай сабе нават яму не падабаецца беларуская мова, ці мала што і каму не падабаецца... Але ж нельга гэтак не ведаць, а праз тое калечыць і рускую мову — мову Пушкіна, які называў беларускі народ «издревле родным», мову Леніна, які ставіў у 1916 г. абарону роднай мовы беларусамі ў адзін рад з абаронай дэмакратыі і палітычнай свабоды, мову М. Горкага, які ў далёкай Італіі выпісваў «Нашу Ніву», чытаў творы Янкі Купалы і Якуба Коласа...

**«...я думаю о «белорусской кампании». Мне кажется, что это отнюдь не «воля народа», а каприз наших уважаемых «пісьменнікаў». (...) Я сам белорус, но всю жизнь говорил и, уверяю вас, буду говорить по-русски. Это мой родной язык, и мне кажется бестактным буквально силой насаждать «белоруссизм». Надо не белорусов переучивать, а, например, узбеков или эстов как следует научить. А то о дружбе народов на каждом углу кричим, а на деле... Это мнение разделяют все мои друзья, среди которых, кстати, достаточно белорусов.**

**Вот так. Думаю, если вы и опубликуете эти строки, то с великим национальным негодованием».**

Так пісаў у студзені наш чытач В. Сокал з Мінска. Цікава было б, калі б наш чытач назваў хоць адзін факт гвалтоўнага навязвання «беларусізму». Мы ведаем іншыя факты — як у 30—40-я гады жорстка, з размахам праводзілася па Беларусі антынацыянальная палітыка. Мы ведаем, што ў праскрыпцыйных спісах былі імёны Янкі Купалы і Якуба Коласа. Студэнт В. Сокал, мабыць, таксама ведае, што Сталіну захацелася «как следует научить» крымскіх татараў, а нядаўнім азербайджанскім кіраўнікам — карабахскіх армян. Да чаго гэта прывяло? Экстрэмізм нараджае экстрэмізм.

Калі мы прызнаем той пастулат, што сацыялізм гэта грамадства роўных людзей, дык павінны з неабходнасцю прызнаць, што сацыялізм — гэта таксама грамадства роўных народаў. Студэнт не памятае, а людзі старэйшага веку памятаюць, што газеты «Фізкультурнік Беларусі», «Калгасная праўда» (папярэдніца сённяшняй «Сельской газеты»), часопісы «Камуніст Беларусі», «Сельская гаспадарка Беларусі» выдаваліся на дзвюх мовах. Чаму ж у тых беларусаў, якія хацелі чытаць на роднай мове, гэтае права адбіралі? У законе запісана, што мову навучання для сваіх дзяцей выбіраюць бацькі. А дзе, скажыце нам, хоць адна беларуская школа ў Мінску? Няма выбару. Вось што можа выклікаць «национальное негодование», а не ліст В. Сокала, які не вінаваты ў тым, што менавіта гэтак разумее пытанне нацыянальнай мовы і культуры — яго навучылі гэтак разумець. Ніхто не забірае ў яго права размаўляць па-руску. Калі ласка. Але дазвольце, калі ласка, і нам пакарыстацца нашым правам на родную мову. Калі яна загучыць на стадыёне, у Палацы культуры, на вакзале, калі беларускія назвы паселішчаў і станцый будуць на аўтамабільных дарогах і чыгунках побач з рускімі і англійскімі, тады будзе сапраўднае раўнапраўе.

«Белорусская кампания» — не «каприз наших уважаемых «пісьменнікаў». Пра гэта сведчаць лісты чытачоў у нашу рэдакцыю. (Пісьмы С. Трабянчука і В. Сокала ў нашай пошце унікальныя.)

Часопіс «мог бы стать еще более интересным, если бы больше внимания уделял истории нашей республики»,— піша малодшы сяржант запасу Анатоль Сланеўскі з Навагрудскага раёна. Ён перакананы, што **«нужно поднять и обсудить такую острую проблему, как будущее белорусского языка». «Я прапаную Вам увесці рубрыку, якая б паслядоўна расказвала нам пра гісторыю роднага краю», «пачніце хаця б з XIII стагоддзя»,**— піша Пятро Каспяровіч з Баранавіцкага раёна. **«...хацелася б бачыць артыкулы, прысвечаныя гісторыі Беларусі»,**— далучаецца да яго І. Вашкевіч з Мінска. І дадае: **«На мой погляд, беларускую мову патрапіць ажывіць толькі места (горад). Пачне размаўляць места, інтэлігенцыя — будзе размаўляць і работнік, і вясковец, увесь народ». «Пишите больше материалов по истории»,**— патрабуе ад імя сяброў Л. Скідан з Гомеля. **«Очень хорошо, что вы поднимаете проблему белорусского языка. Не буду писать, насколько он красив и певуч. Об этом и без того немало сказано и написано. Но одно это проблемы не решит. Нужны административные меры».** У той час як студэнт В. Сокал хоча **«как следует научить»** узбекаў ды эстаў (дарэчы пра культуру: ужо даўно ёсць эстонская нацыя, а тут — «эсты»), студэнт Яўген Якімовіч, якога мы цытуем, піша, што **«наши прибалтийские соседи... могут нас кое-чему научить».**

Гісторыя і мова... Мова і гісторыя... Гэта лейтматыў тых лістоў, якія атрымлівае аддзел літаратуры «Крыніцы».

**«Трэба настойліва патрабаваць, каб родную мову нашы дзеці вывучалі... з першага класа,**— піша нам В. Баранава з Мінска і дадае: — **Вельмі прыемна, што з першага нумара часопіса пачынае друкавацца гісторыя нашай Радзімы, Беларусі ў асобнасці. Хочацца верыць, што гэтая нітачка гісторыі будзе мець свой працяг у кожным нумары «Крыніцы».** Наша чытачка — не з пісьменнікаў: яна жыве ў рабочым інтэрнаце, не мае тэлевізара. А вось словы інжынера з аб'яднання «Інтэграл» Сяргея Дычка: **«Я за тое, каб людзі шанавалі сваю родную мову, ведалі сваю гісторыю, не выракаліся культуры свайго народа, паважалі сябе, паважалі добрых суседзяў». «За апошнія дзесяцігоддзі неяк знізіліся адносіны да сябе як да народа, да нашай культуры. Ды і як можа быць інакш, калі, пачынаючы з такіх пасёлкаў, як Азарычы, нідзе няма беларускіх школ, я ўжо не кажу пра наш Светлагорск,**— канстатуе В. Маладзьянаў і працягвае: — **Калі будзеце пісаць пра гісторыю Беларусі, а пісаць трэба абавязкова і як мага больш і асабліва пра старажытную гісторыю, то не звяртайцеся да сучасных блытанікаў...»** Лабарантка Ніна Мацвеенка з Мінска прапануе нашай увазе цэлую праграму асвятлення краязнаўчых праблем. Гэта і дзеячы Беларусі, гісторыя Мінска ад старажытнага часу і ахова помнікаў архітэктуры. Прапануе яна абмеркаваць і такое пытанне: **«Почему мы мало говорим по-белорусски? (Мягко сказано: разговаривать на родном языке — признак дурного тона)».** Аб моўных праблемах і вывучэнні гісторыі беларускага народа нам пішуць таксама студэнтка Ганна Барвенава (Мінск), рабочы-нафтавік з Крайняй Поўначы Кастусь Юркавец, пчаляр Мікола Папека з Пружанскага раёна, «дзіця вуліцы», як ён сам адрэкамендаваўся, Станіслаў Аўгусціновіч з Мінска, Анатоль Калантай з Мінскага раёна, Ст. Гарадкоў з Гомеля, іншыя чытачы.

**«Спасибо вам, что вы взялись за поднятие белорусского духа, культуры, «напомнили», что у белорусов существует национальный язык, такой прекрасный»,**— піша Зоя Ледаўская. **«Я в свои 17 лет не знала, откуда возникло название Белая Русь, Белоруссия»,**— прызнаецца яна. **«Да, белорусский язык отмирает,**— канстатуе выхавацелька дзіцячага садочка ў Брэсце З. Мілеўская,— **и надо что-то делать, спасать его».** Далей чытачка тлумачыць, чаму яна піша па-руску: беларускую мову вывучала ў васьмігадовай школе; у педвучылішчы было толькі некалькі гадзін на тыдзень для роднай мовы. Наша чытачка піша: **«Наверное, все-таки стоит задуматься нашим работникам просвещения, а также властям...»**

Калі Ніна Мацвеенка прапанавала нашай увазе праграму асвятлення краязнаўчых праблем, дык Ігар Місцюкевіч з Масквы прапанаваў праграму паляпшэння вывучэння беларускай мовы і гісторыі Беларусі. Вось яна. **Першы этап: 1) праводзіць экзамены пасля 8-га і 10-га класа як па рускай, так і па беларускай мове і літаратуры; 2) пачаць вывучэнне беларускай мовы і літаратуры ў школах з рускай мовай навучання з 1-га класа; 3) выкладаць у старэйшых класах асобным курсам гісторыю БССР (такі прыклад ёсць у Літве) на беларускай мове і па новым падручніку, у якім аб'ектыўна была б адлюстравана гісторыя нашага народа. Другі этап: 1) навучанне ў СПТВ, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і ВНУ, якія рыхтуюць работнікаў сельскай гаспадаркі і культуры, настаўнікаў, праводзіць толькі па-беларуску; 2) зрабіць навучанне ва ўсіх школах рэспублікі толькі па-беларуску.**

Ігар Місцюкевіч жыве ў Маскве, але пісьмо напісана па-беларуску. Выклаўшы сваю праграму, ён дадае: **«Адзначу, што на беларускай мове змогуць вучыцца як беларусы, так і рускія. Наша мова славянская і таму зразумелая і не цяжкая для вывучэння».** У канцы свайго ліста ён пытае: **«Цікава, што пра ўсё гэта думаюць адказныя работнікі з Міністэрства асветы і Міністэрства культуры рэспублікі! Цікава, бо гэта іх хлеб. Ці, можа, яны прыхільнікі развіцця беларускай культуры без беларускай мовы! Адказы на ўсе гэтыя пытанні будзем шукаць на старонках Вашага часопіса».**

Як заўважылі чытачы нашага часопіса, рэдакцыя пайшла ім насустрач: з нумара ў нумар мы друкуем «забытыя» творы класікаў або яшчэ нядаўна «забароненых» паэтаў, з'явілася ў нас рубрыка «Постаці», пад якою мы будзем друкаваць матэрыялы аб выдатных дзеячах Беларусі.

Вырашэнню запушчаных нацыянальных праблем патрабуе карпатлівай работы, а не «как следует научить». На гэта ўвагу савецкага грамадства звярнула XIX Усесаюзная канферэнцыя КПСС. Нам трэба цвёрда памятаць, што У. І. Ленін марыў аб такім саюзе народаў, у якім яны жывуць і працуюць «вместе и наравне». Калі не «наравне» — значыць, нехта камандуе, мае большыя правы, прывілеі. І тады наступае той момант, калі ўжо з нацяжкай можна гаварыць пра «вместе». Падзеі ў Нагорным Карабаху паказалі, што «вместе» магчыма толькі тады, калі «наравне». А тое, што нам прапанаваў студэнт В. Сокал,— гэта рэха сталінскага часу і яго філасофіі.

Дарэчы, ёсць у нашай пошце адзін ліст, аўтар якога, 25-гадовы чалавек з Бабруйска, прачытаўшы апавяданні С. Свістуновіча (№ 3), падумаў: «Сколько ненависти у автора к И. В. Сталину, какой-то личной неприязни». Па праўдзе кажучы, нянавісці ў гэтых апавяданнях мы не заўважылі. Зрэшты, аўтар ліста вядзе гаворку не пра мастацкія якасці твора. Яго турбуе іншае: «Лично мое мнение — не стоит печатать подобные рассказы о человеке, которого давно нет и который, надо отдать должное, много сделал для народа». Што ж, кожны мае права на асабістую думку: і Сяргей Трабянчук, і В. Сокал, і А. Феакцістаў з Бабруйска, якога турбуе, што пра Сталіна пішуць «больше плохого, чем хорошего». Але вось яшчэ адзін голас (чамусьці ананімны): «Побольше рассказывайте о временах Сталина». Цяпер мы ведаем, што шмат якія праблемы бяруць пачатак там, у «временах Сталина»: і харчовая, і тавараў народнага спажывання, і, нарэшце, нацыянальная. Радуе, што сярод нашых чытачоў былі толькі два прыхільнікі метаду «как следует научить». Гэта сведчыць, што нашы чытачы ў сваёй большасці ўсведамляюць і важнасць праблемы, і яе складанасць.

**Аддзел літаратуры часопіса «Крыніца»**


АГЛЯД ЛІСТОЎ АГЛЯД ЛІСТОЎ АГЛЯД ЛІСТОЎ АГЛЯД ЛІСТОЎ АГЛЯД ЛІСТОЎ



Да службы ў арміі Міраслаў Шайбак нарабіў шуму ў літаратурных колах сваімі хоку. Шанавальнікі «традыцый» былі ці то супраць гэтага японскага жанру ў нашай паэзіі, ці то ім здавалася, што Міраслаў не здолеў перасадзіць тую кветку на беларускую глебу. Вярнуўшыся два гады назад з войска, Міраслаў ажаніўся і перайшоў на прозу.

**Міраслаў ШАЙБАК**

# КРОС

## АПАВЯДАННЕ

Цень пад ліхтарамі то неверагодна расцягваўся, перасякаў наўскос аснежаны асфальт, то сціскаўся, падкрадваўся да ног і рабіўся кантрастным. У перспектыве вуліцы з прыступкаў будынкаў складаліся сходы да поўні, што гойдалася між вострых карнізаў. Зімовы вечар паўнеў чысцінёю начнога паветра. Чалавек ішоў шпарка і лёгка, шырокімі крокамі і з пэўным задавальненнем таптаў мяккі снег высокімі бацінкамі. Снег злёгку рыпеў і разлятаўся камячкамі. Але чалавек не азіраўся і не глядзеў пад ногі. Яго позірк быў нерухомы. Нечакана чалавек убачыў чорную пляму на снезе, ступіў яшчэ некалькі нясмелых крокаў і спыніўся. Рэч, на якую глядзеў чалавек, была прысыпана снегам, але ў ёй угадвалася жалезнае кола памерамі са звычайную бляшанку, якое некалі круцілася пад дзіцячым самазвалам.

Чалавеку на выгляд было год дваццаць пяць. На ім былі: доўгі шырокі плашч, адпрасаваныя шэрыя штаны і чорныя бацінкі. Вецер варушыў зачасаныя дагары валасы. Чалавек дастаў з кішэні цыгарэту, пакруціў яе ў пальцах і кінуў на снег. Ён нават не глянуў, куды трапіла цыгарэта, а адразу пайшоў. Крокі яго рабіліся даўжэйшымі, і чалавек пабег, спачатку павольна, потым хутчэй і хутчэй.

«Трэба хутчэй бегчы,— думаў у гэты час чалавек, але ўжо не мог знайсці сілы і бег у адным тэмпе, як заведзеная металёвая цацка.— Толькі не ўспамінай, нашто варушыць перажытае? Каму гэта трэба? Усё памерла!» — разважыў чалавек сам сабе. Падэшвы яго бацінак амаль бязгучна прасавалі стэрыльны снег, але ў галаве адбіваўся грукат трыццаці ботаў.

Палігонная каманда бегла на зарадку па танкавай дарозе. Віктар, як старшына, быў першы, за ім цягнулася трыццаць стомленых салдат. Незашпіленыя кіцелі змоклі на плячах і пад пахамі, падкаваныя боты цяжка білі прамерзлую зямлю. Збілася агульнае дыханне і рытм — слабейшыя пачалі адставаць.

— Не расцягвацца! — крыкнуў Віктар.— Ногу ўзяць!

На два крокі за ім бег яго зямляк Гоша. Яны нарадзіліся і выраслі ў адным горадзе, нават мелі агульных знаёмых, і Віктару часам было прыемна адчуваць, што за ім заўсёды






ёсць нехта свой; тут, у войску, зямляк бывае бліжэйшы за сябра.

Віктар слухаў, як паступова страйнеў, наладжваўся тупат, і ўжо мог улавіць рытм, але больш крычаць не хацелася, ён пачынаў стамляцца, а да першай вышкі заставалася кіламетры з два. Ля вышкі звычайна адпачывалі, а потым зноў трэба было бегчы, толькі ў супрацьлеглы бок.

Чалавек прыбег да свайго дома, не спыніўся ў пад'ездзе. Ён пераскокваў цераз дзве прыступкі і хутка падняўся на свой паверх, адчыніў дзверы кватэры і, нарэшце, супакоіўся. Ён распрануўся, павесіў плашч на плечыкі, скінуў бацінкі і зайшоў на кухню. На непрыбраным стале валялася кансервавая бляшанка, ён схапіў яе і кінуў у адчыненую фортку. Бляшанка з лёгкім фырканнем знікла за акном.

— Ну колькі можна здзекавацца з сябе?! — гучна сказаў чалавек, але ў кватэры нікога не было. Ён сеў на хісткі зэдлік, запаліў цыгарэту і пачаў разглядваць воблачка дыму. Потым дацягнуўся рукою да пліты, адкрыў газ, выкінуў недапалак і закрыў фортку.

Да вышкі заставалася кіламетра паўтара, калі Віктар убачыў на дарозе рэч, якая нагадвала бляшанку з-пад кансерваў.

«Дзіўна, як яе не расплюшчыла? Пасярод танкавай каляіны ляжыць, а ўчора ноччу былі вучэнні. Хто сёння мог кінуць яе, гэтую бліскучую кансароўку?..»

Ён нават не мог успомніць, ці пачуў што-небудзь, калі Гоша наступіў на міну. Віктара моцна штурханула ў плечы, і ён страціў прытомнасць.

Вучэбна-тактычнае поле было зацягнута неглыбокім снегам і парэзана паралелямі танкавых дарог. Сям-там чорныя плямы вывернутай снарадамі зямлі парушалі геаметрызаваную прастору. Нізкае сонца слаба падсвечвала меншую палову неба.

На другі дзень у шпіталі Віктар тлумачыў незнаёмаму афіцэру, што не мог заўважыць прысыпаную зямлёю міну. Афіцэр згадзіўся з ім і спытаў, ці ведае ён бацькоў свайго земляка.

Чалавек стаяў каля акна і прыслухоўваўся да шыпення фаеркі. Пакой напаўняўся газам. Чалавек глядзеў праз замутнёнае шкло на начны горад, што зіхацеў у пражэктарным асвятленні. Коміны на дахах нагадвалі бастыёны, чырвоныя ліхтары на комінах заводаў складалі магічныя знакі. Яркая поўня была неверагодна блізкай, і, здавалася, што да яе можна дацягнуцца рукою. Чалавек бачыў свой адбітак у люстэркавай плоскасці поўні.

«Чаму мне так прыемна глядзець на сябе? Можа, гэта не мае рысы твару, а каго-небудзь іншага, толькі вонкава падобнага на мяне? У войску мяне часам блыталі з Гошам. Казалі, што мы падобныя. Дык, можа, і ў поўні павінна з'явіцца не маё адлюстраванне, а нешта іншае? Павінна, бо я вінен адно жыццё. Але чаму мне ўвесь час здаецца, што я бачу толькі сябе?»

Так разважаў чалавек і яшчэ яму хацелася ўспомніць Гошаў твар, але ён не мог, і з кожным разам на поўні маляваліся аблiччы болей размытыя і невыразныя ці зусім непазнавальныя. У адбітку ён зноўку бачыў сябе. Яму захацелася адчыніць фортку.

Чалавек выключыў газ. Выпіў вады з-пад крана і адчыніў акно.




# З ТЫХ, ХТО НАС ВЕДАЎ

## АПАВЯДАННЕ

**Осенний дождь во мгле!**
**Нет, не ко мне — к соседу**
**Зонт прошелестел...**

**Ранран ***

Максіма не стане ў лютым 1987 года, але «Вячэрні Мінск» не дасць на апошняй старонцы спачувальнага паведамлення, бо Максім на той час будзе толькі часова прапісаны ў Мінску.

Я спадзяюся, што аб трагедыі я даведаюся яшчэ да пахавання. Магчыма, мне патэлефануе Максімаў сябар.

— Ты пойдзеш на пахаванне? — спытае ён.

— Не, я не магу. Ты памятаеш, мой стары дом стаяў каля могілак, дык я з таго часу не магу глядзець на пахаванні.

— А яны ўсе прыцягнуцца: рэстаўратары, выкладчыкі, кіраўнік дыплома, і той, відаць, прыпаўзе і прамову будзе казаць, што Максім — мастак; але не ўзгадае, як з інстытута выключаў і з дыпломам колькі мучыў. Яны ўсе будуць гаварыць — Маскім мастак, а на выстаўкомах яго працы не бралі, здзекаваліся, няздарам называлі, казалі, каб кінуў маляваць, а заўтра ўсе прыйдуць і будуць гаварыць, як шкада ім хлопца.

— А ты пойдзеш? — спытаю я.

— Пайду, толькі я моўчкі пастаю, нічога нікому гаварыць не буду. Дый што ім усім скажаш? Яны не павераць, што гэта яны Максіма давялі. Яны думаюць, што ў іх чыстае сумленне.

---

**Пераклад Веры Маркавай.**

Мы развітваемся і доўга не будзем бачыць адзін аднаго. Але ўсё можа быць і не так.

Магчыма, пасля пахавання мне патэлефануе знаёмы рэстаўратар:

— Ты ведаеш, што Максім павесіўся? — спытае ён.

— Не.

— Учора пахаванне было, я ездзіў, шкада хлопца, але што зробіш. Хварэў ён цяжка. Ты, відаць, ведаеш, што вены рэзаў? І перад апошнім праглядам у інтэрнаце так нерваваўся — месца сабе не знаходзіў.

— Я не бачыў яго болей як месяц,— пераб'ю рэстаўратара.

— Ты ж з ім сябраваў, ці мне здавалася? А й праўда, каму ён такі быў патрэбны? Хаця не кажы — цікавыя працы ў яго былі. Але дзіўна, вонкава такі стрыманы быў, выхаваны...

— Нашто ты мне гэта кажаш?

— Я думаў, табе гэта цікава,— здзіўлена адкажа ён.

Хутчэй за ўсё рэстаўратар увогуле не пазвоніць і на пахаванні мы не ўбачымся, бо на пахаванне я так ці інакш не пайду.

Можа так здарыцца, што я сустрэну на вуліцы Максімаву дзяўчыну, яна пазнае мяне і заплача, я паспрабую супакоіць яе, але я гэтага рабіць не ўмею, і супакойваць не буду, яна сама хутка перастане плакаць, мы зойдзем у кавярню, і яна раскажа, як загінуў Максім. Раскажа і заплача.

— Яго забілі,— ізноў скажа яна са слязьмі.— Я ў той дзень была ў яго ў майстэрні, мы пасварыліся, як звычайна, мы ўвесь час толькі й сварыліся, не ў гэтым справа, я хачу сказаць, там побач нейкія мужыкі працавалі і захацелі выпіць у майстэрні, а Максім іх прагнаў і, здаецца, абразіў,— апошнім часам ён такі змучаны быў: абарона дыплома, ты ж ведаеш... Ён і мяне прагнаў, і я ішла, дык тыя мужыкі зноў там круціліся. Яшчэ падумала, што мо нельга яго пакідаць у такім настроі і з такімі «суседзямі». Я да следчага хадзіла, але ён мне не паверыў, сказаў, што ў іх не было падстаў для забойства, абяцаў толькі знайсці тых рабочых, а мне не паверыў. Не мог ён сам. Максім сам не мог,— яна зноў заплача, і мне прыйдзецца яе суцяшаць (а так бы не хацелася гэтага рабіць), захочацца проста ўстаць і пайсці.

Але, магчыма, мы не сустрэнемся або яна не захоча мяне пазнаць і не заўважыць на вуліцы ці проста не пазнае.

Я буду ехаць у настылым тралейбусе лютаўскім вечарам і са мною побач сядзе знаёмы выкладчык.

— А! Гэта ты? — нечакага ўзрадуецца выкладчык.

— Даўно не бачыліся,— адкажу я.

— Ты, відаць, яшчэ не ведаеш, што ў нас здарылася, я маю на ўвазе ў інстытуце? — спытае ён.

— Не.

— Ты ведаеш Максіма? Ну дык вось, яго больш няма, уяўляеш сабе — павесіўся. Ты ж яго добра ведаў. Столькі непрыемнасцей у інстытуце — усіх трасуць. Мне дык нічога, а для інстытута і яго дыпломнаму кіраўніку — столькі непрыемнасцей. Я ж Максіма таксама добра ведаў: ён мне дапамагаў у новую майстэрню пераязджаць,— я сам папрасіў, ты ж ведаеш — аднаму цяжка, ён мне і дапамог. Што ў гэтым такога: усе просяць. Ён, відаць, не толькі мне дапамог — тады многім майстэрні давалі. А я хацеў табе вось пра што расказаць. Можа, ты ведаеш, ён жаніцца збіраўся?

— Не, я яго даўно не бачыў,— адкажу я.

— Так, ён нікому не казаў, але гавораць, што збіраўся з гэтай, як яе, прозвішча — забыўся, а яна, як даведалася, што яго на перыферыю размяркоўваюць... Так вяселле і адклалі. Вось як бывае. Кажуць, ён перажываў праз гэта.

Тралейбус спыніцца на чарговым прыпынку, і мы разам сыдзем.

— Табе ў які бок? — спытаю я выкладчыка, ён махне рукою, і мы разыдземся.

Толькі якая верагоднасць у мільённым горадзе сесці ў адзін і той самы тралейбус з канкрэтным чалавекам якраз у лютым, калі мы працуем і жывём у розных раёнах горада?

Так ці інакш, я спадзяюся, што даведаюся ад некага з тых, хто нас ведаў, аб смерці Максіма. На пахаванне я не пайду. Магчыма, мне захочацца зайсці да яго ў майстэрню ў цэнтры горада.

Мне пашанцуе і ў майстэрні ў той вечар будзе працаваць нехта з яго аднакурснікаў. Ён адчыніць мне дзверы і прапануе зайсці. Я скажу, што прыйшоў паглядзець апошнія працы Максіма.

— Тут нічога няма,— адкажа яго аднакурснік.— Ён не ў гэтай майстэрні працаваў, тут нас шмат, а ў яго на краі горада майстэрня, ён там адзін быў, нікто не хацеў туды — далёка ездзіць.

— Можа, ты раскажаш, што там адбылося? — спытаю я.

— Яго кіраўнік дыплома знайшоў. Максім яму пазваніў і папрасіў прыехаць паглядзець працы. Покуль той даехаў... Цяжка там яму было. Кіраўнік дыплома казаў, што не на той аўтобус сеў і таму так доўга ехаў.

— Ты думаеш, ён наўмысна, як прадчуваў?..

— Не, яны памыліліся.

— Чаму «яны».

— Ён не ў той аўтобус сеў, а Максім час не разлічыў. Яны ўсе здзекаваліся з яго, вось ён і вырашыў адпомсціць,— пачую, што нехта ідзе і думаў пажартаваць, ён стомлены быў. А кіраўнік не ў той аўтобус сеў. Пакуль прыехаў — Максіма не выратавалі.

Максіма не стане ў лютым 1987 года, і ў некаторых яго знаёмых застанецца некалькі яго карцін і малюнкаў.

АДКРЫТЫ ЎРОК

**Ганна ХАРУЖАЯ**

# ДЫХАЙЦЕ ГЛЫБЕЙ...

**— Калі мы зможам нарэшце гаварыць пра тое, што нас хвалюе? Чаму настаўнікі нам пастаянна «затыкаюць» раты, калі мы хочам выказаць сваю думку? Мы пачынаем гаварыць — і адразу ж чуецца крык змоўкнуць, усталяваць парадак. А чаму, уласна кажучы, мы павінны замаўчаць? — усхвалявана гаварыла Аня Б.— Мы хочам, каб да нашых слоў прыслухоўваліся і не лічылі іх за пусты гук...**

**З класа пачуліся рэплікі, усе падтрымлівалі і апраўдвалі яе словы, выкрыквалі сваю думку. Камсорг папрасіла супакоіцца і выступаць па чарзе.**

**Слова ўзяў Ян А. І выйшаў да аўдыторыі з часопісам «Юность».**

**— Вось тут,— сказаў ён, разгарнуўшы часопіс пад рубрыкаю «20-я комната»,— ставіцца пытанне: каго павінна больш хваляваць перабудова ў школе, каму яна больш патрэбная: вучням ці настаўнікам!..**

**— І тым і другім! — пачуліся галасы.**

**— Я гэтаксама думаю,— гаварыў далей Ян.— Толькі ў нас у школе настаўнікі імкнуцца перабудаваць у большай ступені выкладанне, сам урок. Што ж датычыць стаўлення да вучняў, дык тут яны не толькі не перабудоўваюцца, але і не думаюць гэта рабіць. Не хочуць спусціцца да нас са сваіх недасягальных вышынь, шукаць для кантакту з намі простую чалавечую, шчырую мову.**

**Яна падтрымаў увесь клас. Усе сталі абмяркоўваць сказанае горача, з імпэтам, кожны дадаваў сваё, набалелае.**

**— Паслухайце, ды каму гэта ўвогуле трэба! — прадчуваючы, да чаго ўсё гэта прывядзе, сказала раптам Таня П.**

**— Ну чаму ж, я запішу, потым пагавару з настаўнікамі...— няўпэўнена сказала наша класная кіраўніца.**

**І ўсе, узбаджэраныя такой «увагаю», зноў пачалі абмяркоўваць, даказваць, спрачацца... Ніколі раней не праходзілі гэтак горача і бурліва камсамольскія сходы. У нас раптам сапраўды з'явілася вера ў перабудову ў школе, зацікнутай дагэтуль у ціскі фармалізму і школьных парадкаў.**

**Але вось прайшоў тыдзень. Самакіраванне, якое нам паабяцалі на пачатку верасня на святочнай лінейцы, нікому не дало ніякай самастойнасці. Памятаю, прапанавала «нестандартную» тэму палітінфармацый і адразу ж пачула ад класнай:**

**— Трэба перагаварыць з кіраўніцтвам: можа, не варта пра гэта!**

**«Вось табе,— падумалася,— і асабістая ініцыятыва...»**

**Наш школьны арганізатар па-ранейшаму гаворыць з намі толькі ўладным тонам: «Я не прашу, а загадваю». Пытанні, пра якія гэтак горача гаварылі на сходзе, так і засталіся спрэчныя, а шматлікія з розных нагод заявы класнага кіраўніка — пустымі фразамі.**

**Вось і выходзіць, што тады, на сходзе, проста «развязалі мех». Далі глытнуць свежага паветра — і адразу ж завязалі: каб мы не прастудзіліся. І не падумалі: а можа, мы — загартаваныя!!**

**г. Мінск.**






КІНАГАСЦЁЎНЯ

**Людміла САЯНКОВА,**
**Людміла ІСАКАВА**

# «УСЁ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД МАРАЛЬНАЕ ЎСТАНОЎКІ...»

**Першы фільм Аляксея Германа «Дваццаць дзён без вайны» прайшоў аднначасна ціха і гучна. Ціха — таму што не было глашатайскага ўхвалення, не было ўсеагульна-пампезнага прызнання. Гучна — таму што ўсе зразумелі, што сказана Слова, сказана тое і сказана так, чаго і як да Германа ніхто не казаў. Усяго адзін фільм — і з'явіўся кінематограф аднаго рэжысёра. Яшчэ два фільмы — «Праверка на дарогах» (альбо «Аперацыя «З Новым годам»), «Мой сябра Іван Лапшын» — і стала відавочным, што Герман — гэта эпоха ў кіно. Вось так яно і існуе на сённяшні дзень: кіно Аляксея Германа ў трох фільмах. Вось так і мы з вамі існуем побач з гэтым цудоўным мастаком, якога сам лёс абраў для яшчэ аднаго доказу вечнае ісціны: «Рукапісы не гараць». Нягледзячы на ўсе забароны, на ўсе меры, здзейсненыя толькі дзеля таго, каб знішчыць, талент выстаяў, ні ў чым не здраджваючы сабе. Талент рэжысёра — прымусіць мінулае ажыць у чалавечым лёсе, у пачуццях, гуках, прымусіць паглядзець на шмат разоў бачанае, чутае, прачытанае так, нібыта раней усяго гэтага і не бачыў, і не чуў, і не чытаў. Ён умее гаварыць праўду. Таму і з'яўляецца кожны ягоны фільм адкрыццём, таму і запамінаецца, таму і зразумелы і дарагі, таму і застаецца надоўга.**

**У самім Германе няма нічога пазёрскага і робленага. Ён просты і натуральны, шчыры і адкрыты.**

**— У вашым жыцці досыць шмат было крытычных сітуацый. Спачатку вам забаранялі здымаць, потым — паказваць. Стужку загадвалі знішчыць, вас — звольніць і дыскваліфікаваць...**

— Самае страшнае, што доктар забараніў здымаць. Так і сказаў: «Будзе здымаць — памрэ».

**— Чым жа ўсё-такі вы падтрымліваеце сябе ў цяжкія хвіліны, што выратоўвае?**

— Сябры. Падтрымлівае толькі адчуванне таго, што ты не адзін.

**— Ці пахіснуліся вы калі-небудзь? Ці заўсёды захоўвалі веру ў правільнасць і неабходнасць таго, што робіце?**

— Не-е. Заўсёды быў у поўным адчаі. Але выйсця не бачыў. У мяне заўсёды былі два пачуцці страху: страх начальства і страх зрабіць дрэннае кіно. Але паколькі я заўсёды бурліва стартаваў, нягледзячы ні на якое начальства, скандаліў, патрабаваў, каб дазволілі здымаць, то страх зрабіць дрэннае кіно быў большы. А вось цяпер не ведаю. Гадоў у пяцьдзесят (дарэчы, гэты час так і называюць — узрост подласці) у чалавека з'яўляецца тое, што стрымлівае яго: дзеці падрастаюць, здароўе псуецца. Трэба ж неяк аб гэтым клапаціцца. Вось і з'яўляецца страх начальства. Як толькі ён стане большы — тады я правалюся.

**— Якую пару вы цяпер перажываеце? Які страх мацнейшы?**

— Ведаю пэўна, што ў мяне былі досыць шчаслівыя гады, калі мне забаранялі працаваць, і досыць няшчасныя, калі дазволілі. Няшчасныя ў тым сэнсе, што ў мяне ўсё неяк пайшло наперакос. Быццам здымаў, ездзіў па ўсім свеце, быў прызнаны, прэміі розныя атрымліваў, а ў жыцці неяк развалілася, знікла пачуццё ўнутранай стабільнасці. Мне цяпер неяк усё роўна, што пра мяне пішуць, што і як гавораць. Збіраўся пісаць сцэнарый, але, прачытаўшы В. Гросмана, зразумеў, што атрымліваецца дробна.

**— Усе вашыя фільмы зрабілі ўражанне выбуху ў кіно. Яны былі напоўнены пранізлівым пачуццём часу. Ці можна адказаць на пытанне, адкуль узнікае такое пачуццё?**

— Ну, ведаеце, калі ў мяне пытаюцца: «Адкуль пранізлівае пачуццё», то ў мяне, апроч жадання ўзяць ваш тэлефон, нічога не ўзнікае. Бо не можа мужчына адказаць на пытанне: «Адкуль?» Адкуль я ведаю? Пастараўся. Бо праца такая. Капаўся ў матэрыяле, сядзеў у ім, думаў. Ну, а потым высветлілася, што мне трошкі пашанцавала. Літасцівы гасподзь даў мне сякія-такія здольнасці, а я проста пастараўся скарыстаць іх. Хаця, калі шчыра, адна з самых вялікіх маіх здольнасцей — сабраць вакол сябе калектыў, які хацеў бы працаваць са мною.

**— Акрамя фактаў, акрамя таго, што вы дакладна перадаеце час, вы яшчэ ўмееце дакладна перадаваць пачуцці людзей таго часу. У мастацтве з'ява не такая ўжо частая. Як гэта атрымліваецца?**

— Ну як жа можна адказаць на гэтае пытанне? Я вельмі стараўся перадаць пачуцці людзей таго часу. Я і здымаў, разумеючы толькі тое, што мне цікава перадаваць пачуцці людзей таго, мінулага, часу. Разумееце? Я здымаў карціны толькі тыя, у якіх мог падставіць замест героя сябе. Увогуле без гэтага пачуцця не магу нічога рабіць. У Твардоўскага ёсць верш, які для мяне вельмі многае вызначае ў мастацтве. Ён пісаў пра фінскую вайну, пра хлопчыка. Дык вось, паэт кажа, што нібыта гэта ён хлопчык, ён — адзінокі, няшчасны, ва ўсім — ён. У гэтым вось і ёсць светаадчуванне мастака. У маіх фільмах адбываецца тое ж самае: нібыта я — Лапацін, які прыехаў у далёкі Ташкент і пакахаў там жанчыну, нібыта гэта я — хлопчык, які з'явіўся ў «Лапшыне», нібыта я — герой Заманскага ў «Пра-

верцы на дарогах», з якім уся трагедыя і адбываецца. Вось так я стараўся зрабіць, разумееце?

**— З чаго нараджаецца ваш фільм! З адчування, памяці, асацыяцыі, дэталі, фразы, цішыні — з чаго!**

— Рускія пісьменнікі-рэалісты заўсёды гаварылі: «Мы не дактары, мы — боль». У мяне таксама многае нараджаецца з болю. І заўсёды ёсць жаданне перадаць боль чалавека.

**— Ці прымаеце вы тую тэрміналогію, якую адразу ж вывелі крытыкі, як толькі з'явіліся вашыя фільмы! Іх называюць фільмамі новай эпічнасці.**

— Што-што? Новай — што? Эпічнасці? Нічога не разумею. Увогуле, ніколі не збіраю і не чытаю рэцэнзій на свае карціны.

**— Як бы вы самі вызначылі жанр сваіх фільмаў!**

— Ніколі не думаў пра гэта.

**— Не станеце ж вы адмаўляць, што ў сваіх фільмах гаворыце на нязвыклай кінамове. Тым самым яшчэ раз давялі, што магчымасці кіно ў пазнанні жыцця невычарпальныя. Мова гэтая называецца гіперрэалізмам. Можа, інакш...**

— Ніякага гіперрэалізму няма. Праўда, мне ў нейкі момант здалося, што ў кіно можна неяк па-іншаму размаўляць. Я прачытаў адну забаўную рэч. Гаворка ішла пра тое, як у джунглях вырас вельмі адукаваны чалавек. Кніжкі ён чытаў старанна, праўда, кіно ні разу не бачыў. Калі ж выпала магчымасць упершыню паглядзець досыць прымітыўны фільм, то ён там нічога не зразумеў. Інакш кажучы, у кінематографе вынайдзена такая мова, якую разумее толькі той, хто з дзяцінства выхаваны на тэлевізары. Тут паказалі галаву аднаго чалавека, там — другога, цяпер — вочы, потым сказалі — закахаўся. Утрырую. Але, у прынцыпе, такой кінамовай валодае свет, спасцігаючы яе з маленства. Я ніякае рэвалюцыі не рабіў. Проста сказаў: «Давайце паспрабуем без гэтага, без гэтых маралізатарскіх штучак». Паспрабавалі здымаць без зваротных кропак. У маіх фільмах няма такога, калі я бяру вас за галаву, ваджу і паказваю: спачатку сюды, потым туды. Інакш кажучы, спачатку, вядома, я задумваўся над тым, як перадаць натуральнасць асяроддзя, паветра, гуку, паводзін. Ну, а потым — справа тэхнікі.

**— Прызнаеце вы за сабою права на адкрыццё ці не, але факт застаецца фактам. Вашыя фільмы духоўна ўзбагацілі нас. Прычым зроблена гэта на ўзроўні тае шчырасці, якую мы ў Платонава цяпер вычытваем...**

— Ну-у...

**— Па сутнасці, вашай пастаяннай унутранай тэмаю было і ёсць даследаванне духоўных вытокаў грамадства, у прыватнасці — інтэлігенцыі. «Мой сябра Іван Лапшын», «Дваццаць дзён без вайны» — пра час змрочны і цяжкі. Але гэта яшчэ і расказ пра людзей, якія ў такіх умовах захавалі маральную чысціню і духоўную ўзнёсласць...**

— Усё было: чысціня, узнёсласць — і дурасць. Вось якраз тое, што мы і збіраліся паказаць: чысціня — і дзікая дурасць. Верылі, што заўтра-паслязаўтра будзе ўсё добра. Не верылі ў суды — таго пасадзіць, гэтага прыстрэліць. Я і Лапшына рабіў чалавекам цудоўным і страшным.

**— Страшным!**

— Але, страшным. Памятаеце, як ён у лоб Салаўёву стрэліў? Той кажа: «Дзядзечка, не трэба, дзядзечка...»

**— Так, але...**

— Што «але»? А суд? А закон? Нічога не цікавіць Лапшына.

**— Але Салаўёў — страшны бандыт, ён там столькі ўсяго нарабіў...**

— А гэта ніякага значэння не мае. Не мае права чалавек, які па абавязку службы ахоўвае закон, незаконна пазбаўляць жыцця іншага чалавека. Бо тое ж самае можна было б зрабіць і з Лапшыным. Сказаў бы хто-небудзь, што ён трацкіст — і адразу ж кулю ў лоб.

**— Але па-чалавечы ўчынак Лапшына ў фільме зразумелы.**

— Па-чалавечы зразумелы, а вось фігура нованароджанага шэрыфа — страшная.

**— Вашыя фільмы па-рознаму ўспрымалі. Адны так заклікалі глядзець, як можна заклікаць сяброў не прапусціць штосьці вельмі важнае ў жыцці. Іншыя гаварылі, што вы ачарняеце рэчаіснасць, што гэта змрочныя-змрочныя фільмы пра змрочнае-змрочнае пакаленне, якое не магло б выйграць вайну.**

— Ды як вам сказаць... Пасля паказу «Лапшына» адзін вядомы, аўтарытэтны рэжысёр абураўся: «Што ты нарабіў? Усё ж было не так. Былі чыстыя, шырокія вуліцы, чыстыя кватэры». Я адказаў, што не дэкарацыі мы ж будавалі. Здымалі на тых вуліцах, якія былі цяпер і тады. Усё тое, што знята ў «Лапшыне» (дый не толькі ў «Лапшыне»),— праўда. Так жылі. У такіх кватэрах. Так елі. У мяне на ўсё пацвярджэнне ёсць. Я ж тысячы фатаграфій сабраў. Адусюль: з асабістага архіву, з архіваў сяброў, з дамоў састарэлых, з дамоў ветэранаў. У мяне была хроніка. А там і людзі, і трамваі. У мяне была праўда. Але спрацаваў псіхалагічны эфект: людзі інакш хочуць бачыць сваю маладосць. Мне адна жанчына крычала: «І гэта ў часы «Волгі-Волгі»?» Другі чалавек, вялікі начальнік, вялікі і разумны, запрашаў мяне ў кабінет, зачыняў дзверы, доўга гаварыў пра тое, як яму падабаецца мая карціна, а потым ушчуваў: «Чаго ты хочаш, Аляксей? Навошта мяняеш стандартны вобраз часу? Згодны: так жылі, гаварылі. Але ў людзей, якія жылі там у рэальнасці, усё іначай выглядае. Мы не можам табе дазволіць змяніць гэты стэрэатып успрыняцця. Ты ўжо нанёс у гэтым сэнсе ўдар па вобразе тылу ў «Дваццаці днях...», па вобразе патрызанскага тылу ў «Праверцы на дарогах». І адразу ж дадаваў, што карціна таленавітая. Праўда, дадаваў палохаючыся. А мяне звольнілі. І зарплату я не атрымліваў. І фільм быў спісаны ва ўбыткі. Увогуле кожная карціна цяжка давалася. Напрыклад, здымаючы «Дваццаць дзён без вайны», я пабіў рэкорд Савецкага Саюза: яе я здымаў трыста здымачных дзён. Дні падрыхтоўкі, мантажу, агучвання не лічу. Толькі здымкі. Яшчэ, па-мойму, ніводзін рэжысёр не пабіў гэты рэкорд.

**— Можаце падзяліцца сваімі сімпатыямі ў кіно!**

— Я прафесію люблю. Мне заўсёды падабаецца, калі ў фільме адчуваецца рэжысёрская мышца. Ёсць мышцы ў Клімава, Салаўёва, у вашых беларускіх рэжысёраў — Рубінчыка, Рыбарава. Люблю некаторыя фільмы пра маладых: «Ці лёгка быць маладым?», «Узломшчык», «Асса».

**— Вас не засмучае, што некаторыя карціны выкарыстоўваюць канструкцыі маскульта!**

— Ды я неяк на гэта не звяртаў увагі. Калі гляджу, дык разважаю: гэта я вікінуў бы, тое не здымаў бы. Напрыклад, у «Ассе». Але, у прынцыпе, я бачу азартнага чалавека, які азартна займаецца кіно, весела займаецца кіно. Нейкі шчаслівы чалавек — Сярожа Салаўёў, з барадачкай, вачэй ужо не відаць, гэтакі поўны. Але бязмежна абаяльны і заражае сваёй энергіяй. Ва «Узломшчыку» мне напляваць на панкаў-шманкаў. Ніхто з іх мне не падабаецца. У прынцыпе, я супраць таго, каб заігрываць з імі. Я за хлопчыкам сачыў. Трагічны лёс хлапчука — вось што галоўнае.

**— Вас не палохае тое, што нашае кіно пяройдзе на самаакупнасць!**

— Вельмі палохае. Гэта як у вершыку: «Каменщик, каменщик в фартуке белом, что же ты строишь? — Тюрьму». Мы ж паняцця не маем аб гэтай сістэме. Не ўяўляю, як пры гэтай сістэме будзе працаваць, напрыклад, такі мастак, як Іяселіяні. Як буду працаваць я, калі ўлічыць такі факт: у фільма «Мой сябра Іван Лапшын» няма копіі па Саюзе. Ён Дзяржпрэмію атрымаў, а копіі няма. Хачу пра гэта артыкул напісаць.

**— А ці не хацелі б вы напісаць якія-небудзь артыкулы, кнігі пра рэжысуру!**

— Ні ў якім разе. Многіх таленавітых рэжысёраў тэарэтычныя кніжкі і загубілі. Лічу, напрыклад, што Козінцава загубілі занадта вялікі густ і занадта вялікая эрудыцыя. Занадта разумны рэжысёр — таксама катастрофа.

**— Ці ёсць у вас упэўненасць у тым, што кіно можа ўплываць на маральнае ўдасканаленне грамадства, чалавека, як, напрыклад, добрая літаратура!**

— Цяжка адказаць на гэтае пытанне. Чалавецтва столькі ўсяго цудоўнага вынайшла, ішло, ішло да лепшага, а тут — ба-бах — Гітлер... Ва ўсякім разе, мяркую, што кіно ў роўнай ступені можа сеяць дабрыню і нянавісць, брыдкае і прыгожае. Усё залежыць ад маральнае ўстаноўкі таго, хто ствараe.





Віктар ЧАРОПКА

# ЧАС ПОДЗВІГУ НАСТАЎ

## Андрэй Полацкі

У гісторыі часта бывае, што за постацямі венцаносных асоб, з імёнамі якіх стасуюць цэлыя эпохі, губляюцца постаці іхніх паплечнікаў і сучаснікаў. Першым прысвячаюцца шматлікія гістарычныя даследаванні, з-пад пяра пісьменнікаў нараджаюцца аб іхніх дзеях раманы, яны трапляюць у школьныя падручнікі гісторыі, а другім наканавана зрэдку ценню мільгануць у іх за спіной. І рэдка калі дапытлівае вока даследчыка выхапіць са старонак летапісаў малавядомае імя, а калі ж гэта здарыцца, дык раптам адкрые для сябе незвычайную і значную асобу, і высвятляецца, што менавіта дзякуючы ёй той ці іншы дзеяч дасягнуў перамог і славы.

У нашым мінулым такі лёс напаткаў многіх. Нагадаем хоць бы Жыгімонта Карыбутавіча, Яна Гаштольда, Івана Хадкевіча, Сымона і Юрыя Алелькевічаў, Яна Карла Хадкевіча, Паўла Сапегу, Канстанціна Астрожскага... — Бяры любое імя — нязведаная старонка нашай гісторыі, сюжэты для раманаў, тэмы для манаграфій. Андрэй Полацкі таксама належыць да ліку такіх асоб.

Час, калі ён жыў,— гэта час Альгерда, Кейстута, Ягайлы, Вітаўта, Дзмітрыя Данскога. Чым жа быў слаўны полацкі князь, каб паставіць яго побач з магутнымі ўладарамі дзяржаў, вяршыцелямі лёсу народаў? Для тых, хто цікавіцца мінулым Беларусі, Андрэй Полацкі вядомы як удзельнік Кулікоўскай бітвы ды правадыр паўстання супраць вялікага князя літоўскага Ягайлы. І ўсё? Не, не ўсё.

«О соловей, летняя птица, вот бы тебе, соловей, пеньем своим прославить великого князя Дмитрия Ивановича и брата его, князя Владимира Андреевича, и из земли Литовской двух братьев Ольгердовичей, Андрея и брата его Дмитрия, да Дмитрия Волынского! Те ведь — сыновья Литвы храбрые, кречеты в ратное время и полководцы прославленные, под звуки труб их пеленали, под шлемами лелеяли, с конца копья они вскормлены, с острого меча вспоены в Литовской земле». Вось так узнёсла ўсхваляў герояў Куліковага поля аўтар Задоншчыны. Не, ён не перабольшваў, калі казаў, што Андрэй Полацкі і яго брат «с конца копья вскормлены». Іншага ад князя той час не патрабаваў. Бязвольных, палахлівых, не мужных у бранях чакаў лёс ізгояў і ахвяр болей магутных суседзяў. Князь не выбіраў свайго шляху — само нараджэнне і княскае паходжанне прымушала станавіцца на нялёгкую дарогу ваяра, палітыка, абаронцы сваіх земляў і народа. Гэтай дарогай крочылі ягоныя продкі, і іншай яму не выпадала. Настаўнік у маладога князя Андрэя быў варты — бацька, вялікі князь Альгерд. Мудры валадар, вопытны палітык, смелы воін, ён з князя віцебскага падняўся да вялікакняскага пасаду. Такім хацеў бачыць і свайго першынца і спадкаемца. З дзіцячых гадоў Андрэй побач з ім у паходах і сечах. Мінула семнаццаць вёсен і надышоў час стаць на крыло — пакінуць бацькоўскае гняздо.

У 1342 годзе беларуска-літоўскае войска пад зверхнасцю Альгерда адбівала нашэсце крыжакоў на Пскоўскую зямлю. Псковічы білі чалом віцебскаму князю: сядзь у нас, барані, як Даўмонт, горад ад крыжакоў. Замест сябе Альгерд пакідае свайго сына. Так Андрэй з'явіўся на даляглядзе гісторыі, і летапісцы ўпершыню ўнеслі ягонае імя ў аналы. Не паспеў малады князь і агледзецца на новым месцы, як падзеі, што адбыліся на Беларусі, вымусілі яго пакінуць Пскоў. У гэты час, засмучаны смерцю свайго адзінага сына Любка, які загінуў у сечы з крыжакамі, памёр полацкі князь Воін. Альгерд, які добра разумеў, што, каб узвысіцца над астатнімі сваімі братамі і захапіць уладу ў дзяржаве, яму патрэбна падтрымка полацкіх земляў, вырашыў пасадзіць на полацкі пасад Андрэя.

З тых часоў, калі сышлі з палітычнай арэны Ізяславічы, палачане, добра памятаючы, колькі няшчасця ім прынеслі рускія князі, запрашалі да сябе літоўскіх князёў — даўніх саюзнікаў. Таму ахвотна прынялі і Андрэя.

Пад звон святой Сафіі князь дае клятву верай і праўдай служыць Полацку. Цяпер на ўсё жыццё да ягонага імя далучаецца ганаровая назова — Полацкі. Ці здолее ён з годнасцю княжыць на землях, на якія «галоўным чынам абапіралася ... веліч Літвы»,— як дакладна сказаў пра іх значэнне праз два стагоддзі польскі канцлер Ян Замойскі?

І хутка абранніку палачан прыйшлося трымаць іспыт. Незадаволены тым, што Андрэй памяняў пскоўскі пасад на полацкі, Пскоў пачаў вайну. Мірным шляхам вырашыць канфлікт не ўдалося. «Тобе было княже сидети во Пскове на княжении»,— патрабуюць мужы-псковічы. Палачане Андрэя не пускаюць. Той шле ў Пскоў сваіх намеснікаў. Імі незадаволены псковічы. Пскоўскія дружыны пляндруюць полацкія землі. У адказ Андрэй вядзе сваіх вояў на пскоўскія.

Але не Пскоў быў галоўным ворагам палачан, а крыжакі — вось адкуль зыходзіла смяротная небяспека, вось хто марыў скарыць як палачан, гэтак і псковічаў у «славу святой царквы рымскай». Неаднойчы беларускія дружыны прыходзілі на дапамогу Пскову.

Чатыры разы (у 1366, 1374, 1375, 1377 гадах) Андрэй Полацкі адбівае нашэсці крыжакоў на полацкія землі і сам вядзе палачан пад Дынабург (сённяшні Даўгаўпілс), дзе крыжакі звілі сабе гняздо. Добра ўмацаваны замак захапіць не ўдаецца. Тады, каб перагарадзіць шлях у свае ўладанні, Андрэй Полацкі будуе непадалёк ад Дынабурга так званы «новы замак» (некаторыя даследчыкі лічаць, што гэта будучая Друя), адкуль і нападае на крыжакоў. Нямецкая хроніка апавядае аб адным з паходаў Андрэя Полацкага, у якім удзельнічала сто караблёў. Гэтае паведамленне цікавае для нас тым, што дае магчымасць устанавіць колькасць вояў у полацкай дружыне. Караблі князя Андрэя — гэта, мусіць, баявая ладдзя ўсходніх славянаў, якая брала на свой борт сорак і болей чалавек. Значыць, у Андрэя Полацкага была дружына дзесьці ў чатыры тысячы воінаў. Лічба на тыя часы значная.

Так у паходах і сечах гартаваўся характар Андрэя, сталеў яго вайсковы талент. Далёка за межы Вялікага княства сягала слава полацкага князя, усё часцей і часцей заносяць летапісцы ягонае імя на скрыжалі.

У 1358 годзе ён з палачанамі захапіў Ржэў і пачаў пагражаць Смаленску, а праз дзесяць гадоў — перад паходам Альгерда на Маскву — ваяваў Хорвач і Радню і прымусіў смалян прызнаць залежнасць ад літоўска-беларускай дзяржавы і ўдзельнічаць у паходах. Безумоўна, што Андрэй Полацкі ўдзельнічаў і ў далучэнні Бранскага і Ноўгарад-Северскага княстваў да бацькавай дзяржавы, і ў бітвах на Сініх водах, Страве і ля Рудавы, хоць прамых сведчанняў таму няма. Трэба ўлічваць, што ў гэтых вайсковых акцыях удзельнічалі амаль усе баявыя сілы Вялікага княства Літоўскага. Без палачан тут, верагодна, не абышліся.

Нямала папрацаваў на славу Айчыны Андрэй Полацкі. І ягонымі высілкамі мацнела яна. Так што на вялікакняскі пасад ён мог прэтэндаваць не толькі як першы сын, але і як бліжэйшы памочнік Альгерда.

## ГУМАР

Сяргей БУЛЫГА

# БАРБОСКА

На прывольных зялёных паплавах жыў верны сабака па мянушцы Барбоска. Авечак вартаваў. Строгі быў, але справядлівы работнік: ледзь што не так, адразу кусаўся. Авечкі баяліся Барбоску і ў статак збіваліся, дрыжэлі. А гаспадар Барбоску за гэта любіў, пагладжваў.

— Малайчына! — казаў.— Сапраўдны памочнік.

І Барбоска стараўся. Бегаў, ног не шкадуючы, глядзеў, каб ніхто нікуды не адбіўся, каб не ляжалі авечкі без справы, каб траўку скублі. Авечкі — стварэнні гультаяватыя, тупыя, ім без нагляду нельга. Бо толькі пры строгіх парадках яны таўсцеюць, а ад страху — навукай даказана — воўна лепей расце. Вось ён і палохаў, не даваў супакоіцца. То за нагу кусне, то ў вуха ўгрызецца, то ўначы разбудзіць, пагоніць куды вочы глядзяць...

Што казаць, усялякае бывала: недасыпаў, недаядаў верны сабака. Але служба ёсць служба, на цяжкасці не жалься.

А яшчэ кожнае восені — стрыжка. Вось дзе была пацеха! Гаспадар авечку паваліць, нажніцы шчоўкаюць, воўна ў бакі шматкамі, а авечка крычыць, вырываецца! Але Барбоска тут як тут — учэпіцца кіпцюрамі ды як зарыкае, як загаўкае — маўчыць авечка, самлеўшы. Гаспадар задаволены:

— Герой!

Барбоска аскаліцца, рады. Адчувае, што патрэбны. На гаспадара аддана глядзіць...

А авечак ні ў шэлег не ставіў. Пакорлівыя, баязлівыя — стрыгчы іх ды стрыгчы! Скажа, бывала, гаспадар:

— Кусі!

Ён адразу ж падскочыць, любую задавіць, на спіну закіне і да агню прынясе. І тады ў іх свята ўсю ноч з шашлыкамі ды з песнямі. Дакладней, гэта гаспадар спявае, а Барбоска яму падвывае. Ну, а калі праверка якая з'явіцца раптам, дык даложыць, што авечку ваўкі ўкралі.

Вось і жылі яны, не тужылі, стрыглі нясмелых авечак, а самі таўсцелі. Мацёры рабіўся наш Барбоска, мудрэў. Ён ужо больш не бегаў, а толькі крычаў:

— Гэй, хадзі сюды!

І падыходзілі да агню, не пярэчылі, хіба што на шампуры касіліся, дрыжэлі.

Ганарлівы стаў Барбоска, зазнаўся. Але справядліва, па праву. Вось, скажам, такое здарэнне было: гаспадар у даліну пайшоў і тры дні прападаў, дык Барбоска адзін управіўся. Ляжаў ля агню ды камандаваў. Так што гаспадар, вярнуўшыся, Барбоску ажно здзівіўся. Пасля, паеўшы, ляглі адпачываць. Гаспадар Барбоску абняў, гладзіць па шэрсці ды шэпча:

— Пастарэў ты, Барбоска, асунуўся. Але ўсё роўна я з табою не расстануся: ты мне на шапку пойдзеш, цёплая будзе памяць пра сябра! — і абняў мацней, мацней, мацней!..

Не спадабалася гаспадару, што ягоны сабака дужа ўжо самастойны, дыстанцыі паміж імі не прытрымліваецца. А ад гэтага крок да падрыву аўтарытэту.


НАЙБОЛЬШ ЗРУЧНЫЯ МЕСЦЫ Ў ЗАЛЕ



Не бяда, калі на канцэрт або ў тэатр вам дасталіся білеты «на галёрку».

Вазьміце з сабою тэатральны бінокль — і

САМЫЯ ЗРУЧНЫЯ МЕСЦЫ Ў ЗАЛЕ — У ВАС!

Дасканалы бінокль БГШ 2,3×40 важыць усяго 230 грамаў.
Кошт — 30 руб.
Прадаецца ў магазінах, якія гандлююць кінафотатаварамі.



ЦРКА «Рассвет».
Беларускае агенцтва па гандлёвай рэкламе.



СПЫНІ ІМГНЕННЕ



ДОБРЫ «АМАТАР»!

Двухаб'ектыўны, люстраны фотаапарат «Аматар-166В» такі просты, што на ім удалыя здымкі зробіць і пачатковец.

З поспехам здымаюць ім і слайды: фармат кадра — 6×6 см.

Кошт — 30 руб.

— ДОБРЫ АМАТАР,— скажуць усе, разглядаючы зробленыя вамі выдатныя здымкі.

ЦРКА «Рассвет».
Беларускае агенцтва па гандлёвай рэкламе.



СПЫНІ ІМГНЕННЕ


Уладзіслаў КВЯТКОВІЧ

# «СВЯТА» — ГЭТА СВЯТА!

— ...а чаму — «Свята»!

— А чаму б і не! «Свята» — гэта ёмістае беларускае слова, якое азначае не толькі афіцыйны «чырвоны дзень календара», і нават не проста народнае свята накшталт каляд ці Івана Купалы, але яшчэ і часцінку духу народа.

З Васілём Аляксеевічам Купрыяненкам, мастацкім кіраўніком ансамбля народнай музыкі, я сустрэўся за кулісамі аднаго са шматлікіх мінскіх Палацаў культуры. Размаўлялі аб праблемах народнай музыкі, а ў зале тым часам ішоў акт афіцыёзу — урачыстае «мерапрыемства» паводле добра абкатанага сцэнарыя: даклад — туш — узнагароды...

Уласна кажучы, «Свята» фальклорнае, якое выступала адразу пасля ўрачыстага акта, было прымеркавана да гэтага акта. Напэўна, у назве ансамбля была закладзена ідэя не такога «свята»...

— Мы прынцыпова не называем сябе фальклорным калектывам,— працягвае Васіль Аляксеевіч.— «Свята» — гэта ансамбль народнай музыкі. Тлумачу чаму: апошнія дзесяцігоддзі большасць калектываў, так ці інакш далучаных да народнай музычнай спадчыны, працавалі пад сцягам эстрадызацыі фальклору. Групе баяністаў ці балалаечнікаў падбіраўся вакаліст, падбіралася адзежа, часта няўклюдная і безгустоўная, наскрэбвалася некалькі дзесяткаў песень-баевікоў і ствааралася адпаведная рэклама. Да сапраўднай народнай песні гэтая прадукцыя амаль не мела дачынення, бо за аснову рэпертуару браўся фальклор не аўтэнтычны, а адаптаваны, інакш кажучы, не той, што жыве ў народзе, а дыстыляваны і выпусташаны.

«Свята» ж максімальна набліжае музычны матэрыял да таго выгляду, у якім ён выконваўся раней. Больш як 10 гадоў я выязджаю ў фальклорныя экспедыцыі, пераважна на беларускае Палессе. На ўсе музычныя нумары, што выконваюцца «Святам», у нас ёсць «пашпарт»: дзе, калі і кім запісаны нумар, ад каго пачуты.

— Можа, менавіта ў эстрадызацыі народнае музыкі карані яе непрыняцця моладдзю, асабліва гарадской!

— Магчыма. Паразітаванне на мастацтве ніколі не прыносіла станоўчых вынікаў.

— Сістэматычнае разбурэнне помнікаў гісторыі і культуры, грэблівае стаўленне да роднае мовы, з аднаго боку, і страта цікавасці да сваёй песеннай спадчыны, з другога,— гэта, напэўна, звёны аднаго ланцужка! Якая ж, у такім разе, мэта «Свята»!

— На жаль, гэта так. Піўная, пабудаваная на падмурку старажытнага храма, і страта ўласных фальклорных каранёў — з'явы знітаваныя, і інакш, як змяшчэннем шкалы духоўных каштоўнасцей, гэта не назавеш. Адсюль і наша галоўная мэта — вярнуць народу ягоную музыку, якая з-за розных прычын забываецца ці нават адмаўляецца.

З Васілём Аляксеевічам немагчыма не згадзіцца. І менавіта дзякуючы такім калектывам, як «Свята», беларусы, асабліва гараджане, знаёмяцца са сваёй народнай музыкай, дый не толькі з ёю, але і з народнымі інструментарыямі. Да канцэрта «Свята» я паняцця не меў, як гучаць калёсная ці смычковая рыля. А жалейка! А спяваючая саломка!

Я не перабольшу, калі скажу, што калектыў па-свойму унікальны. У любым канцэрце музыкі — не проста статысты, якія граюць на сцэне, а актыўныя ўдзельнікі народнага дзейства, народнага свята, бо «Свята» — гэта не толькі музыка. Гэта ўмела адрэжысіраваны сінтэз музыкі, слова, танца і сцэнічнае дзеі.

— Васіль Аляксеевіч, ідэальны глядач ці слухач, які ён!

— Ён думае. Ён зычлівы. Жадае слухаць нас і мае такую магчымасць.

Зрэшты, пасля канцэрта я зразумеў, што дарэмна пытаўся пра гэта. Ёсць журналісцкі штамп: «Твары людзей, якія пабывалі на канцэрце», ці «твары далучаных да невычарпальнае крыніцы народнае творчасці» «напаўняюцца нейкім унутраным святлом». Але ж сапраўды — напаўняюцца! На канцэрце «Свята» выклікалі на «біс», энтузіясты ў першых радах доўга скандзіравалі: «Малай-цы!»

Можа, гэта і быў ідэальны глядач!..



